ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

10 снежня 1993г № 49 (3719) Кошт 30 руб.





## ЗНАЁМЦЕСЯ: ФАНТОМ!

Які гэта жанр? Здымак? Малюнак? І тое, і другое. Значыць, сінтэз? Вынаходніцтва? Значыць... новы жанр? Вось што наконт гэтага гаворыць сам аўтар Ігар Бышнёў:

— Да гэтага я займаўся графікай, чорна-белай фатаграфіяй, графічным малюнкам, а на стыку ўсяго гэтага і нарадзіўся новы для мяне стыль. Я яго назваў фантомам. Фантом — гэта твор, які ствараецца чалавечым мозгам. Тэхнічная аснова яго такая: бярэцца фотаздымак — рэальны пейзаж, які не кадрыруецца, а друкуецца з кавалачкамі перфарацыі, а потым графічным пяром я ўмешваюся ў гэты пейзаж, змяняю яго, укладваю ў яго сваю думку, перажыванне, праблему, якая мяне хвалюе. Гэткім чынам мая творчасць нібы накладваецца на тое, што стварыла прырода. І ў выніку атрымліваюцца дзівосныя фантасмагорыі.

І ўсё ж, чаму ён нарадзіўся, гэты новы жанр з таямнічаю назваю «фантом»? Восем гадоў малады вучоны-арнітолаг Ігар Бышнёў працуе ў Бярэзінскім біясферным запаведніку. Усе гэтыя гады /і раней/ ён удумліва ўглядаецца ў прыроду. Тое, што бачыць, адбіваецца на яго шматлікіх здымках, у графічных малюнках, кнігах, кінафільмах. Здымкі Ігара Бышнёва час ад часу ўпрыгожваюць рэспубліканскую перыёдыку, значная іх частка склала два фотаальбомы, якія цярпліва чакаюць сваёй чаргі ў выдавецтве. Шмат яго здымкаў увайшло ў кнігу «Птушкі над Бярэзінай», якую сёлета выпусціла выдавецтва «Ураджай». Ягоныя трывожныя, нібы агалены нерв матухны-прыроды, графічныя малюнкі праілюстравалі кнігу «Зямля трывогі нашай». Цяпер Ігар працуе над кніжкамі-казкамі для дзяцей, вядома ж, аб прыродзе.

**І. ЖАРНАСЕК**



Кола дзён

***Вярхоўнаму Савету незалежнай дзяржавы Беларусь удалося ўсё ж, злёгку пагуляўшы ў заканатворчасць, дацягнуць сесію да выбараў у Расіі. Вырашэнне ўсіх найважнейшых пытанняў адкладзена на потым, пастаўлена ў залежнасць ад вынікаў выбараў у Расіі. Так, менавіта там, у каторы ўжо раз, будзе вырашацца і наш лёс, і нашая будучыня. Камуністы паціраюць рукі ў прадчуванні перамогі: як жа, у Летуве, у Польшчы — перамаглі партыі іх кірунку. І сапраўды, становішча ў іх сёння найзручнейшае: яны ў апазіцыі, яны могуць крытыкаваць, яны могуць сваю віну за развал эканомікі цалкам перакласці на дэмакратаў. А што дэмакраты? Ці апраўдаецца ельцынская тактыка на стварэнне бліжэйшымі ягонымі паплечнікамі сваіх партый? Што яна дасць — моцны дэмблок у будучай Думе, альбо народзіць новых хасбулатавых і руцкіх?.. Зрэшты, просім прабачэння ў чытачоў, што вымушаны ўслед за Вярхоўным Саветам паглядаць у бок Расіі, аналізаваць і прагназаваць развіццё сітуацыі там. Мы менш за ўсё звярталі б увагу на падзеі хай і ў суседняй, але чужой дзяржаве, калі б наш парламент пачаў, нарэшце, будаваць сапраўды незалежную Беларусь...***

## ЗВАРОТ ТЫДНЯ

Мінскі страйкам звярнуўся да грамадзян Беларусі з прапановай рыхтаваць агульнадзяржаўнае палітычнае выступленне. «Трэба давесці да лагічнага канца справу, пачатую ў 1991 годзе, — гаворыцца ў Звароце, — мы павінны дамагчыся не бясплатнага сыру, а рэформ, якія б дазволілі за кошт сумленнай працы добра жыць... Гэта немагчыма без адстаўкі ўрада Кебіча, стварэння пераходнага ўрада і правядзення датэрміновых выбараў у новы Вярхоўны Савет». Тэлефоны страйкама для сувязі 27-57-78; 27-13-16. У друку называюцца розныя тэрміны страйку — 10, 12 снежня г.г. і нават 19 сакавіка 1994 года.

## УГОДКІ ТЫДНЯ

Два гады таму ў Віскулях было падпісана пагадненне аб стварэнні СНД. Пасля таго падпісана яшчэ больш за 350 розных дакументаў. Але кожны новы не зблiжаў незалежныя краіны, а толькі аддаляў. І сёння адзін беларускі ўрад /ды парламент/ робіць выгляд, што верыць у перспектывы новага Саюза... Між тым, стала ўжо традыцыяй кожную чарговую сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў СНД пераносіць на больш позні тэрмін. І на гэты раз, запланаваная на 16—17 снежня сустрэча ў Ашгабаце, перанесена на 23—24 снежня. Прычына надзвычай важная: менавіта ў гэты час Казахстан будзе святкаваць Дзень нацыянальнай незалежнасці.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Мінскі гарадскі савет ТБМ імя Ф.Скарыны прапанаваў рэспубліканскаму савету таварыства выключыць з шэрагаў сяброў ТБМ Вячаслава Кебіча. За тое, што, нягледзячы на шматразовыя абяцанні, прэм'ер-міністр так і не стаў карыстацца дзяржаўнай мовай пры выкананні сваіх службовых абавязкаў. Спадзяёмся, што ў нашых варунках гэтая прапанова нікому не падасца смешнай і дробязнай.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Беларуская наменклатура /практычна цалкам «манкуртызаваная»/ стала не на нацыянальны, а, не пабаімся сказаць, на крымінальны шлях, на дарогу крымінальшчыны — раскрадання дзяржаўнай маёмасці, гандлю нацыянальнымі інтарэсамі. І як вынік — прыйшла да ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасці... Да 1 снежня 1993 года паводле пастановы Вярхоўнага Савета ад 23 лістапада ўрад павінен быў распрацаваць і прадставіць Вярхоўнаму Савету механізм функцыянавання беларускага разліковага білета як адзінага плацёжнага сродку. Аднак распрацоўка ў вызначаны тэрмін прадстаўлена не была. Замест гэтага спадар Кебіч і яго паручэнцы накіраваліся ў Расію да прэм'ера Чарнамырдзіна з тым, каб, вобразна кажучы, стаць на калені і таргавацца аб здачы Беларусі. Гандаль скончыўся працягваннем энергетычнай агоніі да новага года /1994-га/ узамен за здачу Расіі Мазырскага і Полацкага нафтаперапрацоўчых заводаў, дзе, як паведаміў сп. Кебіч, «и мы будем иметь акции». Уся гэта, з дазволу сказаць, «палітыка» /у якой мы бачым прыкметы дзяржаўнага злачынства/ нагадвае псіхалогію п'яніцы, які выносіць з дому рэчы і закладвае іх, каб апахмяліцца...»

*/З артыкула В.Аляміева, Л.Баршчэўскага, Ю.Беленькага, З.Пазняка ў «Народнай газеце» за 8 снежня/.*

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Пракуратура Рэспублікі Беларусь па выніках праверкі абвінавачання Саюза афіцэраў Беларусі ва ўдзеле ў кастрычніцкім мяцяжы ў Маскве вынесла названай арганізацыі папярэджанне. Як памятаеце, Саюз афіцэраў тлумачыў раней, што ні загінуўшага палкоўніка, ні іншых сваіх членаў ён у Маскву спецыяльна не камандзіраваў, а былі яны там цалкам прыватна... Само па сабе гэтае рашэнне пракуратуры нічога не азначае, хіба толькі тое, што пасля другога папярэджання дзейнасць Саюза афіцэраў можа быць забаронена.

## НАВІНА ТЫДНЯ

Парадуемся за нашых суайчыннікаў у Летуве — у рускамоўнай газеце «Эхо Литвы» пачаў раз на тыдзень друкавацца спецвыпуск «Беларус Віленшчыны». Акрамя палітычнай і культурнай хронікі, вестак з Бацькаўшчыны, тут змяшчаюцца і артыкулы пра «Вільню беларускую».

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

61 працэнт з 720 рэспандэнтаў з 30 населеных пунктаў усіх абласцей краіны выказаліся за правядзенне датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета. Апытанне было праведзена 5—6 снежня г.г. службай «Грамадская думка». Супраць датэрміновых выбараў выказалася ўсяго 20,2 працэнта. Вынікі цікавыя тым, што апытанне праводзілася па заказе газеты «Советская Белоруссия».

## МАНЕЎР ТЫДНЯ

У хуткім часе пецярбургскія паязды пойдуць у Заходнюю Еўропу па абходным маршруце — праз тэрыторыю Беларусі. Сённяшні шлях праз незалежныя Летуву і Латвію стаў нявыгадным — дарага. ды і на мытнях даводзіцца прастойваць. Ператварэнне Беларусі ў расейскі калідор працягваецца...

## ЧУТКА ТЫДНЯ

З Санкт-Пецярбурга паведамляюць: вырашана «праблема» стагоддзя — 21 студзеня 1994 года на 70-я ўгодкі з дня смерці Леніна, ягонае цела будзе пахавана побач з целам маці на Волкавых могілках.

## КАНФУЗ ТЫДНЯ

Беларускі «зайчык» абясцэньваецца не толькі на сваёй радзіме, але яшчэ хутчэй у блізкім замежжы. У суседняй Латвіі наш рубель стаў танней за ўкраінскі карбованец. Менш, чым «зайчыкі», у латах каштуюць толькі грузінскія купоны... Нічога, калі мы ўступім у «рублёвую зону», латышы яшчэ пашкадуюць аб гэтым, пэўна, падумалі ў нашым Нацыянальным банку і выпусцілі ва ўжытак разліковы білет вартасцю ў 1000 рублёў /10 тысяч расійскіх рублёў/.

Кола дзён

З паэтычнай пошты

Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК

# БЕЛАРУСІ

Беларусь! Дзе б ні быў я —
пад Мінскам ці Туравам —
Прыгажосцю тваёй зачарован заўжды.
Ты стаіш не скароная злымі віхурамі,
І выспельваюць шчасце твае маладыя сады.

Мае вусны знявечаны стронцавай брагаю,
Сілы ж хопіць шапнуць ля трывожных дарог:
«Як ні цяжка сягоння Нароўлі ці Брагіну,
Але большых іспытаў няхай
не даводзіць нам Бог».

Па мурожнай траве і дарогаю снежнаю
Я з табой, Беларусь, неадольна іду.
За цябе, нібы сонца ці плынь, незалежную
На тваіх рубяжах — загадай! —
без развагі ўпаду.

Бел-чырвон-белы сцяг
усхвалёванай птушкаю
Будзіць сонных яшчэ і вітае зару.
У мазольных далонях мы долю выгушкваем,
Тваю долю, святая мая Беларусь...

Выставы

# ПАЭЗІЯ, НАПІСАНАЯ Ў ФАРБАХ



Досыць часта мы атрымліваем праз шматлікія пасольствы магчымасць знаёміцца з культурай і мастацтвам розных замежных краін. Наладжваюцца вечары, працуюць выставы. І ў шэрагу іх — адкрыццё выставы Кусум Шуклы.

Жонка дыпламата, пасла Індыі ў Беларусі, фізік па спецыяльнасці, мастачка па натхненні і таленце. Напачатку жывапіс быў для яе хобі, процілеглым універсітэцкім заняткам па дакладных навуках. Кусум пачала маляваць у Інданезіі ў 1977 г., пасля яна атрымала рэдкую магчымасць вучыцца ў мастакоў розных краін свету. Яна валодае і звычайным пэндзлем, і выкарыстоўвае мастыхін. З 1987 г. ёю напісана алеем больш за 150 карцін. Яе работы можна ўбачыць у асабістай калекцыі эміра Катара, а таксама ў прыватных зборах. У Кусум Шуклы было пяць персанальных выстаў у Даніі і Катары. Шостая адкрылася і на працягу дзесяці дзён будзе працаваць у мінскім Палацы мастацтваў.

Работы Кусум Шуклы ўражваюць: выстава нібы зіхаціць фарбамі. Кветкі, імпрэсіі, пачуцці... Кусум выказвае свае жыццёвыя ўражанні праз прыроду, што перадае яе настроі паўнаты жыцця, радасці і аптымізму. «Прыгажосць творчасці ўзнікае ў плыні жыцця і зліваецца з ім. Я таксама пішу вершы. Таму імпрэсіянізм прыйшоў да мяне як арганічная частка маёй работы мастака. Я бачу сваё мастацтва як паэзію, напісаную ў фарбах, — гаворыць мастачка. — Мастацтва для мяне — гэта разважанне. Яно дазваляе мне выйсці за межы гэтага свету да вышэйшага боства. Адчуванне руху наперад у маіх работах сімвалізуе для мяне надзею і аптымізм».

Перад уваходам у залу вісіць не зусім звычайная для нас таблічка: не фатаграфаваць. Можа, гэта падштурхне прыйсці на выставу і пранікнуцца незвычайным жывапісам індыйскай жанчыны, якая праз сваё мастацтва перадае чужому для яе народу сваю веру ў лепшае.

У адкрыцці выставы прыняў удзел сп. С.Шушкевіч з жонкай.

**Н. К.**

*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

Канферэнцыі

# НА ПАВАРОТАХ ГІСТОРЫІ

6 снежня ў музеі Максіма Багдановіча адбылася навуковая канферэнцыя «Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі». Тэма была акрэслена, фактычна, самім М. Багдановічам у артыкуле «Забыты шлях» /1915 г./: «...баронячы наш народ, мы павінны бараніць нашу культуру. І што б там ні было, а гмах яе, калісьці распачаты, павінен быць збудаваны да канца».

З дакладамі выступілі прадстаўнікі музея Максіма Багдановіча, музея гісторыі беларускай літаратуры, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Інстытута літаратуры АН, Беларускай акадэміі музыкі. Агульная выснова канферэнцыі: нацыянальная культура ў пераломныя моманты з'яўляецца своеасаблівым цэнтрам цяжару, які дае народу магчымасць утрымацца ў гістарычнай плыні, не страціць сваёй самастойнасці, адметнасці.

**П. КАЧАТКОВА**

Фестывалі

# АЛЕНЬ, ШТО ГЛЯДЗІЦЬ НАМ У ВОЧЫ

***6 снежня адначасна ў Мінскім лінгвістычным універсітэце і сталічным кінатэатры «Цэнтральны» пачаўся паказ фільмаў знанага польскага рэжысёра, мастака экрана Кшыштафа Занусі /апекаваннем Консульства Рэспублікі Польшча ў Беларусі/. Тыдзень мы — з мастацтвам і майстэрствам Занусі.***

...Героі першай дэманстраванай стужкі «Кантракт» быццам прыйшлі на экран з ваколіц Менска ці, яшчэ трапней, Гародні: мы пазнаём «як свае» нават дробязі іх жыцця, дэталі побыту. Мітусня, зацуглянасць «сваімі абавязкамі», робленая зацуглянасць побытам і колішнімі, «народнымі» традыцыямі /касцёл/; дробныя, памаўзлівыя памкненні мужчын і жанчын, жанчын і мужчын, гарэлка цераз сцэну... Мы пазнаём у карціне, уласна, той жа карнавальны /толькі ў Занусі — з большай экспрэсіяй і гратэскам/ свет жыцця чалавечага, што выведзены ў «Фанні і Аляксандры» І. Бергмана. Здаецца, Занусі здолеў зглядзець і завідавочыць у «Кантракце» ўсё, што-кольвек сведчыць пра нораў эпохі: твары, павадкі, пажады, мову /так, і мову, як акаляючую экспрэсію часу — сённяшняга польскага часу; гэткая зухаватая сумесь польскай, нямецкай, ангельскай... — рэалія цяперашняга жыцця ў Польшчы/, сауну на шведскі манер... Тут не хочучы згадаецца «Фанні і Аляксандр»: тое ж жыццё «без берагоў», без супынку, і толькі згадкі, проблiскі пра чалавечае і чалавечнасць... Бабулька і алень.

У Бергмана — «ціха вар'яцее» Еўропа класічная, гадоў 60-х; у Занусі — вар'яцее сучасная Польшча — і гіпатэтычная Беларусь. Вар'яцее паспольства

З нагоды

# ДЛЯ ІХ — СВЯТА, ДЛЯ НАС — ПАПЯРЭДЖАННЕ

Размовы аб вяртанні Расіі да двухгаловага арла распачаліся адразу пасля жнівеньскіх падзей 1991 года. Тады рашэннем прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына быў абвешчаны дзяржаўным расійскі трыкалор. Стала зразумела, што чарга — за двухгаловым арлом. У снежні таго ж года падчас прыезду ў Мінск /тады ў Віскулях пахавалі Савецкі Саюз/ Ельцын падараваў арыгінал граматы цара Аляксея Міхайлавіча, у якой той паведамляе, што бярэ пад сваю «гасудараву руку» жыхароў Оршы, і невялікага памеру жывапіснае палатно з выявай Белага Дома і расійскага імперскага арла. Робячы падарунак, прэзідэнт сказаў, што наданне арлу статуса дзяржаўнага герба — пытанне часу.

І для такой заявы былі падставы. 12 снежня 1991 года на пасяджэнні ўрада Расіі, на якім прысутнічаў і прэзідэнт, разглядаліся два варыянты новага герба. На абодвух арол быў пазбаўлены карон, скіпетра, дзяржавы і іншых імперскіх рэгалій — так бы мовіць, быў «дэмакратызаваны» арол. У першым варыянце ў птушкі крылы былі апушчаныя — усходняя, візантыйская, і маскоўская /дапятроўская/ традыцыя, у другім — крылы распраўлены: такім стаў арол у цараванне Пятра 1 /уплыў еўрапейскай традыцыі/ і такім заставаўся да падзення імперыі. Урад РФ зацвердзіў другі варыянт.

Але ад дэкларацыі намераў да рэалізацыі ідэі прайшло, лічы, два гады. Расія была апошняй краінай з ліку ўтвораных на руінах СССР, якая трымалася старой савецкай сімволікі. Чаму?

Доўгі час многія расійскія заканадаўцы, урадоўцы і простыя грамадзяне жылі ў палоне ілюзіі, што СНД — гэта той жа Савецкі Саюз, толькі інакш завецца. Для іх змена РСФСРаўскага сярпа-молата на двухгаловага арла азначала б адмаўленне і ад ілюзій, і ад шавіністычных амбіцый. Да такога подзвігу Расія не была гатова /ды і зараз гэта вышэй яе сіл/. Калі стала зразумела, што ніводная дзяржава Садружнасці вяртацца ў Саюз ССР не хоча, распачаўся эканамічны шантаж «непаслухмяных», а ў некаторых выпадках — і палітычны ціск. Пайшлі гаворкі пра стварэнне нейкіх каардынуючых наднацыянальных, наддзяржаўных органаў, накшталт Міжпарламенцкай асамблеі, і гэтак далей. І ўвесь гэты час на ўсялякі выпадак трымаліся РСФСРаўскага герба.

Вяртанне двухгаловага арла, прычым з каронамі, скіпетрам і дзяржавай /розніца — у колеравым спалучэнні: той быў чорны на жоўтым тле, гэты — залаты на чырвоным/ сведчыць аб новым павароце ва ўнутранай і знешняй палітыцы краіны: Расія болей не верыць у СНД як сродак дасягнення сваіх імперскіх мэт і не збіраецца цацкацца са сваімі аўтаноміямі.

Указу прэзідэнта ад 1 снежня, які ўзаконіў двухгаловага арла, папярэднічалі жорсткія заявы Барыса Ельцына наконт немагчымасці існавання суверэнных дзяржаўных утварэнняў унутры Расійскай дзяржавы, што прама супярэчыць ягонай жа колішняй дэкларацыі «Бярыце суверэнітэту столькі, колькі зможаце!»; і выказаныя ў той ці іншай форме расійскімі ўрадавымі чыноўнікамі прапановы краінам СНД уступаць у Расійскую Федэрацыю на правах яе суб'ектаў, прасцей кажучы — губерняў. Як тут ні прыгадаць, што тры кароны расійскага арла, згодна трактоўцы канца Х1Х стагоддзя, сімвалізуюць «триединство восточных славян: великорусов, украинцев и белорусов».

Хочацца верыць, што арол, які зноў стаў расійскім гербам, не будзе дапаўняцца новымі /старымі/ атрыбутамі, бо калісьці на вялікім гербе Расійскай імперыі былі выявы гербаў губерняў і земляў — сярод якіх і наша Пагоня.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Анонс

# У ЭКСПАЗІЦЫІ — МАЛЮНАК

З 13 па 17 снежня ў мінскім Палацы мастацтваў будуць прымацца творы для экспазіцыі Другой рэспубліканскай выставы малюнка. Мастакі, якія маюць намер удзельнічаць у выставе, павінны прадставіць для адбору не меней за тры і не болей за шэсць твораў, цалкам падрыхтаваных для экспанавання.

Арганізатар выставы — Саюз мастакоў Беларусі. Тэлефоны для даведак: 33-02-38, 35-05-49.

# ШЛЯХ ДА ЧЫТАЧА

## «КРУГЛЫ СТОЛ» У ВЫДАВЕЦТВЕ «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»



Як жывеш, кніга? Як працуеш? Пытанні гэтыя апошнім часам задаюцца пастаянна на самым розным узроўні. Безумоўна, найперш у дачыненні да кнігі беларускай, якой ва ўмовах разгулу дзікага рынку выстаяць і выжыць нялёгка. І ўсё ж яна сіліцца выжыць. І, безумоўна, у першую чаргу дзякуючы правафланговаму дзяржаўнаму выдавецтву «Мастацкая літаратура» і не ў апошнюю — намаганнямі яго дырэктара С.Андраюка. Ягонымі намаганнямі і намаганнямі ягоных аднадумцаў, якіх шмат і ў самім калектыве выдавецтва, і ў іншых структурах, што маюць дачыненне да выдання і распаўсюджвання мастацкай літаратуры.

Калі пішуцца гэтыя радкі, колькасць кніг, выдадзеных сёлета «Мастацкай літаратурай», набліжаецца да 140 назваў. Вядома, ёсць сярод іх і выданні, перанесеныя з мінулых гадоў. Аднак добра, што яны ўсё ж выходзяць.

Выдавецтва робіць нямала дзеля таго, каб патрэбная кніга прыйшла да чытача. Рэгулярнымі сталі дні «Мастацкай літаратуры» ў школах, на прадпрыемствах, на сяле з удзелам выдаўцоў і аўтараў. Сёлета быў пакладзены пачатак яшчэ адной добрай справе. Супрацоўнікі «Мастацкай літаратуры» выехалі ў Глыбокае, каб на месцы разабрацца, як лепей прапагандаваць беларускамоўную літаратуру, што зрабіць для таго, каб і тыя выданні, якія маюць невялікі тыраж, траплялі ў глыбінку. Там, у Глыбокім, прайшоў «круглы стол», у якім прынялі ўдзел райвыканкомаўскія работнікі, работнікі культуры, настаўнікі, выхавацелі дзіцячых садкоў /пра яго «ЛіМ» у свой час расказваў/.

У Глыбокім было прынята рашэнне чарговую сустрэчу правесці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», каб прадоўжыць гаворку.

Такая размова нядаўна і адбылася. І гэтаксама, як у Глыбокім, праходзіла дзейсна, зацікаўлена. Адкрыў сустрэчу Серафім **Андраюк.** Галоўны рэдактар «Мастацкай літаратуры» Мікола **Кусянкоў,** напомніўшы пра найбольш важныя кнігі адраджэнскага кірунку, што выйшлі ў апошнія гады, асноўную ўвагу засярodзіў на прапагандзе літаратуры, яе распаўсюджванні, а, значыць, і на фарміраванні тыражоў. Да апошняга часу, канстатаваў ён, тыражы нашай літаратуры былі вельмі малыя, а то і проста мізэрныя. Тыражы ж вызначаюць заказы. А паколькі заказы збіраюць работнікі кніжнага гандлю і бібліятэк, значыць з іх, як кажуць, і трэба спытаць. Аднак, працягваў М.Кусянкоў, калі цвяроза разважыць, падобныя прэтэнзіі да нашых заказчыкаў можна было б прад'явіць у тым выпадку, калі б мы не разумелі, што складанае становішча, у якім апынулася беларускамоўная кніга, абумоўлена многімі аб'ектыўнымі прычынамі, фактарамі. Сярод іх прамоўца вызначыў наступныя: гістарычны, палітычны, эканамічны, псіхалагічны. З часоў Вялікага княства Літоўскага, як вядома, беларуская мова не была дзяржаўнай. Сёння знаходзяцца ахвочыя ўвесці дзяржаўнае двухмоўе. А калі падае жыццёвы ўзровень народа, дык ён у першую чаргу адмаўляецца ад прадметаў культурнага ўжытку, а значыць і ад кнігі. Да ўсяго пачалася камерцыялізацыя сродкаў масавай інфармацыі, капіталізацыя кнігавыдання. На паверхню ўсплывае літаратурны шырспажыў, лёгкае чціва бярэ ў палон тых, хто не прывык над кнігай думаць.

М.Кусянкоў так акрэсліў накірунак гаворкі за «круглым сталом»: агульнымі намаганнямі выявіць тое, што ў выданні і распаўсюджанні беларускай кнігі залежыць ад выдаўцоў, а што ад работнікаў кніжнага гандлю і бібліятэк, якім лепш чым каму вядома становішча, якое склалася з прапагандай літаратуры на месцах.

Пра неабходнасць падобных кантактаў гаварыла дырэктар Глыбоцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі **Н.Протас:** «Безумоўна, кожны, хто піша твор, хоча, каб ён своечасова быў надрукаваны, выдадзены. Інакш кажучы, каб кніга своечасова прыйшла да чытача. А гэта, у сваю чаргу, залежыць ужо ад работнікаў бібліятэк, прадаўцоў кнігарань. Дык неабходна, каб сувязь: пісьменнік — работнік бібліятэкі ці гандлю — чытач існавала не ў ідэале, а на практыцы». Усіх нас, працягвала яна, абурае засілле сексу, парнаграфіі і на тэлеэкране, і ў так званай камерцыйнай літаратуры. Што гэтаму можна супрацьпаставіць? Ды толькі

*(Працяг на стар. 4)*

колішняга Вялікага княства... Каторы раз пераконваешся, што талент мусіць уражваць кожны новы раз пры з'яўленні перад гледачом. Зноў выдатны тыпаж герояў /і гэта ў наш «нетыпажны» час; дык што — гульня акцёраў?/; зноў імклівы развой сюжэту, мільгаценне твараў, жэстаў, сімвалаў... У аснову фабулы пакладзена «бяспройгрышная» гісторыя: маладыя /хоць і не першай маладосці/ людзі наважыліся на шлюб; бацькі — маўкліва «не супраць» /у бацькоў «ёсць усё»/. У маладых жа — свае забабоны /у «яго» — накшталт апошняга халасцяцкага вечара, у які трэ добра, «каб помнілася», напіцца; у яе — каб **пасля** шлюбавання.../. І вось тут і пачынаецца Занусі-мастак, Занусі-філосаф: як у сапраўдным мастацтве, дробязь, дэталь пачынае граць якраз вызначальную, вырашальную ролю ў развіцці падзей. Дарэчы, маральна-сімвалічны «асялок» карціны нам ужо знаёмы — з фільма «Калі ты дзе-небудзь ёсць»: матыў чалавечага гвалту ў самай што чалавечай, прымхлівай сферы дачыненняў — інтымных адносінах, менавіта спаміж блізкіх людзей... У тым фільме, як мы памятаем, «супружскае пагвалтаванне» закончылася Другой сусветнай вайной. У «Кантракце» — тое ж, напярэдадні шлюбавання — закончылася пажарам. А перад тым — расхінаннем маральнага бяздоння, што распрасцёрта пад героямі-сучаснікамі, і куды і мкне сучаснасць... Пажар у «Кантракце» — прадвесце Пажару.

Здаецца, і на гэты раз ты пераконваешся, у чым ёсць Мастак. Мастак — у здольнасці паказаць **наш час**, але — паказаць **з вышыні,** як бы з будучыні, з якое толькі і можна згледзець хваробы часу і хваробы духу ў гэтым часе. Толькі не ў кожнага мастака стае высілку ўзняцца на вышыню... Застаючыся ўсёчасна з намі-грэшнымі, Занусі не-не ды нагадае пра **ІНШАЕ**, пра тое, што судзіцьме чалавечы свет... Мне падалося, у «Кантракце» рэжысёр спрабаваў выказаць тое ж, што імкнуўся сказаць і Бунін у славутым апавяданні «Пан з Сан-Францыска»: што людства беззадумна паддаецца ўладзе «матэрыі», побыту, плоці, похаці...; што людзі незаўважна стаюцца палоннікамі часу і — саміх сябе. Усё дасягаецца наўпрост, без «умоўнасцяў»; усё — беззадумна. І толькі як напамін пра колішняе /яно заўсёды колішняе/ суладдзе духоўнага і зямнога — твар-рэмінісцэнцыя бабулькі, не йнакш сведкі старой, «добрай» эпохі. Маўклівы жах затоены ў яе добрых вачах, вечная дакора людству новаму, дзейна-зухаватаму... Ды новае людства і не зважае і так і не зважыць наўсцяж карціны на гэтую бабульку-напамінак; імкліва бяжыць сюжэт... Мастак-філосаф адно паспявае — з-за гэтай імклівасці — расставіць па ходу дзеяння «шматзначныя» сімвалы-знакі.

Твар бабулькі казачнай, што лейтматывам праходзіць ад пачатку да канца. Бабулька ўрэшце сыходзіць, пакідаючы гэты асяродак «ціхага вар'яцтва» людзей новых на свой скрут... Яе знікнення так ніхто і не заўважыць... Нікога па сутнасці не заўважаюць — і героі. Апроч саміх сябе-ўнутраных... Толькі гераіня, «маладая», носьбіт занусеўскай ідэі — пярэчыць усім і ўся, паўстае супраць «правіл эпохі»... Зусім як гераіня фільма «Калі ты дзе-небудзь ёсць». Усё пачалося з супружскага гвалту...

Я ўжо сказаў пра блізкасць /маральнай ідэі/ карцін Занусі і Бергмана. І там і там Мастацтва кажа, нагадвае пра чалавечнасць, пра апрыёрную магчымасць чалавечнасці ў юдолі быцця. Бабулька і алень...

Так, пры канцы — а канца занусеўскай карціны трэба чакаць абавязкова — Алень. Алень з жывымі, непарушнай жывасці і натуральнасці вачыма. Як сімвал вечна жывога і сапраўднага, што тоіцца ў быцці, як напамінак **пра чалавечнае.** І, можа, як пасланец Прыроды, што толькі сузірае і трывае «ціхае памяшанне» людства і нічым дапамагчы яму не можа... Хіба толькі вось гэтай маўклівай дакорай? Мне падалося, што занусеўскі Алень пры канцы «Кантракта» глядзіць і на нас — глядзіць проста ў вочы. І ад яго годна-нямірглага позірку робіцца ніякавата-вусцішна...

Але і на наступны, і на пасляанаступны фільм Кшыштафа Занусі ты зноў пойдзеш, і будзеш здумваць, седзячы ў зале, што глядзіш фільм ці не пра сябе...

**Ю. З.**

# ЯК СУДЗІЛІ КНІГУ

## З НАГОДЫ АДНАГО СУДОВАГА ПРАЦЭСУ

Гадоў дваццаць ці дваццаць пяць назад у адной з цэнтральных газет /здаецца, у «Правде» / быў надрукаваны нарыс вядомага па тым часе публіцыста Аркадзія Сахніна, у якім распавядалася пра досыць драматычную падзею, што надарылася ў адным з гарадоў. Там у самым цэнтры новага мікрараёна было знойдзена вялікае сховішча снарадаў, праляжаўшых у зямлі з часоў Айчыннай вайны. Ліквідацыя сховішча аказалася нялёгкай і складанай справай, бо была звязана з бяспекай жыхароў навакольных дамоў. Але ўсё абышлося, пасля эвакуацыі насельніцтва снарады былі вывезены за горад і там ўзарваны.

Нарыс набыў сярод чытачоў досыць прыкметны рэзананс /па яго матывах быў нават зняты мастацкі фільм/ не толькі з-за неардынарнасці апісанай у ім падзеі, а яшчэ, думаецца, і таму, што ўзнімаў шэраг маральна-этычных праблем, вынікаючых з характараў і ўчынкаў персанажаў твора: апынуўшыся ў экстрэмальнай сітуацыі, людзі дзейнічалі паводле ўласных уяўленняў аб гонары, годнасці, сумленні, грамадзянскім абавязку. Аказаліся сярод іх і героі, і баязліўцы, і проста нягоднікі.

А. Сахнін назваў свой нарыс «Рэха вайны», маючы, як мне ўяўляецца, на ўвазе, што любая вайна дастае нас і праз шмат гадоў пасля свайго заканчэння, выпрабоўваючы на злом нашы душэўныя якасці.

Гэты далёкі па часе нарыс успомніўся мне /чыста асацыятыўна/ у час судовага працэсу, над якім таксама гучала, так бы мовіць, рэха вайны, толькі вайны іншай — афганскай. На гэтым працэсе, фактычна, судзілі кнігу, якая страсна выкрывае ўсю ганебную сутнасць той вайны, кнігу-рэквіем па тысячах жыццяў, паламаных лёсаў, прынесеных у ахвяру афганскай авантуры.

Але час прадставіць удзельнікаў працэсу. Гэта, з аднаго боку, істцы: І. Галаўнёва, старшыня камітэта маці, чые сыны загінулі ў час афганскай вайны, і Т. Кецмур, старшыня асацыяцыі ветэранаў-афганцаў; з другога — адказчыца Святлана Алексіевіч, пісьменніца, аўтар кнігі «Цынкавыя хлопчыкі» — твора, сёння вядомага ва ўсім свеце. Сутнасць іску — пісьменніца сваімі публікацыямі аб афганскай вайне, маўляў, зняважыла гонар і годнасць заявіцеляў, за што яны патрабуюць маральнай кампенсацыі ў выглядзе публічнага абвяржэння звестак, прыведзеных аўтарам.

Дык у чым жа аказалася вінаватай Святлана Алексіевіч перад І. Галаўнёвай і Т. Кецмурам, фактычна, героямі яе кнігі, бо і іх сведчанні, разам з дзесяткамі іншых, склалі дакументальную аснову твора? Адразу скажам, нечаканыя прэтэнзіі заявіцеляў па факту публікацыі ўрыўка з нагаданай кнігі ў «Комсомольской правде» тры з паловай гады назад падаліся мне, па крайняй меры, загадкавымі, тым больш, што, як выявілася ў судзе, раней яны выстаўлялі сябе гарачымі прыхільнікамі пісьменніцы і, як актывісты грамадскіх арганізацый, што аб'ядноўваюць пацярпелых ад афганскай вайны, выступалі ў падтрымку С. Алексіевіч на шматлікіх мітынгах і сустрэчах.

Зараз яны тлумачаць сваю ранейшую пазіцыю тым, што, быццам бы, не мелі ўяўлення аб канкрэтным змесце кнігі і толькі, калі ў пачатку 1990 года прачыталі ўрывак з яе ў «Комсомольской правде», зразумелі, што пісьменніца не апраўдала іх спадзяванняў, больш таго, сказіла іх словы, і цяпер яны не ведаюць, як «глядзець у вочы сумленным людзям». На натуральнае пытанне С. Алексіевіч, чаму Галаўнёва і Кецмур маўчалі амаль чатыры гады, чаму не падалі на яе ў суд адразу пасля з'яўлення публікацыі ў «Комсомолке», нічога пэўнага і пераканаўчага яны адказаць не змаглі.

Вось тыповыя ўзорчыкі «абвяржэнняў», прадстаўленых суду істцамі. «Алексіевіч уклала ў мае вусны словы, быццам бы я любіла свайго загінуўшага сына мацней за мужа і малодшага сына. Гэтае сцвярджэнне ўнесла разлад у маю сям'ю; «Я ніколі не называла яго «старшенькім», як сцвярджае пісьменніца»; «Ён быў старшым лейтэнантам, а не лейтэнантам, як было напісана ў «Комсомолке» /з іскавай заявы І. Галаўнёвай/. «Я сам напісаў рапарт, каб мяне паслалі служыць у Афганістан, паехаў туды без усякіх ваганняў, што пярэчыць таму, што было напісана ва ўрыўку з «Цынкавых хлопчыкаў»; «С. Алексіевіч сцвярджала, быццам бы я прыехаў служыць у Афганістан са сваім службовым сабакам, а, на самай справе, сабака па дарозе туды захварэў і здох» /з іскавай заявы Т. Кецмура/.

Нехта можа спытаць, чаму С. Алексіевіч не прад'явіла на судзе магнітафонных стужак з запісамі гутарак з істцамі, самі ж яны не адмаўлялі таго факта, што пісьменніца кожны раз пры сустрэчы з імі прасіла дазволу ўключыць магнітафон. Але не трэба забываць, што запісы гэтыя вяліся больш за чатыры гады назад, і трымаць дзвесце касет у архіве С. Алексіевіч не мела ні фізічнай, ні матэрыяльнай магчымасці. За гэты час пісьменніца зрабіла новую кнігу дакументальнай прозы, у аснову якой таксама пакладзены запісаныя на магнітафонную стужку споведзі людзей. Так што касеты з запісамі, зробленымі ў час працы над «Цынкавымі хлопчыкамі», былі выкарыстаны для новай працы. «Я не магу дазволіць сабе такой раскошы — кожны раз купляць новыя магнітафонныя касеты, — растлумачыла на судзе С. Алексіевіч. — І я не магла прадугадаць, што мае героі, з якімі ў мяне склаліся самыя прыязныя адносіны, праз столькі гадоў пачнуць са мной судзіцца».

Спробы дыскрэдытаваць таленавітую, прагрэсіўную пісьменніцу робяцца даўно — ці не ад пачатку з'яўлення яе кніг, у якіх камуністычная сістэма ўбачыла для сябе немалую пагрозу. Нічога не даравалі ёй і апалагеты бальшавізму, якія адчуваюць і сёння сябе на Беларусі як нідзе вольна.

Мы казалі ўжо, што фармальным повадам для ўзбуджэння іску да С. Алексіевіч з'явілася публікацыя ў «Комсомольской правде» ў пачатку 1990 года ўрыўка з яе кнігі «Цынкавыя хлопчыкі», якая чакала выхаду ў свет. Добра помню тую публікацыю, як помню і ўсчаты пасля тэтага галас на старонках газеты «Красная звезда», органа Міністэрства абароны СССР. У «Красную звезду», «Комсомолку», іншыя выданні пасыпаліся «абвяржэнні» воінаў-афганцаў, іх бацькоў, у якіх пісьменніцу кляймілі за «неаб'ектыўнасць» у паказе афганскай вайны, дыскрэдытацыю інтэрнацыянальнай дапамогі братняму народу і да т. п.

Прыблізна на той час прыпала і расправа на з'ездзе народных дэпутатаў СССР з Андрэем Дзмітрыевічам Сахаравым, які ці не першы ўзвысіў свой голас супраць афганскай авантуры яшчэ на самым яе пачатку.

Я прывёў гэты прыклад, каб нагадаць, якая атмасфера нянавісці была створана ў краіне вакол тых, хто ў згодзе са сваім сумленнем і грамадзянскім абавязкам выкрываў злачынную вайну ў Афганістане, звязаную з імперскай палітыкай СССР.

Кніга Святланы Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі» за час, які мінуў пасля яе першага выдання, набыла шырокую вядомасць далёка за межамі Беларусі, была перакладзена на многія іншыя мовы свету, знайшла сваё ўвасабленне на сцэнах розных тэатраў. Пастаноўку «Цынкавых хлопчыкаў» сёлета вельмі прыязна сустрэла, напрыклад, тэатральная грамадскасць Францыі.

Для мяне асабіста кніга «Цынкавыя хлопчыкі» пазначана яшчэ адной адметнасцю — па адносінах да яе можна было /можна і цяпер/ меркаваць, якія сілы, тэндэнцыі пачынаюць пераважаць у грамадстве. Пасля жніўня 1991 года, калі сілы, што ўвасаблялі былую камуністычную сістэму, адступілі ў цень, такога працэсу ў судзе не магло б быць. А вось сёння, калі тыя сілы акрыялі, калі нават з трыбуны Вярхоўнага Савета гучаць прамовы аб усепераможным камуністычным вучэнні, патрабаванні вярнуцца да сацыялістычных каштоўнасцей, можна, аказваецца, і суд распачаць над «Цынкавымі хлопчыкамі». А спачатку на старонках газет пэўнай палітычнай арыентацыі пачалі з'яўляцца пісьмы «абураных» воінаў-інтэрнацыяналістаў, заявы камітэта жанчын, чые дзеці загінулі на афганскай вайне, з суровай генеральскай праматой у друку паппракае пісьменніцу ў скажэнні гістарычнай праўды, што тычыцца вайны ў Афганістане, воін-інтэрнацыяналіст М. Чаргінец.

Не магу не сказаць і пра атмасферу, якая панавала на працэсе /старшыняваў на ім суддзя народнага суда Цэнтральнага раёна сталіцы І. Ждановіч/. Зала была запоўнена, у асноўным, маці, якія страцілі ў Афганістане сыноў, і былымі воінамі-афганцамі. Яны аблівалі С. Алексіевіч бруднай лаянкай, на што суд, на жаль, не рэагаваў. З сумам думалася: у нашай дзяржаве, пры існуючым узроўні грамадскай свядомасці і сацыяльнай псіхалогіі, няма, відаць, нічога больш лёгкага, як збіць людзей з панталыку, направіць іх незадаволенасць, іх гнеў, пратэст у патрэбнае некаму рэчышча.

Я шчыра спачуваю гору тых, хто сядзеў у судовай зале: жанчыны гэтыя страцілі самае дарагое — сваіх дзяцей. Тым больш вусцішна было чуць і бачыць, як гэтае іхняе гора выплёхваецца нянавісцю не да палітыкаў-злачынцаў, што паслалі іх сыноў на смерць, на калецтва, на пакуты, а на пісьменніцу, якая насуперак усім забаронам, усім пагрозам здолела сказаць пра гэта праўду.

Бедныя мацяркі! Чаму ж яны не могуць выблытацца з клубка хлусні і зразумець, дзе праўда і дзе няпраўда? Чаму нават слова боскага служкі не даходзіць да іх? Святар В. Радамысльскі, народны дэпутат, у перапынку паміж судовымі пасяджэннямі падышоў да іх і сваім пастарскім словам паспрабаваў накіраваць мацярок на шлях ісціны, тлумачачы, што нічога крыўднага ні для іх, ні для памяці іх сыноў у кнізе С. Алексіевіч няма, што пафас яе скіраваны зусім на іншае, — на тое, каб паказаць, якой злачыннай была гэтая вайна, злачыннай і ў дачыненні да іх, маці... У адказ ён пачуў тую ж лаянку, нават абвінавачванні, што і ён, маўляў, падкуплены...

Ад усяго гэтага было вельмі сумна. Як і ад таго, што непрыязь з боку гэтых простых людзей зыходзіла да Святланы Алексіевіч не толькі як да пісьменніцы, што «нахлусіла», але і наогул як да прадстаўніцы інтэлігенцыі, што /і гэта неаднойчы выказвалася ўголас/ «жирует» за кошт народа. «У Афганістан бралі толькі з рабочых сем'яў, інтэлігенцыя адкупілася!» — гучала ў зале. І паспрабуй, дакажы ім, што і інтэлігенцыя наша таксама не «голубых кровей»...

Калі пісаліся гэтыя радкі, суд яшчэ не вынес свайго рашэння. Але справа не ў тым, якім яно будзе. Справа ў самім факце суда над сумленнай кнігай.

**Міхась ЗАМСКІ**

# ШЛЯХ ДА ЧЫТАЧА

*(Пачатак на стар. 3)*

літаратуру высокамастацкую, тую, якая на роднай мове данясе людзям ідэалы дабрыні, шчодрасці. На жаль, такую кнігу часам мы не можам своечасова атрымаць, а то і зусім не атрымліваем. Н.Протас прывяла такія лічбы. На сёлетні год Глыбоцкая цэнтральная раённая бібліятэка заказала 130 кніг з планаў «Мастацкай літаратуры», «Юнацтва», «Полымя» і іншых выдавецтваў. Прыйшло ж усяго 11 выданняў! Чаму ж так? Дзе заказаныя кнігі? Чаму яны ў глыбінку не трапілі? І чым растлумачыць, што мала выходзіць кніг гістарычнай тэматыкі, якія сёння так неабходны?

На апошнім аспекце засяродзіў увагу дырэктар глыбоцкай СШ N 3 **В.Гарановіч**. Як і Н.Протас, ён канстатаваў, што не хапае кніг А.Мальдзіса, М.Ермаловіча, іншых пісьменнікаў і даследчыкаў, хто з павагай ставіцца да нацыянальнай мінуўшчыны, турбуецца, каб на карце беларускай даўніны менела «белых плямаў». В.Гарановіч выказаў незадаволенасць і тым, што асобныя падручнікі вельмі груваcткія.

На раёне склалася катастрафічнае становішча і з дзіцячай кнігай, — гэта ўжо ў размову ўключылася настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ N 2 **Т.Шылёнак.** Часам паступае ўсяго адзін-два экземпляры той ці іншай кніжкі для маленькіх на ўсю школу! Асабліва не хапае выданняў для першага, другога класаў, хаця і вучні чацвёртых-шостых класаў таксама не заўсёды могуць знайсці сабе патрэбную кнігу. Што тычыцца старшакласнікаў, дык яны вельмі ўдзячны «Мастацкай літаратуры» за кнігі серыі «Спадчына». «Шляхціц Завальня» Я.Баршчэўскага школьнікамі зачытаны да дзірак. Акурат такія выданні і абуджаюць цікавасць да нацыянальнай гісторыі. Гаварыла Т.Шылёнак і пра неабходнасць часцей практыкаваць факсімільныя выданні, зноў жа парупіўшыся аб тым, каб яны былі ў кожнай бібліятэцы.

«Немагчымасць набыць патрэбную кнігу — гэта ж самы што ні ёсць замах на чалавечыя правы». Так, мо крыху і рэзка, выказаўся настаўнік матэматыкі СШ N 3 **І.Храпавіцкі.** Сёння ў кнігарні «Светач» я купіў кнігу У.Арлова, гаварыў ён. Добра, вядома. Але чаму я не мог гэтую кнігу купіць у Глыбокім? Тут даведаўся, што мае выйсці кніга Кастуся Акулы, аднаго з прадстаўнікоў беларускага замежжа. Зноў жа: ці трапіць яна ў нашае Глыбокае? А ў іншыя раённыя цэнтры, не кажучы ўжо пра сельскія населеныя пункты?

Таваразнаўца па кнізе Глыбоцкага райспажыўсаюза **Т.Мачульская,** узяўшы слова, растлумачыла, што яна робіць усё, каб своечасова заказаць выданні, пазначаныя ў тэматычным плане. Але часта замест ста экземпляраў трапляе ў Глыбокае экземпляраў дзесяць, а то і ўсяго два. З «Анталогіяй беларускай паэзіі» зусім недарэчнасць атрымалася: прыйшоў толькі заключны, трэці том, а дзе два першыя — ніхто нічога пэўнага сказаць не можа.

Актыўны ўдзел у гаворцы прынялі і работнікі выдавецтва. **Л.Левановіч,** напрыклад, закрануў праблему збору заказаў. Спаслаўшыся на канкрэтныя кнігі, ён паказаў, як перастрахоўшчыкі, часцей на абласным узроўні, зніжаюць колькасць заказаў на асобныя выданні.

**М.Мятліцкі** гаварыў пра тое, што свайго роду заслону беларускамоўнай кнізе ставяць камерцыйныя выданні. Ён прадэманстраваў адну з кніг, выпушчаных сумнавядомым «Дайджэстам». У часе адной сустрэчы з чытачамі яе яму далі настаўнікі, выказаўшы абурэнне: «У якой яшчэ дзяржаве можна атрымаць выдавецкую ліцэнзію на выпуск падобных твораў!»

Забягаючы наперад, скажу, што наконт гэтага міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь **А.Бутэвіч** адказаў дзіўнавата: маўляў, не дамо мы выдавецкай ліцэнзіі, дык дасць Масква. Можа быць і так, бо пакуль, на жаль, нашы законы не заўсёды спрацоўваюць, ды і не ўсе з іх прыняты, хоць бы той Закон аб друку. І ўсё ж хай бы такія «выдаўцы» атрымлівалі дазвол не ў нас!

А што да выступлення М.Мятліцкага, дык ён далей гаварыў аб неабходнасці часцей наладжваць кантакты, падобныя гэтай сустрэчы, бо яны дазваляюць лепей адчуць, наколькі ў глыбінцы глыбокія карані духоўнасці, як мясцовы люд сэрцам і душой успрымае ідэі нацыянальнага Адраджэння, як прагне духоўнага хлеба; прапанаваў, каб выданні серыі «Спадчына» распаўсюджваліся праз бібліятэчныя калектары для школьных бібліятэк.

Выкладчык нямецкай мовы Глыбоцкага ПТВ-168 **Я.Бабіч** занепакоены, чаму амаль няма ў нас нацыянальных паштовак. А іх жа можна было б выпускаць з партрэтамі гістарычных асоб, інфармацыяй аб гістарычнай спадчыне. «Ды што паштоўкі, — усклікнуў Я.Бабіч, — карту Беларусі немагчыма купіць!»

«Кажаце, паэзія не разыходзіцца?» — задаў пытанне настаўнік беларускай мовы і літаратуры Плiскай сярэдняй школы, ён жа паэт **А.Жыгуноў.** І тут жа адказаў: «Прывозьце да нас, разыдзецца». Аптымізм яго мо і празмерны, аднак жа тое, што і ў глыбінцы трэба паэзію распаўсюджваць, сумнення не выклікае.

І развагі намесніка загадчыка аддзела адукацыі Глыбоцкага райвыканкома **В.Атрахімовіч**, загадчыка аддзела культуры М.Паляк таксама былі пра тое, што сёння, як ніколі раней, не абысціся без літаратуры адраджэнскага кірунку, у тым ліку і гістарычнай, што мала яе выдаваць, яе трэба прапагандаваць — умела, мэтанакіравана, з дзяржаўнай зацікаўленасцю. Так, як гэта і робяць на Глыбоччыне.

На пасяджэнні «круглага стала» выступілі таксама старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі **В.Зуёнак,** начальнік-галоўны таваразнаўца групы па гандлі кнігай Белкаапсаюза **А.Афяроўскі**, галоўны спецыяліст Міністэрства культуры **Т.Папова,** галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва» **М.Пазнякоў,** дырэктар выдавецтва «Народная асвета» **І.Лапцёнак,** міністр інфармацыі **А.Бутэвіч** і іншыя.

Думаю, яны не пакрыўдзяцца, што я асноўную ўвагу скіраваў на развагі ўсё ж людзей з глыбінкі. Тыя, хто кнігу выдае, могуць часта сабрацца разам. Работнікі ж бібліятэк, кнігагандлю часцей, як кажуць, варацца ва ўласным соку, і думкі, выказаныя імі, начальства не заўсёды ведае. Тут жа яны прагучалі ў прысутнасці непасрэднага кіраўніцтва.

Дык што, праблем паменшае? Спяшацца з вывадамі не будзем, бо, калі знікаюць адны праблемы, з'яўляюцца новыя. Так, пасля сустрэчы ў Глыбокім меркавалася, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» пачне напрамую адпраўляць туды свае новыя кнігі. Але ж — даў аб сабе знаць дэфіцыт і дарагавізна бензіну, і гэта стала не па кішэні ні выдавецтву, ні глыбачанам. Значыць, трэба зноў думаць, зноў шукаць...

А на завяршэнне выступіла намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкома **Т.Сауліч**. Са словамі падзякі. А, разважыўшы, дык дзякаваць трэба самой Таццяне Дзмітрыеўне, бо ў тым, што і гэты «круглы стол» прайшоў паспяхова, і папярэдні ў Глыбокім — немалая заслуга і яе, — сімпатычнай жанчыны, якая «курыруе» на раёне і пытанні культуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

***Прапануемы чытачу дакумент, які ў літаратурных і партыйных колах пачатку 30-х гадоў быў вядомы як «Ліст 15-ці» /часам памылкова «Ліст 12-ці»/, або «Заява беспартыйных». Група беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якая падпісала яго, ставіла перад ЦК КП/б/Б пытанні, звязаныя, з аднаго боку, з работай аргкамітэта па стварэнні Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, які пры сваім складзе /з 16 членаў — 11 былыя кіраўнікі БелАППа і 5 так званыя «спадарожнікі»/, імкнуўся захаваць «багаж белаппаўшчыны», перанесці яго ў ствараемую адзіную літаратурную арганізацыю. А з другога, — з бядотным матэрыяльна-бытавым становішчам літаратараў, што на думку аўтараў, патрабавала неадкладнага ўмяшання вышэйшых партыйных інстанцый.***

***У дакладной запісцы ў ЦК КП/б/Б «Несколько беглых замечаний о положении на белорусском литературном фронте» /10 лістапада 1932 г./ Міхась Лынькоў так тлумачыў з'яўленне «Ліста 15-ці»: «Сама БелАПП была по существу громадной творческой группой, группой, имевшей монопольное право руководить всей белорусской литературой. Отсюда — навязывание другим своего творческого метода /хорошо не разработанного самими/, запутывание и самих, и небелапповцев в дебрях неправильного термина «диалектико-материалистического творческого метода», канонизация своих писателей, замалчивание — из логики групповой борьбы — своих идейно-творческих срывов, групповой подбор людей, «левацкие» загибы в отношении некоторых попутчиков, ярлычки и прочие добродетели... Оргкомитет не провел решительной суровой критики работы БелАПП, не ударил, как следует, по остаткам групповщины, этим самым не создав подлинных условий для объединения всей писательской массы. И правы некоторые товарищи беспартийные, когда заявляют: «После постановления ЦК у нас как будто бы наступил мир» /в смысле ликвидации беспринципной грызни/, созданы условия для работы, но недовольство Оргкомитетом росло. Росло недовольство тем, что Оргкомитет не перетряхнул, как следует, полученный белапповский багаж. Это недовольство при наличии неудовлетворительных материально-бытовых условий использовалось и используется враждебными элементами, пробующими расколоть организацию, противопоставить беспартийных коммунистам /история с Заявлением/».***

***Але дадзім слова аўтарам «Ліста».***

Архівы

# «ДАВЯДЗЕМ ПАРТЫІ І САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ НАШУ ШЧЫРУЮ АДДАНАСЦЬ...»

## АБ «ЛІСЦЕ 15-ЦІ»

У ЦК КП/Б/Б
Сакратару ЦК
тав. ЖАБРОЎСКАМУ

Паважаны тав. Жаброўскі!

Становішча літаратурнае справы ў БССР прымушае нас звярнуцца да Вас з гэтым лістом. Справа ў тым, што сучасны склад Арганізацыйнага Камітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў паказаў сваю няздольнасць кіраваць літаратурным рухам, паказаў сваё няўменне стварыць належныя ўмовы для працы і развіцця пісьменнікаў.

Гістарычная пастанова ЦК Усе КП/б/ ад 23-га красавіка гг. яскрава вызначыла шляхі далейшага развіцця літаратурнага руху, згуртавання ўсіх савецкіх пісьменнікаў на выкананне вялікіх задач нашага часу, арганізацыі працы пісьменніка, дапамогі яму ў штодзённай рабоце, змагання за стварэнне сапраўднай, вялікай па якасці літаратуры пралетарыята.

Савецкія пісьменнікі Беларусі горача віталі гэтую пастанову, якая дае поўныя магчымасці для росту ўсіх галін пралетарскага мастацтва і канкрэтна ўключыліся на выкананне яе, мы маем цэлы шэраг прыкладаў, калі пасля пастановы пісьменнікі ўзяліся за напісанне вялікіх твораў з нашага сучаснага жыцця, з нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Здавалася б, што орган, які павінен кіраваць гэтым, які павінен дапамагаць творчай рабоце пісьменніка — гэта Аргкамітэт Саюза савецкіх пісьменнікаў — павінен быў бы зацікавіцца гэтым, павінен быў бы падтрымаць гэтую вялікую ініцыятыву, каб забяспечыць нармальнае развіццё літаратуры, стварыць такую атмасферу, у якой можна было б працаваць.

Што ж канкрэтна зроблена Аргкамітэтам у нас? Якая творчая і арганізацыйная перабудова праведзена ў нас, каб арганізаваць творчы актыў на выкананне пастановы ЦК?

Нічога не будзе лішняга, калі мы скажам, што ў пытаннях перабудовы літаратурных арганізацый у нас амаль нічога не зроблена. Пастараемся давесці фактамі.

1. Чым розніцца сучасны склад Аргкамітэта ад ранейшага кіраўніцтва БелАПП? Хіба тым, што ў яго ўвялі 1—2 так званых /кажучы белаппаўскай тэрміналогіяй/ «спадарожнікаў». Фактычна кіраўніцтва ранейшае. Прынамсі, ранейшы сам апарат, які штодзённа працуе, без жаданае змены. Нас цікавіць, чаму, скажам, на прыкладзе другіх брацкіх рэспублік, у склад Аргкамітэта не ўведзены лепшыя кваліфікаваныя майстры беларускага пісьменніцтва?

2. Трэба катэгарычна адзначыць, што па сённяшні дзень жывуць традыцыі белаппаўскай групаўшчыны, ігнаруецца пастанова і ўказанні партыі ад 23 красавіка пра перабудову. Зусім не разгорнута крытыка памылак мінулага белаппаўскага кіраўніцтва. Па-старому існуе самае няшчаднае вульгарызатарства ў дачыненні да савецкіх і пралетарскіх пісьменнікаў, старых пісьменніцкіх кадраў, якія не ўваходзілі ў каставую групоўку былога БелАПП, што фактычна і зараз праводзіць сваю групавую «палітыку». Гэтае вульгарызатарства прыводзіць да таго, што праз газету «Літаратура і мастацтва», часопіс «Маладняк» і інш. друкаваныя органы асобныя савецкія пісьменнікі, з блаславення былога белаппаўскага кіраўніцтва, беспадстаўна залічаліся ў варожыя пісьменнікі. Пра каставасць былога белаппаўскага кіраўніцтва сведчыць наступны глыбока абуральны факт: пралетарскаму пісьменніку, рабочаму Кобецу — аўтару п'есы «Гута», п'есы, якая ідзе па ўсім Савецкім Саюзе і за мяжой — толькі таму, што ён не ўваходзіў у былую каставую групу, былі створаны немагчымыя ўмовы для работы: ён з сям'ёй да гэтага часу находзіць сабе прытулак па чужых людзях; увесь час яго адхілялі ад кіруючай работы; яго п'еса «Гута», выдадзеная на многіх мовах народаў СССР, да гэтага часу на беларускай мове не выдадзена.

3. «Літаратура і мастацтва», орган Аргкамітэта, да гэтага часу не паставіла на прынцыповы ўзровень задач літаратуры сённяшняга дня. Па-ранейшаму — цмянае фатаграфаванне фактаў літаратурнага жыцця, беспрынцыпны падыход да з'яў літаратуры. Няма твару сапраўднага становішча літаратуры, сапраўднага змагання за савецкую літаратуру. Ніводным словам газета не абмовілася пра бытавыя ўмовы пісьменніка, тым часам як «Литературная газета» займаецца гэтым пытаннем штодзённа. Газета, карыстаючыся тым, што рэдактар заняты працай у рэдакцыі газеты «Акцябр» і не можа непасрэдна кіраваць ёю, папала фактычна ў рукі групкі літаратурных «недарасляў» /Мікуліч, Ліхадзіеўскі, Шушкевіч/, якія ператвараюць газету ў сродак правінцыяльнай самарэкламы і займаюцца грубымі, нахабнымі і неабгрунтаванымі выпадамі супроць цэнтральнага органа партыі «Звязда». «Літаратура і мастацтва», якая не займаецца ні пытаннямі творчасці, ні пытаннямі перабудовы, знаходзіць магчымасць даць цэлую паласу для абароны напалову халтурнага твору Мікуліча «Наша сонца», які быў падвергнуты крытыцы ў газеце «Звязда».

4. Склад рэдакцыйных калегій амаль не адноўлены. Яны непрацаздольныя.

5. Ніякай падрыхтоўчай работы да перабудовы не праводзілася. Старое наклейванне ярлыкоў, старая кіруючая верхавінка, старыя адносіны да пісьменнікаў.

6. Амаль усе літаратурныя часопісы ў гэтым годзе выдалі па 1—2 нумары. Чым гэта тлумачыцца, калі не бяздзейнасцю рэдакцыйных калегій, калі не бяздзейнасцю і няўменнем арганізаваць працу самога Аргкамітэта?

7. Ніякіх практычных крокаў да перабудовы не зроблена. Не было нават шырокага сходу, дзе як належыць было б пастаўлена гэтае пытанне.

8. Няма працы па арганізацыі ўдарнікаў у літаратуру. Гурткі, якія існавалі, развaліліся амаль усюды, а калі дзе і існуюць, дык жывуць самацёкам.

9. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, як і раней, гадамі марнуе і неахайна выдае кніжкі. Часамі проста жах узяць кнігу ў рукі. Выдавецтва нічога не робіць па лініі распаўсюджвання кнігі.

10. Сярод шырокага чытацкага грамадства не папулярызаваны пытанні перабудовы, задачы літаратуры сённяшняга часу.

11. Некаторыя кампаніі, якія праводзяцца Аргкамітэтам /вечары, юбілеі/, адбываюцца проста самацёкам. Аргкамітэт не вядзе планавай работы.

Гэта пра агульны стан. Цяпер жа пра бытавыя ўмовы пісьменнікаў. Мы ведаем, што маем усе магчымасці, што партыя і савецкая ўлада заўсёды дапамагаюць стварыць савецкаму пісьменніку нармальныя ўмовы працы.

Што ж мы маем у нас?

1. Заробчая плата пісьменніка — ганарар зацягваецца і выдаецца страшэнна неакуратна. Па некалькі месяцаў нічога не выплачваюць. Калі ж і бываюць выплаты — яны надзвычай неарганізаваны, выдаецца тады, калі захочацца, няма пэўнага часу ў выплаце ганарару. Створаны нездаровыя погляды на ганарар, як на нейкую ласку, як на нейкі заробак звыш практычнага мінімуму, таму некаторую суму з яго даводзіцца літаральна выклянчваць у выдавецтве, прычым, гэта факт, што на напісанне рэчы часамі ідзе не больш часу, як на патугі, каб атрымаць за яе ганарар. Ёсць людзі, якія па-абывацельску займаюцца падлічваннем ганарару, заробленага пісьменнікам, і прыходзяць да жахлівых вынікаў, што пісьменнік зарабляе шмат, не менш інжынера.

Вельмі балюча, што такія людзі не могуць зразумець аднаго, што калі пісьменнік больш зарабіў, значыць, ён больш працаваў, што яго праца па інтэлектуальнай сіле нікольні не ніжэй працы інжынера. Апрача таго, яны зусім не ўлічваюць выдаткаў на амартызацыю, на зарыхтоўкі матэрыялу. Бо, скажам, для таго, каб напісаць добрую рэч і атрымаць за яе 4—5 тысяч рублёў, смела 2 тысячы трэба выдаткаваць на амартызацыю, на зарыхтоўкі /паездкі, нагляданні, купля кніжак, перадрук і г.д./.

І калі за кнігі, здадзеныя ў друк, адзін-два гады назад нельга атрымаць ганарару, дык гэтым пісьменнік пазбаўляецца магчымасці брацца за новую, сур'ёзную працу, бо літаральнага цыркавання ганарарных ласак выдавецтва па 100—150 руб. толькі і хапае, каб разлічыцца з даўгамі.

Мы хочам, каб ганарар быў прыраўняны да пачэснай заробчай платы навучальнага працаўніка і інжынера і выдаваўся своечасова.

2. Асноўная творчая маса пісьменнікаў па лініі каапераціі аніяк не забяспечваецца. Таму і выходзіць, што за некалькі месяцаў аніякага пайка. Забеспячэнне прамтаварамі ўжо некалькі год як не робіцца. Гэта смешна, але гэта факт, што за ўвесь 1932 г. з прамтавараў на ўсю пісьменніцкую арганізацыю адпушчаны толькі адны штаны. Ніякіх талонаў на прамтавары і індывідуальныя заказы няма. Адсюль бясспрэчна і тое, што людзі абарваліся і проста цяжка не толькі выязджаць для працы ў раён, але і выступаць на літаратурных вечарах. Кіруючая і зараз былая белаппаўская верхавіна забяспечана, як і раней, па размеркавальніку, і таму, напэўна, як не клапацілася, так і не клапоціцца пра забеспячэнне астатняга творчага актыву. Наадварот, усялякую ініцыятыву з нашага боку паступова зводзяць да нуля.

Калі дэлегацыя пісьменнікаў у ГКАсветы т.Платуна ўмовілася пра стварэнне камісіі па вызначэнню аўтарскага ганарару і вырашэнне другіх бытавых пытанняў і калі камісія была створана ў складзе Лынькова, Галавача і Некрашэвіча, —дык яна з таго часу нічога не рабіла, а толькі зацёрла справы. Тым часам ганарар за апошнія часы мае тэндэнцыю на зніжэнне. Планавая камісія ДзВБ спланавала так, што за аркуш мастацкай прозы будуць плаціць 108 рубл. і за радок вершаў 50 кап., тады як дагэтуль плацілі 175—275 рубл. за аркуш і 75 кап. — І рубель за радок вершаў, а ў брацкіх рэспубліках у гэты час аплачваюць 400—500 рубл. аркуш і 2—3 рублі ў сярэднім радок верша.

3. Мы ўлічваем вялікі жыллёвы крызіс у Менску і немагчымага не хочам. Аднак некалькі чалавек, да таго ж часамі сямейных, зусім без кватэр. Дзе ўжо тут да творчае працы. Пытанне пра пабудову кватэрнага дому і цяпер, напэўна, яшчэ вырашаецца.

4. Надыходзіць зіма, а дроў няма. Здавалася б, што два дзесяткі шурак дроў не такая вялікая справа для Гартопу.

5. Дом пісьменнікаў нікольні не задавальняе нас. Гэта проста прахадны двор з трыма перагародкамі. Работы разгарнуць там нельга, няма дзе пачытаць і адпачыць. Няма бібліятэкі, няма нават сваіх выданняў з БВ. Гэта шмат падрывае нашу масавую работу. Той факт, што загадчыкам дому з'яўляецца чалавек, які кампраметуе яго, і кіраўніцтва да гэтага часу мірыцца з гэтым становішчам, паказвае зацікаўленасць нашых працаўнікоў у гэтых адносінах.

Мы ведаем, што гэтыя пытанні мусіў вырашыць наш Аргкамітэт і гарком пісьменнікаў, але, нягледзячы на шматразовую пастаноўку іх, мы згубілі ўсялякую надзею на іх вырашэнне, таму і звяртаемся да Вас, т.Жаброўскі з просьбаю дапамагчы аздаравіць літаратурную атмасферу, стварыць нам належныя ўмовы для працы.

Мы ж, з свайго боку, абяцаем, што давядзем партыі і савецкай уладзе нашу шчырую адданасць творамі вялікае мастацкае якасці на карысць народу.

Да гэтага часу мы не мелі мажлівасці пагаварыць з Вамі і таму думаем, што тая інфармацыя, якую Вы мелі і маеце ад былога белаппаўскага кіраўніцтва, не дае Вам сапраўднага ўяўлення пра стан беларускай савецкай літаратуры. Мы былі б вельмі рады пагаварыць з Вамі асабіста, і калі гэта можна, просім даць нам гэтую мажлівасць.

**Пятрусь Броўка, Ю.Таўбін, Уладзімір Хадыка, Максім Лужанін, Зм. Астапенка, Рыгор Кобец, Аркадзь Куляшоў, Анат.Вольны, Пятро Глебка, З.Бядуля, М.Тэйф, Ян Скрыган, К.Чорны, Крапіва, /прозвішча закрэслена/**

Размова адбылася на літаратурнай нарадзе ў ЦК КП/б/Б, якая праходзіла 25 кастрычніка 1932 г. пад старшынствам В.Ю.Жаброўскага. Ліст пісьменнікаў атрымаў на ёй неадназначную ацэнку — ад канстатацыі, што ён «у пэўнай ступені» малюе стан сучаснай беларускай літаратуры, да іранічных адносін, асабліва ў той частцы, дзе размова ішла аб бытавых умовах. Сёй-той яшчэ да нарады заявіў, што зрабіў памылку, падпісаўшы ліст. Р.Кобец у сваёй «Споведзі», пасланай Жаброўскаму, пісаў: «Я потерял /не совсем, правда/ партийное чутье и поэтому умудрился подписать письмо, в котором был ряд политических ошибок». Другія пачалі ўскладваць віну на «падбухторшчыкаў». Адзін з такіх «падбухторшчыкаў», А.Вольны, вымушаны быў зрабіць з гэтай прычыны заяву на нарадзе: «Я гавару, што я сам быў падстракацелем. Віна на мне за тыя памылкі, якія ёсць у гэтым лісце. Трэба сказаць, што некаторыя думкі там былі правільныя, але разам з тым былі вялікія нашы памылкі. Я аналізую гэты ліст і гавару, у чым нашы памылкі. Па-першае, мы падпісалі там штаны Броўкі, як сцяг, з другога боку, мы там стараліся рэвізаваць некаторыя моманты лініі партыі і стараліся Купалу выставіць як чалавека, якога абіжаюць. Гэта наша другая памыл-

(Працяг на стар. 12)

# «МАЛЮНКІ РОДНЫЯ І З'ЯВЫ!..»

Заключным акордам святкавання 70-годдзя «Новай зямлі» з'явілася вечарына ў Доме літаратара. Зала была перапоўнена. Успаміналіся радкі з паэмы: «Яшчэ ніколі дзядзька з роду не бачыў гэтулькі народу...»

На сцэне — аркестр народных інструментаў са Стоўбцаў. Яго выступленне — як пралог да самой вечарыны. Змаўкае апошняя мелодыя, музыкі «сыходзяць з яснай явы» — артыст тэатра юнага гледача Л. Улашчанка пад цымбалы Т. Чанцовай чытае пачатак «Новай зямлі».

Затым рэй вядзе народны паэт Беларусі, народны дэпутат Ніл Гілевіч. Павітаўшы публіку, ён, у прыватнасці, сказаў:

— Калі б і не было юбілею, то трэба збірацца для таго, каб яшчэ і яшчэ пачытаць гэту кнігу і пагаварыць пра яе. І асабліва сёння. Я ўяўляю, як такія творы, як «Новая зямля» Якуба Коласа, могуць дапамагчы нам зразумець, да чаго мы было па сваёй неабачлівасці дайшлі, што страцілі ці пачалі траціць, на бяду самім жа сабе. У гэтай кнізе з такой яркасцю і паўнатой паказаны маральныя, духоўныя багацці душы народнай, што сёння, канешне ж, мы абавязаны зачэрпнуць гэтых багаццяў, кожны паасобку.

Пра сваё далучэнне да Коласавай паэмы, пра маштабнасць, непаўторнасць і вечнасць «Новай зямлі» гаварылі на вечарыне народныя пісьменнікі Беларусі Янка Брыль, Іван Шамякін, літаратуразнавец Уладзімір Казбярук, выкладчык роднай



*Н.Гілевіч з сынамі Коласа Міхасём і Данілам*



*Гучыць «Мой родны кут»*

мовы і літаратуры 68-й СШ г. Мінска Пятро Валкавец. Вучні гэтай жа школы прачыталі ўрыўкі з паэмы.

Артыст тэатра юнага гледача Анатоль Жук, выканаўца ролі галоўнага героя паэмы ў тэлеспектаклі, створаным да 100-годдзя Якуба Коласа, узрушыў сэрцы слухачоў суровым маналогам Міхала. Самабытна і пацешна «варыў з дзядзькам Антосем клёцкі» інжынер аўтазавода Іосіф Гарэцкі.

Навінкай для ўсіх з'явіўся дуэт Міколы Равенскага «Мой родны кут». Выконваўся ён са сцэны ўпершыню. Слухачоў усхваляла і паведамленне вядучага, што разам з салісткай Эмай Пенінай яго спявае дачка кампазітара Вольга Аляксеенка. Акампаніравала Н. Чыжэвіч. Аўтар «Магутнага Божа» М. Равенскі першы звярнуўся да Коласавай паэмы.

Гучала на вечарыне, вядома, і даўно прызнаная ў народзе песня Ігара Лучанка з той жа назвай. Пад акампанемент Т. Трацця́к яе выканаў Міхась Жылюк.

Вершы, прысвечаныя мясцінам, дзе нарадзілася, выспявала славутая паэма, прачыталі Сяргей Законнікаў і Яўген Хвалей.

А на «закуску» быў «харчовы нумар» артыста Белдзяржфілармоніі Мікалая Казініна: ён запрасіў прысутных пабавіць час за Міхалавым сталом пасля падгляду пчол.

На заключэнне вечарыны зноў на сцэну выйшлі землякі песняра — народны тэатр «Полымя» і ўзорны харэаграфічны ансамбль «Лявоначкі».

**Іван КУРБЕКА**

*Фота П.ЖОЎЦІКАВА*

Анкета "ЛіМа"

***Нагадваем пытанні, з якімі мы звярнуліся да навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН РБ у сувязі з распачатай інстытутам працай:***

***1. Якой, на ваш погляд, павінна быць новая гісторыя беларускай літаратуры XX ст. у адносінах зместу, падыходаў і персаналіяў?***

***2. Над якім раздзелам /тэмай/ працуеце вы асабіста? Ці маеце пэўнасць па ўсіх пазіцыях?***

Сцяпан ЛАЎШУК

## ХАЧУ СПРАВЯДЛІВАЙ ГІСТОРЫІ

Пачну, бадай, з другога пытання. Мне даручана напісаць некалькі аглядных раздзелаў: «Драматургія пачатку XX стагоддзя»; «Драматургія 20-х гадоў»; «Драматургія 30-х гадоў»; «Драматургія 56—64 гадоў»; «Драматургія на сучасным этапе» і манаграфічных: «Кандрат Крапіва»; «Андрэй Макаёнак». Ці маю пэўнасць па ўсіх пазіцыях? «Пэўнасць» семантычна лучыцца са словам «пэўны», якое ўжываецца для абазначэння... няпэўнасці ў многіх словазлучэннях: «пэўны набытак», «пэўны ўклад», дзе яго можна лёгка замяніць словам «некаторы», «нейкі». Разам з тым, «пэўнасць» — блізкая радня слову «ўпэўненасць». Так што будзем лічыць, што я маю «пэўнасць».

Гісторыя літаратуры — жанр спецыфічны. Тут эсэістычнай расплывістасцю не абыдзешся. Тут патрэбна паслядоўная выверанасць аргументацыі: тэзіс — антытэзіс — выснова; факт — яго асэнсаванне — вывад. Трымайся гэтых дзвюх трыяд — вось табе і пэўнасць. І ўпэўненасць, што не саб'ешся на кан'юнктуршчыну і густаўшчыну. Вядома, на практыцы ўсё выглядае нашмат складаней. Круці не круці, а кожны з аўтараў «Гісторыі» — жывы чалавек, а не запраграмаваны робат. І ў кожнага з іх маюцца адметныя светапогляднаментальныя асаблівасці, свае прафесійныя схільнасці, нават прымхі і забабоны. Усведамляючы гэту акалічнасць, кожны ўдзельнік калектыўнай працы мусіць не забываць, што навуковыя рэдактары ў пошуках кантрапунктаў абавязкова будуць прычэсваць увесь матэрыял, выдаляць з яго індывідуальную «распатланасць». У выніку атрымліваецца дзівоснае вязьмо, у якім пераплецена пэўнасць і аглядка, упэўненасць і самарэдактура.

Зусім натуральна /гэта я пераходжу ўжо да адказу на першае пытанне/, што вынік такой працы павінен быць адпаведным. Новая «Гісторыя беларускай літаратуры» будзе пасапраўднаму навуковым выданнем. З часу выхаду папярэдняй яе версіі айчынным літаратуразнаўствам накоплена нямала новых фактаў, акрэсліліся новыя падыходы ў вытлумачэнні паасобных літаратурных з'яў і тэндэнцый. Пры гэтым мы пастараемся пазбегнуць памылкі некаторых прадстаўнікоў нашай гістарычнай навукі, якія ў перабудоўчым экстазе гатовы з белага рабіць чорнае, а плюсы ўсюды замяніць мінусамі. «Ave Maria» Максіма Танка і «Пахне чабор» Петруся Броўкі класікай ўспрымалася як пры таталітарызме, так і зараз. Ну чаму мяне павінна бянтэжыць, што той жа Іван Мележ быў членам ЦК КПБ і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР? Мне, гісторыку

Ірына БАГДАНОВІЧ

## БЕЗ «ПЕРАНІЦОЎКІ»

1. Наша літаратура прайшла амаль стогадовы шлях развіцця як літаратура нацыянальная і прафесійная. Выспявалі і сцвярджаліся гэтыя якасці ў ёй яшчэ ў мінулым стагоддзі, пачынаючы ад творчасці Адама Міцкевіча і філаматаў да Францішка Багушэвіча. Асягнуць навуковакрытычным позіркам гэтую літаратуру задача вельмі няпростая, улічваючы тое, што бадай пасля «Гісторыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага ў нашых даследчыкаў літаратуры не было свабоднага выбару ў яе асэнсаванні. Распрацоўвалася міфічная версія літаратуры. Міфічная ў тым сэнсе, які адпавядаў вялікаснаму міфу аб вызваленні беларускага народа пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і будаўніцтве новага самага перадавога ў свеце камуністычнага грамадства ў дружнай сям'і народаў СССР. Цяпер ёсць магчымасць даць гістарычную версію літаратуры, і трэба паспрабаваць гэта зрабіць. Пра новы змест нашай «Гісторыі літаратуры» можна гаварыць у тым сэнсе, што нам прыйдзецца вярнуцца да «Гісторыі...» М. Гарэцкага, дзе абсяг твораў і творцаў адпавядае на той час гістарычнай версіі літаратуры, — і адтуль крочыць.

Праца над новай «Гісторыяй літаратуры» мне бачыцца аднначасова як праца па аднаўленні гістарычнага мацерыка літаратуры /тут маецца на ўвазе ў першую чаргу шырокае ўвядзенне ў літаратуразнаўчы кантэкст твораў, што былі штучна выкраслены з нашай спадчыны і складалі своеасаблівы нацыянальны «андэграўнд»/, так і па яго раскадзіраванні ад апалагетычных догмаў літаратуразнаўства, заснаванага спачатку на пралеткультаўскіх тэзісах і вульгарным сацыялагізме, потым на тэорыі сацыялістычнага рэалізму і ў рэшце рэшт на галоўлітаўскіх «табу». У новай «Гісторыі літаратуры» пісьменнікі /напрыклад, такія, як Я. Купала, «узвышаўцы»/ павінны быць прадстаўлены ва ўсім спектры сваёй творчасці, а таксама павінны быць раскрыты і асэнсаваны персанальна творчыя лёсы такіх бліскучых дзеячаў нашай культуры і літаратуры, як А. Навіна /А. Луцкевіч/, В. Ластоўскі, Н. Арсеннева, Ф. Аляхновіч, К. Сваяк, Л. Геніюш і іншыя, рэпрэсіраваныя савецкай уладай не толькі ў сэнсе фізічным, але і на доўгія гады ў сэнсе культурным.

2. Напісала раздзел пра Міхася Чарота, цяпер працую над аглядным артыкулам «Паэзія 20-х гадоў». Складанасці, безумоўна, ёсць. Для мяне, скажам, гэта зусім новы жанр — артыкул у акадэмічную «Гісторыю літаратуры». Тут ёсць свае каноны і жанравыя патрабаванні, якіх неабходна прытрымлівацца і якія можна абмінуць у часопісным артыкуле, дзе дазваляецца большая мера эмацыянальнасці і суб'ектыўнасці, дзе ёсць мажлівасць нешта свядома апусціць альбо свядома падкрэсліць. Хачу заўважыць, што мы павінны быць цяпер дужа далікатнымі ў адносінах да пісьменнікаў 20—30-х гадоў, каб не апынуцца ў палоне іншай апалагетыкі. Што маю на ўвазе? Мы не многага дасягнем, калі будзем лаяць пісьменнікаў за тое, за што іх хвалілі раней, і наадварот — хваліць за тое, за што раней лаялі. Справа не ў тым, каб «пераніцаваць» пісьменніка, а ў тым, каб паказаць яго творчасць у кантэксце эстэтыкі яго часу і паглядзець, як яна стасуецца з эстэтыкай нашага часу. Прычым гэта не пытанне актуальнасці тэксту, бо іначай мы спрацілі б праблему, гэта хутчэй пытанне неадназначнасці тэксту, яго адкрытасці для інтэрпрэтацый.

Уладзімір КАЗБЯРУК

## ЯК ПЕРААСЭНСАВАЦЬ ЛІТАРАТУРНУЮ СПАДЧЫНУ?

1. Новая беларуская літаратура ніколі не была адгароджана сцяною ад суседніх і ў першую чаргу – ад рускай, польскай, украінскай. І каб зразумець нейкія гісторыкалітаратурныя працэсы ў нас, варта прыгледзецца да таго, што адбывалася там. А ў сувязі з гэтым звернем увагу на адну акалічнасць: у гісторыю польскай літаратуры XX ст. уключаецца і апошняе дзесяцігоддзе мінулага стагоддзя. Першы яе перыяд абмяжоўваецца рамкамі 1890—1918 гадоў. У нас літаратура XX стагоддзя сваім зараджэннем і росквітам звязана з нацыянальным адраджэннем, маніфестам якога з'явілася прадмова Ф. Багушэвіча да зборніка «Дудка беларуская», апублікаванага ў 1891 г. Невыпадкова яго пазней называлі бацькам беларускага адраджэння. Гэта Мацей Бурачок разбудзіў Цётку, дзеячаў БРГ—БСГ, Купалу. Разгляд літаратуры XX стагоддзя і павінен пачынацца з характарыстыкі нацыянальнага адраджэння, яго асноўных этапаў — творчасць Ф. Багушэвіча, дзейнасць стваральнікаў БСГ, газеты «Наша доля» і «Наша Ніва», выдавецкая справа, палітычныя падзеі 1917—1920 гадоў, перыядычны друк той пары, дзейнасць палітычных партый і арганізацый, І Усебеларускі кангрэс, абвяшчэнне БНР і яе незалежнасці, утварэнне ССРБ і Літбела, паўторнае ўтварэнне ССРБ /БССР/, Рыжскі дагавор і падзел Беларусі, шырокі размах палітыкі беларусізацыі ў 20-я гады ў БССР, паход супраць нацыянальнай культуры і гісторыі, які пачаўся ў 1928 г. вядомым артыкулам Кнорына, пачатковы этап рэпрэсій супраць нацыянальнай інтэлігенцыі, небывала шырокія маштабы палявання на антысацыялістычных ведзьмаў у 30-я гады.

Толькі ўсвядоміўшы асаблівасці і этапы нацыянальнага адраджэння, мы здолеем асэнсаваць ролю «Нашай Нівы» як калектыўнага арганізатара культурнага жыцця і літаратурнага працэсу, а таксама нацыянальныя асаблівасці такіх творчых напрамкаў, як рэалізм, рамантызм, мадэрнісцкія плыні — на фоне еўрапейскіх напрамкаў і ў цеснай сувязі з імі.

Асаблівай увагі заслугоўвае роля літаратуры ў ідэйна-палітычнай барацьбе, у фарміраванні нацыянальнай свядомасці беларусаў, у вострай, бескампраміснай пастаноўцы сацыяльных праблем. Кардынальна павінна быць пераасэнсавана гісторыя літаратуры перыяду грамадзянскай вайны, затым 20 — пачатку 50-х гадоў. Пры гэтым нельга абмінаць і «культаўскую» літаратуру, якая славіла рэвалюцыю і сацыялістычныя пераўтварэнні. Вядома, трэба даваць ёй ацэнку такую, якую яна заслугоўвае ў святле рэальных гістарычных падзей. Трэба даць адпаведную ацэнку тэрмінам «сацыялістычны рэалізм», «партыйнасць», а таксама палітыцы партыі ў галіне культуры і літаратуры /уключаючы выдавецкую справу, развіццё перыёдыкі, народную адукацыю, міжнародны і міжнацыянальны культурны абмен і г. д./.

У гісторыі літаратуры павінны заняць належнае ім ганаровае месца А. Гарун, А. Луцкевіч, В. Ластоўскі і ўсе тыя пісьменнікі, пра якіх мы калісьці абавязаны былі маўчаць. Літаратуры беларускай эміграцыі, а таксама літаратурнай Беласточчыне неабходна прысвяціць спецыяльныя раздзелы. Нельга абмінуць дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, літаратурнага аб'яднання «Белавежа», ролю газеты «Ніва», здзяйсненняў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША. Чытачы павінны мець магчымасць пазнаёміцца з творчасцю Н. Арсенневай, М. Сяднёва, А. Салаўя.

У працэсе работы над гісторыяй літаратуры прынцыпова важнае значэнне мае аб'ектыўная ацэнка літаратурнага працэсу на кожным этапе — без неабгрунтаванага навешвання ідэалагічных ярлыкоў, без неапраўданага адмаўлення ўсяго, што не адпавядае сённяшнім нашым уяўленням ці ведам. Даследчык павінен умець бачыць у літаратурным працэсе і ўнутраныя заканамернасці і знешнія фактары, што вызначаюць для гэтага працэсу цвёрдыя абмежавальныя рамкі, за межы якіх пісьменніку не дазвалялася выхіляцца. Задача заключаецца ў тым, каб у кожным выпадку паказаць, як у тых ці іншых канкрэтных умовах і пры вядомых абмежаваннях пісьменнікі ўсё ж стваралі сапраўдныя каштоўнасці /не абмінаючы і тых выпадкаў, калі яны проста прыстасоўваліся да тых умоў, што, на жаль, здарылася нават з Купалам і Коласам/.

2. Пішу для «Гісторыі беларускае літаратуры» раздзел пра творчасць А. Гаруна. Усё больш пераконваюся, што ён у нас яшчэ і сёння недаацэньваецца. У сувязі з юбілеем М. Гарэцкага адзін з нашых вядучых спецыялістаў падкрэсліў, што аўтар «Руні» ўваходзіць у «залатую пяцёрку» найвыдатнейшых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя. І назваў ён, побач з Гарэцкім, Купалу, Коласа, Багдановіча, Бядулю. А між тым Гарун па сваім таленце не ўступаў нікому з іх. У яго што ні твор — то нешта небывала самабытнае, непаўторнае, каларытнае. У паэзіі Гаруна такое багацце і разнастайнасць рытму, рыфмаў, форм мастацкай вобразнасці, нечаканых паваротаў думкі, што ён у гэтых адносінах смела мог спаборнічаць нават з Янкам Купалам.

Перад аўтарскім калектывам будучае «Гісторыі беларускае літаратуры» задача вельмі складаная, але ажыццявімая. Хацелася б толькі пажадаць, каб новае асэнсаванне літаратурнага працэсу і творчасці паасобных пісьменнікаў трапіла да зацікаўленага чытача не ў будучым тысячагоддзі, а ў максімальна скарочаныя тэрміны — магчыма, з добразычліваю дапамогаю часопіса «Полымя».

Паэзія

Таіса БОНДАР



# НОВЫХ ДЗЁН ЗАГАДКАВАЕ ЗЕРНЕ...

●

Усё са мной: каханне, боль расстання,
Задуха адзіноцтва па начах,
Гады, з якіх ніводзін не паўстане,
Каб абарваць, або прадоўжыць шлях.

І шлях сціскаецца ў цяжкія колцы
Вакол, усё смялей, усё шчытней,
Нібы ў жыцці, у нашай з ім суполцы,
Ужо нічога не належыць мне.

Мо й не належыць...
Што было — мінула.
На страчаным дарэмна варажыць:
Мець дом яшчэ не значыць
мець прытулак,
Працягваць жыць — яшчэ
не значыць жыць.

Дык што? Скарыцца —
не гадам, дык лёсу
І непазбежнасці зямной цаны?
Не, не, ёсць штосьці большае,
чым россып
Вось гэтых дзён, да горычы зямных.

Іначай бы і ўсмешкай не сагрэцца
Пасля бяссоннай, роспачнай начы...
Калі мяне /ці ранак?/ просіць сэрца
Яму — самой сабе! — дапамагчы.

І я ўсміхаюся насустрач ранку,
Насустрач тым, хто, як і я, гатоў
Любіць, і верыць новым абяцанкам,
Адкінуўшы цяжкі ланцуг гадоў.

●

Несмяротнасць душы —
несмяротнасць пакуты,
Што наблізіць да сутнасці вечнага «я».
Дзе тут месца сумненню?
А з кожнай мінутай
Паглыбляецца, шырыцца роспач мая.

Несвядома — і ўсё-ткі
настолькі свядома,
Што, здаецца, чуваць,
як рыдлёўка шкрабе
Пада мною, пад некалі
ўзведзеным домам,
Каб абрушыўся дом,
перш чым час мой праб'е.

Несмяротнасць... Відаць,
не яе я шукаю,
Калі клічу любоў,
хоць да болю люблю
Гэту зззяннем прыкрытую
высь небакраю,
Гэту палка адданую Сонцу зямлю.

Хоць да болю люблю
усю прывіднасць дома,
І ўсю бездань святла за сабой,
над сабой...
Несвядома — і ўсё-ткі
настолькі свядома,
Што за шчасце прымаю загадкавы боль.

●

Чароўная мелодыя... Гітара...
Забыты спомін пра пяшчоту хваль...
Павольна, спакваля вяртае мара
У пах вятроў захутаную даль.

У гэтай далі, між яе прастораў,
Люструючы зіхцелне цішыні,
Яе дыханнем збуджанае мора
Ўздымае тоўшчы цёмнай глыбіні.

Рытмічна, ўздых за ўздыхам,
стогн за стогнам,
Усё вышэй — насустрач прамяням,
Каб зліцца з імі,
стаўшы ў міг той Богам,
І даць жыццё, пачатак новым дням.

Ці новым, ці нязнаным...
Круг замкнецца.
І разамкнецца, каб з глыбінь агню
Устала Сонца, стаўшы ў міг той
сэрцам,
Якому зноў агучыць цішыню.

Азвецца неба, зачаруе мара...
Мелодыя любові... Плач гітары...

●

Цішыня. Цяжкія крокі лёсу.
Водгулле іх, чутнае ў той міг.
Патанаюць, чэзнуць у нябёсах
Птушкі. Потым споміны пра іх.

Потым позірк, які іх праводзіў,
Нават не ўсвядоміўшы тугі...
Што і як там, за мяжой стагоддзя,
За сцяною восеньскай смугі?

Дум трывожных далячынь не верне
/Што з таго, што ў іх тваё жыццё!/,
Новых дзён загадкавае зерне
Выспявае з новым пачуццём.

Пачуццём, якім жыццю прыкрыцца
Ад расчаравання і жуды, —
Хай часова, пакуль шчасце сніцца,
Хай наўдачу, пакуль малады.

●

Задумліваюсь душы...
Самотны пошук выйсця
З чарговае няўдачы, з тупіка,
Дзе пахнуць восенню і прэлым лісцем
І неба, і прастора, і рака.

Рака імгненняў, іх халодных бліскаў,
Якімі вецер студзіць не пагляд,
А вуліцы, муры старога Мінска,
Як век назад, як шмат вякоў назад.

І не імкнуся адагрэцца ў мары,
І не прашу, каб спомін адпусціў,
Хоць што мне ў тых вяках,
у іх абшарах,
Як і свайго жыцця не абысці?

Сцяна вакол. Высокая. Глухая.
За ёй, паблізу недзе,
ходзіць смерць...
Няўсцерп глядзець, як неба патухае,
І трэба, трэба ўсё-такі глядзець.

●

Плоць і душа...
Душа і даль скразная...
Мне выбіраць. Урэшце, мне самой.
Хоць знаю: ні ў адной з іх не пазнаю
Сябе, вось гэту, што цяпер са мной.

Перада мной! — у глыбіні люстэрка,
У суцемках, акрэсленых сцяной,
Ці /што адно і тое ж/ паняверкай,
Знаёмаю зямной ці незямной.

Чым дапаможаш тут? Якой парадай,
Як паміж намі — не гады, якія
Неразумення, нелюбві, няпраўды?
На ўзмах рукі — такі ж узмах рукі...

На ўсмешку — тая ж,
з выклікам, усмешка,
Што сведчыць пра адчай, стары адчай:
Лёс не збліжае, а разводзіць сцежкі,
Хоць час даўно ўжо хлынуў цераз край.

Хоць не імгненне, а жыццё пражыта,
Каб гэтак вось, спаткаўшыся з сабой,
Маўчаць, і жалкаваць
не аб нязбытым —
Аб недасяжным для душы слабой.

●

Колькі трэба прайсці,
каб дайсці да любові?
Як любіць, каб усіх
гарапашных сагрэць?
Вечнаіснае, Божае, яўлена ў Слове,
Што адкрые — далёка не кожнаму
— смерць.

Можа, і мне не адкрые:
слабая, грашыла...
Сярод бед і няшчасцяў, сваіх і чужых,
Не заўважыла нават, калі завяршыла
Круг спакусы і страт,
ад мяжы да мяжы.

Першы круг...
Ён не стаў, ён не стане апошнім
Воляй Божай, якую я чую ў сабе,
Значыць, трэба ўзараць
апусцелыя пожні,
Каб пасля, па вясне,
не спазніцца ў сяўбе.

Не спазніцца — і ў цёмную,
цёплую глебу
Кінуць зерне, сабранае мной за жыццё,
Каб у новым калоссі, асветленым небам,
Жыў, ажыў і прадоўжыўся век малады.

●

Абрыўкі думак, чутых падсвядома,
Ашмоцце згадак, павуцінкі сноў
Ганяе вецер па пустому дому
На зломе ўсіх дарог, усіх часоў.

Хто знае, чый ён, хто ў ім гаспадарыў,
Пакуль не кінуў спомінам сваім?
Вось-вось праломіць дах цяжкая хмара,
Навіслая ўсім цяжарам над ім.

Над ім... Над намі ўсімі,
над натоўпам,
Што не цікаўнасць,
страх прыгнаў сюды,
Страх перад караю, перад патопам,
Міфічным і магчымым, як тады...

Пагроза ёсць. Яна ад сцэнаў гэтых —
Па злому — перакінецца на нас,
Калек і дурняў, непатрэбных свету
Ні ў зжыты век, ні ў іншы, новы час.

Спужаныя нязвыкласцю работы,
Хаваемся ўначы, чакаем днём...
Не, каб узяцца гуртам і ў ахвоту:
Яшчэ ж стаіць, не абваліўся дом!

●

У самы чорны дзень, у цемры свецяць
Не словы, а застылы ў іх агонь:
Любіце ўсё і ўсіх на гэтым свеце,
Так, як любілі б Госпада свайго!

Усё і ўсіх, хоць гэта і няпроста
У век, так шчодра ўспоены крывёй,
Што калі штосьці і люструе прастор,
То толькі кроў на квецені жывой.

На квецені, якой адорваў памяць
Людскі адчай /ці ж мне
яго не знаць!/...
Завее шлях гадоў цяжкая замець,
Перш чым паспею ўсё яму сказаць,

І што — усё? Аддыхае дасвецце
Мо жменьку слоў,
мо толькі іх агонь:
Любіце свет і ўсё і ўсіх на свеце
Так, як любілі б Госпада свайго!

---

Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ



●

Мой маладзік
узыдзе порсткай поўняй
і праплыве бы човен над зямлёй.
Камусьці здасца
вобраз той
Пагоняй,
а іншым
ён уявіцца гайнёй.
Мой млечны шлях
вядзе з вараг у грэкі.
Мой кожны крок
ляжыць праз Беларусь.
Дзе сэрца скарб —
лясы, азёры, рэкі...
Яны тугу
з сабою забяруць.

●

Ляплю з малекул літар
Радкі, куплеты, вершы.
Мой келіх не адпіты,
Хоць выпіты не першы.

Лаўлю ад ліры гукі
І ад зямлі натхненне.
Паэзія прынукі
Не пражыве імгнення.

Яна ад болю сэрца,
Пяшчоты і кахання
Зязюляй адзавецца
І паляціць у ранне.
Туды, дзе вецер жвавы
Пляце бярозам косы,
Дзе весяляцца травы
І ападаюць росы.

●

О дзе ж вы, рыцары зямлі,
Дзе вашы коні і даспехі?
Вы гонар продкаў прадалі,
Што за зямлю ў баях палеглі.

Вы прагулялі, прапілі
Бацькоўскі кут, Айчыну, маці.
О, дзе ж вы, рыцары зямлі?
Устаньце ўрэшце, годзе спаці!

●

Кахаю не цябе, а маладосць.
У ёй — жыццё. Мелодыя Сусвету.
Кахаю не цябе, а весялосць,
Птушыны спеў і выспелае лета.

Імкнуся зразумець матыў жыцця
І прыгажосць зямлі свае — Айчыны.
Іду туды, дзе святасці працяг,
Дзе паважаць саміх сябе вучылі.

●

Мне хочацца вярнуцца ў стары горад
І пахадзіць да ранку брукаванкай.
Дзе брук пераклікаецца з падковай,
Дзе ззяла сноў ліхтарня — калыханка.

Мне хочацца вярнуцца ў стары горад,
Дзе не гулі машыны і трамвай;
Дзе быў найлепшым голуб паштальёнам;
Дзе цэрквы і касцёлы будавалі.

Мне хочацца вярнуцца ў стары горад,
Зайсці ў карчму, гуляць і весяліцца,
Забыцца пра ўсе клопаты і гора,
Вады святой крынічнае напіцца.

Мне хочацца вярнуцца ў стары горад,
Дзе сноў маіх не згінула надзея;
Куды вяртацца нам яшчэ не сорам;
Дзе крыж святы пад промнямі ірдзее.

Георгій МАРЧУК

# «ХАОС»

## З НІЗКІ АПАВЯДАННЯЎ



## РАННЯЕ СЕКСУАЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ

Галоўны ўрач шыракапрофільнага дыспансера здрадзіў сваёй палюбоўніцы Святлане Нічыпараўне нечакана, без усялякіх на тое падстаў і прычын. Зняважаная палюбоўніца цвёрда вырашыла хоць якім-небудзь чынам ды адпомсціць яму.

Усё прыпала, лічы, на адзін дзень. Дзяржава толькі-толькі абвясціла суверэнітэт і незалежнасць, увяла нешта кшталтам уласных грошай і з асцярожнасцю і неахвотаю дазволіла кіраўнікам распісваць бюджэт сваіх устаноў як бы самастойна і як бы пры ўскосным наглядзе чыноўнікаў з міністэрстваў. Патрабавалі, праўда, у час рэформ пераходу да рынку, разбурэння дзяржаўных адміністрацыйных структур кіравання, не вельмі настойліва.

Хітраваты галоўны ўрач Дубоўскі адразу ўцяміў, што неабавязкова ствараць камерцыйныя фірмы ці малыя прадпрыемствы з абмежаванай адказнасцю, — можна грэць рукі, ногі і спіну і пад дахам незалежнага і суверэннага дыспансера. Ён, па прыкладзе іншых, утварыў і сваю тройку — з самога сябе, галоўнага бухгалтара і начальніка аддзела кадраў. Усе яшчэ жылі там, у мінулым, з ілюзіяй нібыта паўсюднай сацыяльнай справядлівасці, а ён, добра засвоіўшы галоўны пастулат сённяшняга імпульсу жыцця — разбагацець любымі сродкамі, спадцішка кіраваў імі. А яны? Яны ўсё яшчэ з адрыжкай ідэйнасці спадзяваліся і верылі ў закон і праўду, губляючы з кожным днём права голасу і права пратэсту. Усе хутка ўцямілі: далі табе стаўку, паўтары — і маўчы, не капай яму, не цікаўся, чаму іншы атрымлівае больш за цябе, бо выпруць за браму, і шукай тады кавалак хлеба, як сляпы выйсця з лабірынту.

Беручы Святлану Нічыпараўну да сябе ў штат, чванлівы, саманадзейны як фюрэрчык, нізкарослы галоўны ўрач мякка-павучальна, як следчы, які добра ведае ўчынкі падазраваемага ў злачынстве, папярэдзіў, што з задавальненнем бярэ да сябе такую мілую сімпатычную жанчыну, за якую прасілі /прасіла былая аднакласніца Святланы, загадчыца аддзела аховы здароўя ў гарвыканкоме/, і што ў такі складаны час пераходу да капіталізму ён дае ёй аж тры стаўкі! У Святланы ледзь хапіла сіл, каб дакрануцца да выбеленых на салому валасоў — ёй падалося, што яна вось-вось страціць прытомнасць.

«Божа, Святая Маці Марыя, — успомніла яна словы малітвы сваёй бабулі ў мястэчку, — няўжо яшчэ не звяліся такія добрыя, чулыя, справядлівыя людзі? Такі бескарыслівы, сам падаў мне руку дапамогі». Яна гатова была прытуліць да грудзей яго злыселую галаву і цалаваць, цалаваць з удзячнасцю.

— Сядайце. Я не такі грозны і страшны, як усім падаецца ў дыспансеры. Так. Здараецца, я прыходжу за пяць мінут перад пачаткам работы, каб праверыць дысцыпліну, але ж гэта толькі ў дні перад размеркаваннем прэміі. Ад «каждого по способности, каждому по труду» — гэта застаецца там, з Леніным і Гарбачовым ды іншымі балбесамі, якія лізалі ім задніцы. Цяпер іншае. Жыві сам і дай жыць другому. Поўную стаўку даю вам, як старшай медыцынскай сястры дыспансера, паўстаўкі будзеце мець — як звычайная медсястра на маім прыёме і стаўку дам, як загадчыку архіва медрэгістратуры. Дарэчы, аб архіве нават ніхто і не ведае. Я збіраю ў сваё акружэнне толькі адданых мне людзей, такі мой прынцып. Пры буржуазных адносінах, да якіх мы скіраваны цывілізаванай Еўропаю, не прынята на людзях гаварыць, хто за што, колькі і дзе атрымлівае грошай.

У Святланы Нічыпараўны, якую ўпершыню бралі на такі высокі пост, перахапіла дых, яна напалохалася, баялася, каб ад узнерваванасці не напаў на яе панос. Аднойчы такое здарылася з ёй, калі пятнаццацігадовая дачка не прыйшла начаваць.

Калі атрымоўвала ў касіркі грошы, вачам не паверыла: «Няўжо яна, простая медсястра з дваццацігадовым стажам, якая не надта каб была загружана работаю, трымае ў руках паўторбы грошай, суму ўдвая большую, чым у вядучага хірурга-анколага, які адзіны на ўсю рэспубліку мае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі?» Прыехалі неяк немцы — прывезлі гуманітарную дапамогу. Яна яшчэ тады не ведала, што амаль усю гэтую дэфіцытную імпартуху галоўны праз падстаўных фірмачоў перапраўляе ў Літву ці ў Польшчу. І яе трохі далучылі да гэтай доларавай справы. За яе маўчанне і старанне падараваў ёй Дубоўскі світэр з ангорскай воўны, доўга гладзіў яе пухлыя, кароткія пальцы. Частавалі замежных дараносцаў. Пілі па-чорнаму. Чырванашчокія немцы ўпіліся на славу, праводзілі іх да мікрааўтобусіка, пасадзілі і яшчэ, стоячы на ганку, доўга пасылалі ім услед пацалункі ды махалі рукой. Ён пахваліў яе за культуру і багацце стала. Зноў падняліся да яго ў кабінет. Дубоўскі замкнуў дзверы, пасадзіў без слоў Святлану да сябе на калені і пагладзіў сваёй кароткай ручкаю яе грудзі. Яна, шчаслівая, так ужо яго абдымала, так цалавала, нібыта ад гарачыні гэтых пацалункаў залежала ўсё яе далейшае жыццё. З таго дня і пачалося. Ён толькі нагадваў ёй пра сябе тэлефонным званком /здаралася, і не толькі пасля семнаццаці гадзін/. І яна, усё разумеючы, падымалася да яго на другі паверх, як на пачэсную работу.

Яна нават не паспела прывыкнуць да яго, не тое каб пакахаць, як прыйшоў гэты чорны для яе дзень. Яна сама, сама накінула ўдаўку на сваё адносна спакойнае, бесканфліктнае, сытае жыццё. Святлана прыняла на паўстаўкі сваю даўнюю знаёмую — кардыёлага Тамарку. У той дзень якраз прыехалі амерыканцы. З той жа гуманітарнай дапамогай: аднаразовымі шпрыцамі. Галоўны са штучнай зацікаўленасцю цягаў іх, абыякавых, з кабінета ў кабінет і ўсё плакаўся /навучыўся/, выклянчваў наборы для хірургічных кабінетаў, каб потым з наварам іх збыць. Хваліў Амерыку, Буша, буру ў пустыні і чорт ведама што. Высветлілася /зноў жа, падказала Святлана/, што новы кардыёлаг някепска ведае англійскую мову. Галоўны неадкладна ўключыў яе ў склад дэлегацыі ад дыспансера на міжнародны семінар эндакрынолагаў — хоць ні ён сам, ні яна не мелі аніякага дачынення да эндакрыналогіі. Але было гэта надта ж прэстыжна, з багатым банкетам у шыкоўнай зале эскавэшнай гасцініцы. Раней на падобныя семінары ды сімпозіумы хадзіла лагодная і паслухмяная, як сякера, Святлана Нічыпараўна.

Не надта асцярожная, гаварлівая Тамарка сама ж і адкрылася сяброўцы, што пераспала без комплексу з галоўным урачом. Усю ноч няшчасная Святлана не спала — гэтак расхвалявалася, і на ўсё астатняе жыццё ўзненавідзела Тамарку. Больш за ўсё ёй было шкада трох ставак і той улады над паніклымі і занядбанымі ад чакання галоты супрацоўнікамі дыспансера. Густой помстай напоўнілася яе сэрца і да галоўнага віноўніка яе гора. Забралі ад яе стаўку загадчыцы архіва рэгістратуры. Паніклая духам, саромеючыся сустрэцца вочы ў вочы з супрацоўнікамі дыспансера, Святлана Нічыпараўна выношвала, між тым, план сваёй помсты быламу палюбоўніку, які больш не запрашаў яе да сябе.

Вопытная старшая медсястра заўважыла, што Дубоўскаму надта ж падабаецца Марына са статыстыкі — дзяўчына знешне сціплая, з доўгай касою. Ён, як яна заўважыла, шукаў падыходы, трохі саромеючыся свайго ўзросту — як-ніяк, быў удвая старэй за Марыну, але ж упарта не мінаў кабінета медстатыстыкі, каб забегчы хоць мімаходзь. «Што ў вас? Як наша Марынка? Ці не цяжка адразу пасля інстытута? Не крыўдзяць калегі?» Марына, чырванеючы, адказвала, што ўсё добра і ўсё ў яе ладзіцца. Вось і вырашыла Святлана Нічыпараўна, каб ён, крывасмок, не завалодаў сціплай і паслухмянай дзяўчынкаю з шэрымі, як бы вечна санлівымі вачыма, апярэдзіць ненавіснага здрадніка.

«Трэба яе так прасвятліць, так напалохаць, так настроіць супраць, каб яна абыходзіла за тры кіламетры гэтую пачвару, брыдоту, ад якой патыхае потам і старасцю, нягледзячы на французскую туалетную ваду». І Святлана Нічыпараўна паступова наблізіла памяркоўную і паслухмяную Марыну да сябе, запрашаючы яе раз-пораз на каву. Дзяўчына падалася ёй і чулай, і даверлівай, і тактоўнай. Святлана Нічыпараўна адкрыла ёй сваю тайну: пра сваю былую сувязь з галоўным і пра подлы ўчынак сяброўкі-кардыёлага.

— Ты глядзі, якая спрытная, — адказала Марына, выказерыўшы свае невыразныя шэрыя вочы.

— Яшчэ якая! — падхапіла Святлана Нічыпараўна. — Напазычала ва ўсіх грошай і паехала на экскурсію ў Турцыю. Ты бачыла на ёй скураную куртку, вышытую шоўкавай ніткаю на рукавах, плячах?

— Ну.

— Дык гэта ж яна, бессаромніца, каб атрымаць яе, лягла ў ложак з гаспадаром крамы ў Стамбуле, пакуль сяброўкі чакалі яе ля ўвахода. О, да чаго нас давялі, як нізка палі нашы жанчыны! Насупраць, з другой крамы, як клікаў яшчэ адзін гаспадар, але — не пайшла, спяшалася на аўтобус.

— І яна мне агідная, — перакрывілася Марына.

Яны ў паразуменні, у еднасці душ з асалодаю пілі каву, гледзячы ў акно, пад якім, ля ўвахода ў дыспансер, стаялі два студэнты і запрашалі супрацоўнікаў паставіць свой подпіс на дакуменце, які заклікаў правесці рэферэндум аб роспуску парламента. Але ніхто не ставіў: галоўны папярэдзіў, што кожны, хто падпішацца, трапіць пад скарачэнне.

Святлана Нічыпараўна і Марына маўчалі, засяроджана думалі пра адно і тое ж — яны зайздросцілі кардыёлагу.

«Дурная! Гэта ж колькі можна было адхапіць такім чынам у Стамбуле куртак? Азалаціцца за іх тут можна было б! Не менш трох», — думала Святлана Нічыпараўна.

«Ідыётка дзеравенская! На халяву вырвалася ў Стамбул...Ды каб былі ў мяне долары на дарогу!.. Гэта ж можна на халяву пяць, шэсць куртак прыперці, — сумавала Марына. — Трэба будзе, пры выпадку, падаіць гэтага старога казла, які ўяўляе сябе маладым жарэбчыкам. Добра, што гэтая авечка мне ўсё адкрыла. А я думала, і чаго гэта ён чапляецца да мяне?.. За нейкую гадзіну шэсць куртак... Ідыётка! Дурная баба!» — І яна зноў вярталася ў думках да таго, што найбольш трывожыла.

Над дыспансерам, у пасвятлелым небе, ляцела чарада дзікіх гусей. Вярталіся з зімоўкі ў родны кут. Рэдкая з'ява — гусі ў небе над горадам.

Аднак птушкі не цікавілі субяседніц.

## МАРЫЯ, ЦЁТКА МАНЯ, БАБА МАША

Без перабольшванняў скажу: калі б яна толькі захацела, дык, яй-богу, і на лёдзе ў яе жыта расло б. Цяпер ёй пяцьдзесят, але яна заўсёды, паверце, была такой учэпістай, увішнай, здольнай да ўсялякай работы жанчынай. Бацькі, якія пераўжылі дзве рэвалюцыі і тры вайны, далі ёй традыцыйны для палескага мястэчка пасаг: пасцель, адзежу, дыван і, на той хрушчоўскі час, вельмі невялікія грошы. Усё, што яна сёння мела, чым валодала на зайздрасць астатнім, нажыла разам з рахманым і паслухмяным мужам сама.

Яна, Марыя, увайшла ў рыначныя адносіны задоўга да іх афіцыйнага абвяшчэння. Пытаецеся, як увайшла? Проста. Вы маеце вішнёвы сад і яна яго мае. Вы сабралі два вядры вішань, натаміліся і павезлі іх аўтобусам у мястэчка на базар, бо каму ж у вёсцы прадаваць, а ў мястэчку жыве пралетарый, які свайго садка не мае. Што робіць Маня? Яна з вечара збірае тры вядры, а раніцою з чалавекам паспявае нарваць яшчэ адно і з чатырма вёдрамі выбіраецца да мястэчка. Але як? Проста. Нясе напачатку два вядры метраў пяцьдзесят, ставіць на зямлю, вяртаецца і забірае астатнія два вядры, якія пакінула на дарозе. Так чаўнаком да рынку і дабіраецца. Яе канкурэнты ў кулак пасмейваюцца, але ж яна прадае чатыры вядры вішань, а яны — два, яна забірае ў іх пакупнікоў.

Як не было ёй роўні ў працы, так усе пасавалі перад ёй у дні фэстаў і вяселляў. Хто толькі не спрабаваў спаборнічаць з ёй! Украіна, а яна пачынаецца адразу за Гарынню, лічы — за пяць кіламетраў ад Манінай вёскі, ужо як праслаўлена сваімі галасістымі цёткамі, — і што? Выпадала сустракацца на вяселлях талентам і з таго і з гэтага боку ракі, дык, паверце, не знаходзілася маладзіцы, каб магла на роўных супрацьстаяць жыццялюбству і таленту Мані. Музыкі выдыхаліся, не пры нас кажучы, хоць вадой іх адлівай, а яна — у самым дарагім плацці, у італьянскіх туфлях — новую прыпеўку распачынае. Трэба пяцьдзесят прыпевак — праспявае паўсотні, сотню, а хоць дзве. Такой вось смелай, спрытнай, вострай на язык, адкрытай да людзей была яна ад маладых гадоў. Нічога не змяніла яе: ні калі выйшла замуж за Славу, ні калі дзяцей нарадзіла, калі бабай Машай стала. Ні абставіны, ні гады, ні цяжкасці, ні адносная заможнасць не памянялі яе дух, характар.

— Ай, адчапіцеся. Люблю жыць каб мне зайздросцілі, а не каб я зайздросціла, — часам паўжартам адказвала Маня.

Нідзе яна, здаецца, не губляла гэтага пачуцця гумару і мяккай іроніі да ўсяго. Нават на могілках. Праводзіла да апошняга спачыну і далёкіх сваякоў свайго чалавека і старых аднавяскоўцаў, спачувала аднолькава ўсім і плакала па нябожчыку. Пасля пахавання яшчэ доўга хадзіла з сяброўкамі-суседкамі па могілках, прыпыняючыся амаль ля кожнай магілы і згадваючы тых, хто ў ёй ляжаў.

— Пабач, пабач, о Вася ляжыць... Адкраў сваё, небарачка. Парасяты на ферме радуюцца — няма Васі, няма каму іх красці.

— А гэта о Каленік? Сіла нябесная, — Маня не забывала перахрысціцца, — адпіў сваё.

— Давай яшчэ дзеда Яўхіма праведаем. Адкурыў сваё. Бач, і на магіле табака расце. О, малайчына баба, ведала, што пасадзіць.

— Гэта ж Яська. Ну, што, утапіўся. Сядзеў на маім беразе ды піў. Кажу, не пі ты гэтае чарніла, мой чалавек не п'е, і ты не пі, бо сядзеш у лодку і ўтонеш. Пайшла я карміць парсючкоў. Вяртаюся — аж крычаць: Яська ўтануў! О, госпадзі! Вечны пакой.

- А вунь мой аднагодак. Адгуляў сваё. Як памёр, дык ужо і ўдоў нашых няма каму пашчупаць. Але ж, ляжыць каля прыгожай маладзіцы. От, халера, і тут сваё не ўпусціў! Ой, няхай Бог бароніць нас... Яны ж як хацелі, так і жылі...

Хадзілі так жанчыны за Маняю па могілках, усміхаліся нават, забываючыся на тое, дзе знаходзяцца, нібыта з жывымі размаўлялі, дзякуючы Мані. І смех, і грэх. А што зробіш? Такая ўжо Маня, такой удалася. І чорта запражэ ў аглоблі.

Камета нейкая праляцела над зямлёй. Нечакана чалавек яе — галоўны бухгалтар калгаса — моцна захварэў: так сэрца прыціснула, ледзь уратавалі ў раённай бальніцы. Праз паўгода выйшаў на службу, але нядоўга з тымі таблеткамі пад языком прахадзіў — памёр сярод ночы, калі ўсе спалі. Удзень, пэўна, Маня не аддала б яго смерці.

Пахавалі яе Славу ўвосень. Прыціхла Маня ўся, схуднела нават, замаркоцілася, аж не пазнаць. Яшчэ па інерцыі круцілася на гаспадарцы за дваіх, але ўжо былой цікавасці і ўпэўненасці ў вачах не было. Часта хадзіла на магілу пасядзець ля мужа. Моўчкі, як усе, ціха плакала, папраўляла магілку і разам з другімі жанчынамі-ўдовамі нетаропка вярталася ў вёску, да сваёй прыгожай, мураванай пабеленай хаты. Ніхто больш ніколі не чуў яе трапнага, аптымістычнага, гарэзлівага слоўка ў бок тых, хто ляжаў побач з яе мужам.

# «СТАНПРАБЛЕМЫПЕРСПЕКТЫВЫ»

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА УСЕБЕЛАРУСКАЙ ТЭАТРАЛЬНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

На першы погляд, сабраць разам некалькі дзесяткаў чалавек і назваць гэта Усебеларускай канферэнцыяй — ёсць у пэўным сэнсе саманадзейнасць, якая мяжуе з самазванствам. Але гэта толькі на першы погляд. Наш тэатральны свет досыць вузкі, і ў пансіянаце СТД, што ў Астрашыцкім Гарадку, за невялікім выключэннем сабраліся менавіта тыя, хто, як ні напышліва тое гучыць, вызначае сёння ўзровень тэатральнай справы на Беларусі: рэжысёры, адміністратары, драматургі, супрацоўнікі Міністэрства культуры, акцёры, сцэнографы, крытыкі. Думаецца, спаткаўшыся такім колам, дзе ўсе ўсіх не адзін год ведаюць і за кожным — пэўны жыццёвы і творчы досвед, можна, не губляючы шмат часу на высвятленне пазіцый, грунтоўна абмеркаваць тую ці іншую праблему з жыцця агульнай тэатральнай сям'і. І нават сёетое вырашыць, калі, вядома, праблема тая — з разраду вырашальных.

Гэтым разам паўнамоцны тэатральны парламент прыняў да разгляду фантом, «воблака ў штанах», а менавіта — пытанне «Тэатральнае мастацтва Беларусі і праблемы нацыянальна-культурнага Адраджэння». З дакладам «Сучаснае тэатральнае мастацтва Беларусі: стан, праблемы, перспектывы» выступіў доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі. Даклад атрымаўся змястоўным і ўсеабдымным — ад аналізу грамадска-палітычных працэсаў і пастаноўкі задач нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва да перагляду ролі і месца Валерыя Раеўскага ў гісторыі беларускай сцэны... Трэба шчыра прызнаць, што ўсяго толькі пяць гадоў назад падобны даклад зрабіў бы сапраўдную рэвалюцыю.

Потым удзельнікі канферэнцыі пачалі агульнымі намаганнямі аналізаваць стан, праблемы і перспектывы далейшага развіцця тэатральнай справы, вызначаць ролю, месца і значэнне сцэнічнага мастацтва ў сучасных працэсах нацыянальна-культурнага Адраджэння. Вядома, гэтую звышзадачу ўдалося вытрымаць не ўсім з трыццаці прамоўцаў, некаторыя з іх разважалі, дзяліліся з калегамі набалелым, адчутым ці асэнсаваным. А ўвогуле ўсё ішло ў звыклым рэчышчы шматгадовых традыцый правядзення канферэнцый, пленумаў, семінараў і г. д. Неўзабаве пачало высвятляцца, што тэатральнае мастацтва Беларусі мае цяперашні стан, мноства праблем і пэўныя перспектывы. Заставалася замацаваць гэты плён калектыўнай думкі ў выніковым дакуменце.

Вось ён, перад вамі.

Натуральна, цяжка патрабаваць дасведчанасці ў працэдурных тонкасцях ад майстроў яркіх імправізацый, вытанчаных мізансцэн і маштабных пастановачных рашэнняў. Натуры творчыя і далікатныя, яны, вядома ж, грэбуюць фармалізмам і казёншчынай. Але мне ўсё ж вельмі хочацца, каб гэтую рэзалюцыю хоць бы раз, нарэшце, **прачыталі** менавіта ўдзельнікі канферэнцыі — тыя, хто прыняў яе «на слых», без абмеркавання і галасавання, што называецца, кансенсусам.

І мне цяжка паверыць, што пасля нават павярхоўнага знаёмства з тэкстам дакумента не ўзнікне пытанняў, накшталт: навошта гэтая «аптымістычная трагедыя» прэамбулы і палітінфармацыя першага і другога пунктаў? Што азначае ў пункце трэцім фраза «патрыятычна-грамадзянскае разуменне свабоды творчасці»? Чаго ў рэзалюцыі больш — кан'юнктурнай траскатні ці сэнсу? Каго і да чаго яна абавязвае? І, нарэшце, ці не сабрацца зноў у тым жа складзе для сапраўднага абмеркавання прапаноў, выкладзеных у пункце чацвёртым, — наколькі вядома, сярод тэатральнай грамадскасці няма пакуль адзінства на гэты конт?

**Андрэй ГАНЧАРОЎ**

**P. S.** Усё напісанае тут прашу разглядаць як «рашучае пераадоленне рэцыдываў канфармізму».

**А. Г.**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## УСЕБЕЛАРУСКАЙ ТЭАТРАЛЬНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ «ТЭАТРАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ І ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАГА АДРАДЖЭННЯ»

У часы гістарычных зрухаў і катаклізмаў, рэвалюцый і іншых кардынальных пераўтварэнняў ладу жыцця, перад грамадствам, дзяржавай, чалавекам /а тым болей Мастаком!/ паўстае шмат складаных, супярэчлівых праблем і пытанняў, на якія вельмі цяжка адразу знайсці грунтоўныя і дакладныя адказы.

Так і сёння, у першай палавіне 90-х гадоў, узнікла унікальная гістарычная сітуацыя, абумоўленая распадам вялікай дзяржаўнай супольнасці — Саюза ССР, і нараджэннем новых маладых дзяржаў, сярод якіх і наша Рэспубліка Беларусь. Аб'ектыўна гэтыя падзеі сучаснікам надзвычай складана адразу зразумець, ацаніць, усвядоміць, асэнсаваць. Але ход жыцця няўмольны, ён ужо зараз патрабуе пэўных адказаў на многія пытанні, патрабуе неадкладных рашэнняў, у тым ліку і ў той сферы, якая стала для ўсіх нас — тэатральных дзеячаў — справай не толькі прафесійнай, але і жыццёвай.

Абмеркаваўшы шырокае кола надзённых праблем сучаснай тэатральнай культуры Беларусі ў кантэксце сённяшніх працэсаў нацыянальна-культурнага адраджэння і дзяржаўнага будаўніцтва, што адбываецца зараз на абсягах нашай Бацькаўшчыны, удзельнікі Усебеларускай тэатральнай канферэнцыі прыйшлі да наступных высноў, ідэй і прапаноў:

**Па-першае**

Дзеячы тэатральнага мастацтва Беларусі сёння:

— усведамляюць сваю прафесійную і грамадзянскую адказнасць у сучасных варунках грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і нацыянальна-культурнага жыцця, скіраваных на дасягненне галоўнай мэты — будаўніцтва незалежнай, суверэннай, нейтральнай, дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь, у якой будзе панаваць асноватворны гуманістычны прынцып: дзяржава для чалавека, а не чалавек для дзяржавы;

— падтрымліваюць ідэі прыярытэтаў нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў, паслядоўнай, разумнай і няўхільнай палітыкі беларусізацыі;

— разумеюць працэс культурнага абнаўлення Айчыны як гарманічнае развіццё культур усіх народаў Беларусі ў кантэксце дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, у рэчышчы славянскай, а таксама еўрапейскай і сусветнай культур.

**Па-другое**

Сёння дзеячы тэатральнага мастацтва стаяць перад аб'ектыўнай неабходнасцю знайсці сваё дакладнае месца, вызначыць і ўсвядоміць уласную ролю:

— у сучасным духоўным жыцці грамадства, у справе ўмацавання неперaходзячых маральных каштоўнасцей, сцвярджэнні гуманістычных ідэй прыярытэтаў правоў чалавека;

— у суверэнізацыі Беларусі, будаўніцтве унітарнай дэмакратычнай, нейтральнай дзяржавы;

— у беларусізацыі грамадства, нацыянальна-культурным адраджэнні, развіцці нацыянальнай свядомасці, патрыятызму, умацаванні дружбы і еднасці народа Беларусі.

**Па-трэцяе**

Наспелымі задачамі ў сённяшнім тэатральным жыцці з'яўляюцца:

— стварэнне атмасферы і ўмоў для свабоднага творчага спаборніцтва розных мастацкіх ідэй, стыляў, напрамкаў;

— творчае, наватарскае ўзбагачэнне лепшых традыцый беларускага сцэнічнага мастацтва, у аснове якіх заўсёды было свядомае служэнне свайму народу;

— адказнае, прафесійнае, патрыятычна-грамадзянскае разуменне свабоды творчасці;

— рашучае пераадоленне рэцыдываў канфармізму, кан'юнктуры, штучнай палітызацыі і іншых маральных кампрамісаў, якія не дазваляюць мастаку быць да канца сумленным і адказным перад гледачом;

— паслядоўнае сцвярджэнне ў сцэнічных творах адвечных агульначалавечых каштоўнасцей, ідэй дэмакратызацыі і гуманізму.

**Па-чацвёртае**

Удзельнікі канферэнцыі звяртаюцца да Міністэрства культуры і СТД Беларусі з ідэяй падрыхтаваць і паслядоўна ажыццявіць глыбокія тэатральныя рэформы з улікам сучасных рэалій жыцця, нацыянальных традыцый, уласнага вопыту і вопыту іншых сцэнічных культур свету. Галоўная мэта рэформы — даць новы магутны імпульс для развіцця тэатральнага мастацтва. Адна з надзённых задач рэформы — стварэнне ўмоў для існавання разнастайных мадэляў тэатраў /дзяржаўных, муніцыпальных, грамадскіх, прыватных, антрэпрэнёрскіх, акцыянерных і інш./. У выніку рэформы таленавітым мастакам павінна гарантавацца неабходная дзяржаўная падтрымка для плённай творчай дзейнасці, пошукаў і эксперыментаў.

Першымі крокамі ў падрыхтоўцы тэатральнай рэформы могуць быць:

— распрацоўка навукова абгрунтаванай канцэпцыі развіцця беларускага тэатра ў пераходны перыяд;

— падрыхтоўка праекта Закона аб тэатральным мастацтве;

— атэстацыя ўсіх дзяржаўных тэатраў, наданне ім на пэўны час /4—5 гадоў/ адпаведнай катэгорыі /акадэмічны, рэспубліканскі, абласны, муніцыпальны і г. д./;

— атэстацыя тэатральных кіраўнікоў /дырэктары, галоўныя рэжысёры і мастацкія кіраўнікі, галоўныя мастакі і іншыя галоўныя спецыялісты/;

— выпрацоўка новых прынцыпаў дзяржаўных датацый;

— паступовы перавод усіх труп дзяржаўных тэатраў на кантрактную аснову.

**Па-пятае**

Удзельнікі канферэнцыі лічаць неабходным і карысным для творчага працэсу рэгулярнае правядзенне ўсебеларускіх тэатральных канферэнцый /адзін раз у 2—3 гады/. У перыяд паміж такімі канферэнцыямі мэтазгодна арганізоўваць спецыяльныя семінары, лабараторыі, сімпозіумы па асобных надзённых праблемах тэатральнага мастацтва. У прыватнасці, патрабуюць спецыяльнага дэталёвага абмеркавання наступныя праблемы творчага жыцця:
— стан і перспектывы беларускай рэжысуры;
— шляхі развіцця нацыянальнай драматургіі;
— тэатральная эканоміка;
— роля і месца СТД у сучасным тэатральным працэсе;
— беларускі дзіцячы тэатр: шляхі развіцця;
— міжнародныя тэатральныя сувязі;
— беларуская акцёрская школа;
— студыйны рух.

**Па-шостае**

Удзельнікі канферэнцыі просяць Міністэрства культуры разгледзець і вырашыць надзённае пытанне аб стварэнні ў сістэме МК РБ асобнай структуры з мэтай паляпшэння работы з аўтарамі, арганізацыі інфармацыйна-рэпертуарнага цэнтра, забеспячэння закупу і выдання навінак сучаснай айчыннай і замежнай драматургіі для тэатраў.

**Па-сёмае**

Удзельнікі канферэнцыі звяртаюцца да Міністэрства культуры і СТД Беларусі з прапановай арганізаваць і правесці другую Усебеларускую тэатральную канферэнцыю ў 1995 г.

Удзельнікі першай Усебеларускай тэатральнай канферэнцыі выказваюць падзяку Міністэрству культуры і СТД Беларусі за арганізацыю і правядзенне гэтай прадстаўнічай сустрэчы дзеячаў сцэнічнага мастацтва. Яна дазволіла яе ўдзельнікам дэмакратычна, зацікаўлена, шчыра, сумленна і адказна абмеркаваць шырокае кола разнастайных праблем творчага жыцця, вызначыць найбольш важныя, прыярытэтныя і перспектыўныя накірункі далейшага развіцця тэатральнай справы ў Беларусі.

*Прынята 16 лістапада 1993 г.*

Музыка

# КАБ ЖЫЎ «ФЕСТЫВАЛЬ»...

***Уладзімір БУБЕН, чыё інтэрв'ю мы прапануем увазе чытачоў, працуе выкладчыкам акардэона ў Лідскім музычным вучылішчы. Два гады таму разам са сваімі вучнямі ён падрыхтаваў канцэртную праграму з арыгінальных твораў. Паказалі яе на III Міжнародным фестывалі акардэоннай музыкі ў Вільні, куды былі запрошаныя вядомым літоўскім акардэаністам Рычардам Свяцкевічусам. З таго выступлення й пачалося канцэртнае жыццё ансамбля, якому далі назву «Фестываль»...***

**— Уладзімір Паўлавіч, а што было пасля Вільні?**

— Нас запрасіў з канцэртамі прэзідэнт асацыяцыі акардэаністаў Польшчы Я. Пухноўскі на рэгіянальны конкурс акардэаністаў — у якасці гасцей. Запамінальным было і выступленне на Міжнародным фестывалі акардэоннай музыкі ў Даўгаўпілсе. Але найбольш адказны для нас быў канцэрт у «жывым» эфіры на Беластоцкім радыё. «Лайф-канцэрт», як там яго называюць, арганізуецца рэдакцыяй музычных праграм у выхадны дзень з 17 да 19 гадзін і збірае такім чынам вельмі многа слухачоў. На працягу гэтага часу мы гралі і атрымалі добрыя водгукі на выступленне.

**— Цяпер вы часта выязджаеце з канцэртамі за мяжу, вось і не так даўно былі ў Германіі. А ці ладзіцца канцэртнае жыццё «Фестывалю» на Беларусі?**

— Мы мелі канцэрты ў Лідскім музычным вучылішчы, многа было канцэртаў для жыхароў горада і раёна. Зрабілі запісы на Беларускім радыё. Выступалі па абласным радыё, тэлебачанні. Шэраг канцэртаў сыгралі ў фонд таварыства «Дзеці ў бядзе».

**— Раскажыце, калі ласка, пра гэта больш падрабязна.**

— Таварыства «Дзеці ў бядзе» аб'ядноўвае бацькоў, дзеці якіх пакутуюць ад анкалагічных захворванняў у выніку аварыі на ЧАЭС. І хоць невялікія заробкі ад канцэртаў мы ім змаглі пералічыць, але ж мелі магчымасць расказваць сваім слухачам пра тое гора, якое прыйшло ў сем'і, дзе цяжка захварэлі дзеці і дзе ёсць патрэба ў дапамозе... У лютым я быў у Германіі з рэкламай ансамбля, давялося сустрэцца з бургамістрам горада Порта-Весталіка і з людзьмі, якія шчыра жадаюць дапамагчы нам. Яны тады ж перадалі лекі для дзяцей і выказалі жаданне прыняць групу малалеткаў з Беларусі на аздараўленне...

**— А хто падтрымлівае існаванне самога ансамбля, хто дапамагае вам ладзіць канцэрты, вандраваць?**

— Дырэктар Лідскага музычнага вучылішча Мар'ян Баяровіч дапамог з набыццём апаратуры для нашага ансамбля, гарадскія ўлады далі на першы час пакой для рэпетыцый у будынку гарвыканкома. Але каб «Фестываль» жыў, патрэбныя сродкі, якіх, зразумела, па нашым часе робіцца ўсё менш. Большасць канцэртаў даводзіцца арганізоўваць самім.

**— Ці не шукаеце спонсараў?**

— Не так даўно ў нас з'явіўся спонсар, якому мы вельмі ўдзячныя. Гэта фірма «Запад — Бест». Яе прэзідэнт спадар Давыдоўскі неаднаразова аказваў нам дапамогу. Спадзяёмся на працяг нашага супрацоўніцтва.

**Гутарыў Віталь РАДЗІЁНАЎ**

# АПОШНЯЯ РОЛЯ

## ДА 85-ГОДДЗЯ НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ БЕЛАРУСІ ГАННЫ АБУХОВІЧ

З Ганнай Браніславаўнай мы пазнаёміліся больш за дзесяць гадоў назад пры не зусім звычайных абставінах. Вясной 1983 года мне, маладой журналістцы і тэатральнаму крытыку, які на той час працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», пазванілі з выдавецтва «Беларусь» і абаяльным голасам Алены Іванаўны Законнікавай прапанавалі пачытаць рукапіс успамінаў народнай артысткі Ганны Абуховіч. Пачытаць, каб потым, магчыма, зрабіцца аўтарам літаратурнага запісу.

Тэатральным людзям не трэба тлумачыць, хто такая Ганна Абуховіч. Для нетэатральных скажу: на працягу многіх гадоў вядучая артыстка Дзяржаўнага рускага тэатра Беларусі, адна з яго заснавальніц, паплечніца вядомых рэжысёраў У. Кумельскага і Д. Арлова, С. Уладычанскага і В. Фёдарава, В. Рэдліх і Ю. Міроненкі, годная партнёрка бліскучых, непараўнальных артыстаў А. Кістава, Я. Карнавухава, Р. Качаткова і многіх іншых.

Перадгісторыя тэлефоннага званка была такая. Ганна Браніславаўна напісала кнігу ўспамінаў. Пра сваё жыццё, свае ролі, пра рэжысёраў і калег-артыстаў, наогул пра Рускі тэатр. Спачатку напісала сама — ад пачатку да канца. Ёй тады было ўжо больш за семдзесят. Уявіце сабе, якім грамадскім тэмпераментам і сілай духу трэба было валодаць, каб у такім узросце загарэцца ідэяй і напісаць /а потым і ўласнымі рукамі аддрукаваць/ успаміны на трыста старонак машынапісу!

Мемуары задумваліся Ганнай Браніславаўнай як — ні больш ні менш! — гісторыя Рускага тэатра, якой на той час не было, дый зараз няма /асобныя раздзелы ў «Гісторыі беларускага тэатра» пры ўсёй павазе да іх — гэта ўсё ж раздзелы/. Задумваліся як гісторыя, вядома, у нечым суб'ектыўная, так бы мовіць, лірызаваная, пададзеная праз успрыманне актрысы. Многія гады Г. Абуховіч збірала рэцэнзіі крытыкаў на спектаклі Рускага тэатра /сярод іх былі пажоўклыя, яшчэ даваенныя рэліквіі, якія не знойдзеш і ў Нацыянальнай бібліятэцы/, здымкі з пастановак розных гадоў, фатаграфіі свае і калег у лепшых ролях. Ну, а ўжо наконт запаветнага сшытачка, звычайнага, вучнёўскага, дзе былі пазначаны назвы ўсіх /!/ спектакляў Рускага тэатра ад першых яго сезонаў да апошніх; а яшчэ там і прозвішча рэжысёра, мастака, выканаўцаў галоўных роляў, дакладная дата прэм'еры, — дык у тэатральным асяроддзі пра гэты сшытачак легенды хадзілі... Так паступова, спакваля падышла актрыса да сваёй апошняй ролі — своеасаблівага летапісца тэатра.

Маё глыбокае перакананне — такія кнігі звычайна нараджаюцца і з тае прычыны, што пра пэўнага творцу крытыкай напісана да крыўднага мала. Вы пра мяне не напісалі? Ну, дык што ж — я не крыўдую... Я сама пра сябе напішу! Тым больш, ужо каму-каму, а Ганне Браніславаўне было што ўспамінаць... Звыш за сто вядучых роляў, сыграных на сцэне Дзяржаўнага рускага тэатра Беларусі, паўстагоддзя на тэатральных падмостках... Жыццёвы шлях дзяўчынкі, якая не памятала сваіх бацькоў і выхоўвалася ў Маскоўскім прытулку для бязбацькавічаў, дзяўчынкі, якая самаадданай, штодзённай працай здолела з сацыяльных нізоў грамадства ўзняцца да становішча народнай артысткі рэспублікі варты таго, каб зрабіцца асновай літаратурнага твора.

Рукапіс Г. Абуховіч выдавецтва «Беларусь» адхіліла, параіўшы аўтару знайсці крытыка або журналіста, які б дапамог актрысе, аўтару непрафесійнаму. Згаджацца на прапанову выдавецтва і самой артыстцы было крыху страшна. Гэта рызыка: а раптам нічога не атрымаецца? Я ведала, што тэатралы-магіляўчане /да вайны і першыя пасляваенныя сезоны трупа Рускага тэатра, як вядома, працавала ў Магілёве/ расказвалі пазней, што Ганна Абуховіч была кумірам іх маладосці. Шмат разоў хадзілі яны глядзець артыстку ў ролях Ганны Карэнінай, Ларысы Агудалавай, Любові Яравой, Дыяны, Віолы і Себасцяна. Я цудоўна ўсведамляла, што з прычыны сваёй маладосці не магла пабачыць лепшыя ролі актрысы, сыграныя ёю ў канцы 40 — на пачатку 50-х гадоў, тыя, што назаўсёды засталіся ў гісторыі тэатральнага мастацтва як нацыянальная класіка. Надзея Манахава ў «Варварах» і Васа Жалязнова ў аднайменнай драме М. Горкага, Ганерылья ў «Каралі Ліры» У. Шэкспіра і гаспадыня Ніскавуёры ў «Каменным гняздзе» Х. Вуаліёкі — вобразы, пазначаныя, паводле шматлікіх сведчанняў крытыкі, драматызмам і сапраўднай трыгедыйнасцю. Я не бачыла іх, але ад гэтых роляў заставалася водгулле славы. Усё, што даводзілася чуць пра яе ў школьныя або студэнцкія гады, суправаджалася захопленымі клічнікамі: «О, Абуховіч!» або: «Ах, Абуховіч!» Так вакол яе імя і яе роляў узнікаў арэол, вэлюм легенды. Прыгажосць, талент актрысы з яркай знешнасцю і сцэнічным тэмпераментам, выразны голас, высокая выканаўчая культура — усе гэтыя якасці, спалучыўшыся, рабілі сцэнічныя партрэты Ганны Абуховіч яскравымі і непаўторнымі.

На маю глядацкую долю засталіся ўспаміны яе калег, урыўкі з ранейшых пастановак, запісаныя тэлебачаннем, і спектаклі апошніх гадоў, — «Узыходжанне на Фудзіяму» паводле Ч. Айтматава, дзе яна іграла старую настаўніцу Ашу-Апу, «Апошнія» М. Горкага /нянька Фядосся/, «Птушкі нашай маладосці» І. Друцэ /цётухна Руца/ — пра гэты спектакль і гэтую ролю Абуховіч шмат пісала крытыка; «Макбет» У. Шэкспіра /першая старая/, «Дом Бернарды Альбы» Г. Лоркі /Бернарда Альба/, «Рэтра» А. Галіна /Дзіяна Уладзіміраўна/ і, нарэшце, апошняя буйная работа актрысы — «Апошні тэрмін» паводле В. Распуціна /старая Ганна/. Па гэтых фрагментах трэба было потым, як рэстаўратару, аднавіць агульную карціну...

Дзяўчынай яна слухала на літаратурных вечарах Маякоўскага. Маладой актрысай працавала ў тады яшчэ нямым кінематографе разам з Марыяй Бабанавай і Аляксандрам Даўжэнкам. Вучылася ў знакамітых акцёраў і рэжысёраў Мікалая Хмялёва, Мікалая Баталава, Іллі Судакова, Мікалая Ахлопкава. Бачыла першае пакаленне мхатаўцаў у іх лепшых спектаклях — В. Кніпер-Чэхаву і В. Качалава, І. Масквіна і Л. Леанідава. Памятала рэжысёрскія эксперыменты Я. Вахтангава, А. Таірава, У. Меерхольда. Паспела запомніць на сцэнічных падмостках М. Штраўха, М. Астангава, Ю. Завадскага, Ц. Мансураву, А. Тарасаву, А. Каонен, З. Райх...

Як можна было адмовіцца ад такога шанца, ад такога падарунка Лёсу! Гэта было фантастычна і амаль нерэальна — перада мной сядзела жывая тэатральная Гісторыя і апавядала добра пастаўленым голасам Ганны Абуховіч. Яна ўяўляла сабой кавалак, згустак пэўнай тэатральнай эпохі, самабытнай і непаўторнай, якая, на жаль, непапраўна знікала...

Але я забегла крыху наперад, згадваючы чароўныя вечары сумеснай работы і яе ўспамінаў. Першае ж знаёмства з рукапісам — важкай папкай аранжавага колеру, першае чытанне пакінула супярэчлівае ўражанне. Побач з эпізодамі яркімі, пададзенымі пamastацку выразна /асабліва гэта датычыла дзяцінства, маскоўскага перыяду жыцця, магілёўскіх і гродзенскіх сезонаў/, было і шмат малазначнага, дробнага, калі сутнасць патанала ў мностве непатрэбных дэталяў. Потым, калі мы выкраслілі тое, што ніяк не магло быць надрукавана, бо не мела ніякага грамадскага інтарэсу, ад рукапісу засталося каля паловы. Інтуіцыя і вопыт знаёмства з мемуарамі іншых буйных дзеячаў сцэны падказалі нам, як падаецца цяпер, адзіна правільнае выйсце. Ва ўспамінах павінен быў паўставаць рэальны, сапраўдны **маштаб асобы** аўтара. У напісаным трэба было ўзбуйніць значнасць сыгранага актрысай, расказаць пра яе найбольш цікавыя і значныя ролі, згадаць, як ішоў працэс стварэння пастановак, якія лічацца сёння класікай Рускай сцэны. Мы вырашылі, што назвы найбольш значных, этапных спектакляў трупы стануць назвамі раздзелаў кнігі, гэтаксама, як і імёны яе гераінь. Пазначылі, пра якія ролі будзе расказана дэталёва, пра якія больш эскізна, і ў адпачынак я паехала са стосам п'ес рускіх, беларускіх і замежных драматургаў, у якіх іграла мая гераіня.



*«Дзядзька Ваня» А.Чэхава. Алена Андрэеўна*



*«Кароль Лір» У.Шэкспіра. Рэгана — А.Шах-Парон, Ганерылья — Г.Абуховіч*

Жанр тэатральных мемуараў існуе даўно. Але калі ў рускай мемуарыстыцы ён досыць багаты і распрацаваны — тут можна згадаць успаміны Марыі Савінай, напісаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі, а таксама Лізаветы Ціме, Алісы Каонен, Соф'і Гіяцынтавай, Ігара Ільінскага, Мікалая Плотнікава, Барыса Ценіна, Алены Гогалевай, Міхаіла Ульянава, Тамары Цулукідзе /большасць іх выдадзена ў апошнія гады/, дык беларуская тэатральная мемуарыстыка непараўнальна больш бедная на такія кнігі. «Знаёмыя сілуэты» Я. Рамановіча, «Нататкі акцёра» Цімоха Сяргейчыка, «Тэатр — жыццё маё» Паўла Малчанава, «Тэатр і час» Уладзіміра Стэльмаха — вось, відаць, і ўсё, на той час.

Славуты рускі акцёр Міхаіл Шчэпкін у свой час вельмі слушна заўважыў: «Артыст калі памёр, дык знік». І таму адной з мэт нашай працы было ўзнавіць аблічча даваенных і першых пасляваенных спектакляў Рускага тэатра, пра якія напісана вельмі і вельмі мала. І таму зафіксаваныя, занатаваныя ўражанні пра тое, як У. Кумельскі або С. Уладычанскі ўспрымалі пэўны драматургічны матэрыял, як рэжысёрская задума Д. Арлова або В. Фёдарава ўвасаблялася ў канкрэтных акцёрскіх работах, як сама Г. Абуховіч або яе калегі Р. Янкоўскі, Ю. Сідараў, І. Лакштанава, Б. Масумян, Ю. Ступакоў, А. Шах-Парон, Л. Былінская, А. Клімава ўспрымалі і трактавалі кожную канкрэтную сцэну з удзелам сваіх герояў, — усё гэта падавалася цікавым і важным. І як бясцэнная рэліквія, каштоўнейшы набытак тэатральнай гісторыі, і як сведчанне высокага майстэрства беларускіх артыстаў, і як крыніца прафесійнага вопыту, які калі-небудзь абавязкова спатрэбіцца маладым, апантаным творчасцю акцёрам...



*«Птушкі нашай маладосці» І.Друцэ. Цётухна Руца*

Працавалі мы амаль год — вечарамі, у выхадныя і святочныя дні. Я лічыла, што калі рабіць, дык капітальна, грунтоўна, каб потым не перапісваць яшчэ раз. Ганна Браніславаўна прыспешвала, ёй здавалася, што справа рухаецца вельмі марудна, яна баялася не паспець, не ўбачыць кнігі... Былі ў нас і спрэчкі, і непаразуменні, і ўзаемныя горкія крыўды, і часам захопленасць агульнай працай і шчырая прыязнасць змяняліся пачуццямі ледзь не супрацьлеглымі. Але ўсё гэта натуральна ў сумеснай творчай працы!

Скажу шчыра: характар Ганны Браніславаўны быў не з лёгкіх. Але, напэўна, гэта ўласцівасць кожнага буйнога майстра, акцёра, які свае лепшыя пачуцці, хваляванне, трапятлівую радасць быцця, запаветны роздум аддае гледачам. Сярод артыстаў, якія здолелі сцвердзіць сябе ў мастацтве і сказаць у ім сваё, важкае слова, мала знойдзеш гэткіх рахманых, памяркоўных анёлкаў, з якімі побач знаходзіцца лёгка і прыемна. У тэатральных людзей эмацыянальная чуйнасць і ранімасць часам так лёгка спалучаюцца з абсалютным, поўным эгацэнтрызмам... Але ж Ганна Браніславаўна патрабавала з іншых так, як з сябе...

Вясной або летам 1984 года перапрацаваны рукапіс кнігі «Паўстагоддзя на сцэне» мы здалі ў выдавецтва. Ішоў ён цяжка, доўга і пакутліва. Праўду кажуць, што напісаць — гэта толькі палова справы. На тое, каб надрукаваць, трэба часам прыкласці непараўнальна больш намаганняў. Выдавецкія справы патрабуюць маладога здароўя, моцнага цярпення і сталёвых нерваў. Амаль год кніга праляжала без усялякага руху, і толькі калі яе перадалі ў іншую рэдакцыю, справа скранулася з месца. Наша выдавецкая сістэма была груваст-кая і недасканалая. Напісанае чытала шмат людзей — рэцэнзент, рэдактар, загадчык рэдакцыі, дырэктар, яго намеснік, адпаведныя органы /г. зн. цэнзура/, потым ізноў рэдактар. Пасля кожнай чыткі рукапіс табе вяртаюць, і, адпаведна, кожны раз яго даводзіцца габляваць, пераправяраць, удакладняць, перапісваць... Праўкі і скарачэнні здаваліся Ганне Браніславаўне бясконцымі, кожнае скарачэнне яна перажывала балюча. А аднойчы ўзгадненне правак наогул скончылася для актрысы сардэчным прыступам і выклікам «Хуткай дапамогі». І ўсё ж, нягледзячы на гэтае «блуканне па пакутах», трэба сказаць дзякуй усім, хто дапамог рукапісу ўбачыць свет, — рэцэнзенту, доктару мастацтвазнаўства, прафесару А. Сабалеўскаму, аўтару прадмовы, народнаму артысту Беларусі Ю. Сідараву, рэдактару В. Ткачук, загадчыку рэдакцыі, цяпер ужо нябожчыку Г. Галубовічу, мастаку І. Бокію, невядомым мне супрацоўніцам архіва кінафотадакументаў, якія дапамагалі Ганне Браніславаўне шукаць фотаздымкі... Летам 1986 года, калі Г. Абуховіч ужо памерла, з друкарні прыйшла карэктура. У 1987 годзе кніга, нарэшце, выйшла...

Пазней разам са словамі ўдзячнасці ад калег-журналістаў даводзілася чуць з'едлівыя заўвагі кшталту: «А, тэатразнаўчыя ўспаміны!», а з другіх вуснаў — больш тактоўныя папрокі ў празмернай сціпласці актрысы, залішняй стрыманасці ўзнаўлення падзей, у тым, што пэўныя перыпетыі асабістага жыцця гераіні ніяк не адлюстраваліся на старонках кнігі. Што датычыць сціпласці, дык, напэўна, гэта інтанацыя мемуараў нарадзілася як рэакцыя на танальнасць у нечым супрацьлеглую, якая, скажу шчыра, прысутнічала ў першым варыянце рукапісу. Празмернае, знарочыстае перабольшванне ўласнай ролі, часам уласцівае вядучым акцёрам, відавочны суб'ектывізм апавядання выклікаюць іранічную ўсмешку і ставяць пад сумненне ўсё астатняе, нават бясспрэчнае. А наконт асабістага жыцця... Ганна Браніславаўна на той час цяжка хварэла, катастрафічна пагаршаўся зрок /яна і мне часам казала, калі я стаяла за два крокі ад яе: «Я вас бачу нібыта праз туман»/. Яна з цяжкасцю арыентавалася ва ўласнай кватэры. На спектаклі ў тэатр — Абуховіч яшчэ іграла «Апошні тэрмін» паводле В. Распуціна і «Рэтра» А. Галіна — яе павінен быў нехта суправаджаць... Чалавеку, які прадчувае канец уласнага жыцця, адчувае мяжу, якая назаўсёды аддзеліць яго ад гэтага свету, не заўсёды бывае ўласцівы гэтакі малады, гулліва-гарэзны настрой. Я цудоўна разумею, што свет тэатра і пурытанскае ўспрыманне рэчаіснасці — рэчы часам маласумяшчальныя, але пра абставіны ці падрабязнасці свайго асабістага жыцця актрыса гаворкі ніколі не вяла і размоў на гэтую тэму не падтрымлівала. А я не лічыла патрэбным задаваць нетактоўныя пытанні... Ганна Абуховіч хацела застацца ва ўяўленні гледачоў і чытачоў менавіта такой, якой паўстае на старонках кнігі. І гэта яе права... Але пры ўсіх выдатках нашай сумеснай працы, пры ўсім тым, што зараз гэта было б зроблена інакш, я адчуваю ўдзячнасць лёсу, які дазволіў на працягу некалькіх гадоў так блізка бачыць, так добра ведаць Актрысу-легенду...

У 1988 годзе часопіс «Нёман» надрукаваў рэцэнзію тэатральнага крытыка Б. Бур'яна на кнігу Ганны Абуховіч «Паўстагоддзя на сцэне» /дарэчы, гэта была адзіная рэцэнзія, якая з'явілася ў рэспубліканскім друку/. Былі ў ёй і такія радкі: «...дакладнасці гэтых старонак можна давяраць, напэўна, больш, чым пэўным версіям некаторых тэатразнаўцаў». На маю думку, гэта самая высокая ацэнка, якая можа быць выказана ў дачыненні да кнігі тэатральных мемуараў.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

# «ПАЭЗІЯ — ТО ЗМАГАННЕ СЭРЦА...»

## 12 СНЕЖНЯ КАСТУСЮ КІРЭЕНКУ СПОЎНІЛАСЯ Б 75...

Яшчэ нядаўна нашы афіцыйныя структуры, амаль усе літаратуразнаўцы сцвярджалі: савецкі перыяд — самы плённы і роcквітны ў беларускай літаратуры. Праўда, год-два таму асобныя «дзеці перабудовы» спрабавалі з наскоку абвергнуць і закрэсліць гэтае сцвярджэнне і самаўпэўнена вылучыць сябе стваральнікамі якасна новага.

Цяпер мы лепш уяўляем, што створана на наш дзень, у тым ліку і ў Заходняй Беларусі ды пасля вайны за мяжой. Адпаведна, нашмат ясней вымалявалася аблічча таго сапраўднага, што было створана энергіяй беларускага духу.

Нізкі паклон усім, хто ва ўсе часы і абставіны быў, ёсць рыцар роднага слова; міне нейкі час — прыйдуць новыя альбо абудзяцца вопытныя ўжо даследчыкі, цвяроза ўсё пераасэнсуюць, аддадуць належнае найперш таленавітым творам. Але адной рэчы проста нельга не бачыць і цяпер: які спрэчны і цяжкі ні быў савецкі перыяд, колькі чаго не створана альбо зроблена не зусім так, ды ўсё ж найбольш яркае напісана тут. Можа, і таму, што лепшыя нашы майстры, як той Антэй, маглі лепей адчуваць моц і сокі роднай зямлі, радасць, боль і клопаты роднага люду.

Сярод тых нашых твораў, што складаюць набытак беларускай літаратуры, і многія творы Кастуся Кірэенкі. Дзесяткі ягоных вершаў, апавяданні, аповесць «Вандроўнае шчасце», безумоўна, здалі і яшчэ здадуць строгі экзамен на выпрабаванне грамадзянскай ды мастацкай вартасці. Не бачыць гэтага, захапіцца крытыкай ці, лепш сказаць, знявагай усіх і ўсяго, — недаравальная рэч.

Кастусю Кірэенку сёлета было б 75 гадоў. Каб ён жыў, дык, безумоўна, здолеў бы ў новых умовах падаць сур'ёзны і важкі пісьменніцкі голас — на яго пісьмовым стале засталося нямала неапублікаваных паэтычных і празаічных твораў, накідаў, што сведчаць пра чалавечую і творчую няўрымслівасць аўтара.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**



Кастусь КІРЭЕНКА

### НАВОШТА

**Навошта на некага звальваць віну?**
**Навошта сабе набіваць цану?**
**Навошта шукаць цяпло і святло**
**Там, дзе ніколі іх не было?**
**Навошта біць у грудзі сябе —**
**Быццам адзін ты ў святой барацьбе?**
**Навошта ўпарта паказваць людзям**
**Тое, чаго**
**не бачыш і сам?!**

●

**На два сантыметры ўкараціўся рост,**
**І сэрца на цэлую чвэрць робіць**
**менш удараў.**
**На адну трэць перакачваецца**
**менш крыві,**
**І зроку, і слыху мацуецца**
**толькі на паўсілы.**
**І вось чаму, мабыць,**
**не ўзрушвае тое,**
**што ўзрушвала ў дваццаць гадоў,**
**Чаму здаецца,**
**што тады было ўсё святлейшым,**
**Што ў свеце чулася больш музыкі.**
**І больш кветак цвіло на зямлі...**
**І вось чаму, мусіць, хочацца,**
**Каб былі побач**
**Кацюшы і Дашы, Дзімы і Косцікі,**
**Настулі і іхнія дружбакі і сяброўкі, —**
**Іхнімі вачамі і іхнімі сэрцамі**
**Углядацца і ўслухоўвацца**
**ў хараство жыцця...**

### РОДНАЙ ЗЯМЛІ

**Чаго ні бачыла ты, наша**
**Зямля-зямелька.**
**Якой навалы над табою**
**Ні прашугала.**
**Якімі страшнымі цапамі**
**Цябе ні білі.**
**Якой трухой твае загоны**
**Ні засявалі...**

**А ты ідзеш жывой і чыстай**
**У век, у векі.**
**А ты красой нязгаснай ззяеш,**
**Пляцеш вяночкі.**

**А над табой, вясновай, сонца —**
**Ўсё вышай, вышай.**
**І шчасцем свеціцца**
**ў праменнях**
**Твой лік чароўны.**

**І верыш ты,**
**што ў цэлым свеце**
**Няма, не будзе**
**Нідзе, нідзе**
**святлейшых сэрцам,**
**Чым твае дзеці.**

●

**Паэзія — то змаганне сэрца,**
**І бясконцая праца душы...**
**І таму, хто баіцца памерці**
**Ад натхнення, —**
**Кажа лёс: не пішы!..**

●

**Мы бачым фактары,**
**Мы бачым масы,**
**Мы робім высновы**
**З найлепшых высноў.**
**А пра тое, што душы**
**І ў наймужнага класа**
**Чакаюць спагады —**
**Забыліся зноў.**

**А душы крычаць**
**Ад самоты пакутнай**
**Ім**
**на зямлі.**
**А мы**
**ўсё пра фактары —**
**Усясветна, ўсёчутна...**
**А мы ўсё пра веліч...**
**А пра душы —**
**калі?!**

### НЯЎЖО ГЭТА Я?..

**Няўжо гэта я на сваіх грудзях**
**Прыгрэў такую змяю?**
**Кубак смяртэльны трымаў у руках,**
**А не ведаў — што з яго п'ю.**

**Няўжо гэта я такі быў сляпы, —**
**Не бачыў —**
**як упаўзла**
**Тая змяя ў алтар мой святы,**
**Поўная чорнага зла?**

**Няўжо гэта я такі быў глухі,**
**Далёкі да адкрыцця...**
**Чуў**
**змяіны сыкат ліхі,**
**А думаў — цвяліцца дзіця...**

### РЭХА

**Калі табе цяжка — ідзі да людзей,**
**слухай сэрца парады.**
**Не паддавайся жалобе настрою свайго.**
**Ідзі, раскажы ўсё людзям,**
**папрасі ў іх спагады...**
**— Для чаго?.. У каго?**
**— Для чаго?.. У суседа свайго...**

**Калі табе сумна — не будзь**
**у бясконцым палоне трывогі,**
**Спяшай, не чакай, як бязмоўны, пакуль**
**Туга цябе з'есць.**
**А прасі і чакай дапамогі...**
**— Адкуль?**
**— Адкуль?**

**Шукай не адзін, станься чуйным**
**у дружным суполлі,**
**Заўсёды будзь іншым, але, —**
**як і сёння, такім...**
**Шукай разам з іншымі творчае долі...**
**— А з кім?..**
**— А з кім?..**

**Пытаюся ў рэха: «Нашто ты,**
**нашто ты...»**
**А сам, як збавення-ратунку, прашу:**
**— Ляці, маё рэха, акрыленым лётам,**
**Хоць ты не кідай маю плачку-душу.**

**А сам, быццам можна самоту адрынуць,**
**Прашу і прашу: — Не спыняйцеся, не!**
**Ляціце хоць вы, дарагія ўспаміны,**
**Ніколі нідзе**
**не кідайце мяне!..**

●

**Радасць і смутак. Пяшчота і боль.**
**Сэрца багацце.**
**Лёс мой, патрошку яго дазволь**
**Людзям перадаць мне.**

**Не, не баюся застацца ні з чым.**
**Веру ў жыццё я.**
**Веру, што поплеч з грэшным усім —**
**Ёсць і святое.**

**Ведаю — сэрца напоўніцца зноў**
**Чыстым і светлым**
**Скарбам жыццёвых мудрых шляхоў —**
**З добрасцю свету.**

**З добрасцю тою, песня мая,**
**Зноў найбагатшым адчуюся я,**
**Буду свой скарб у душы даглядаць —**
**Зноўку людзям каб яго перадаць.**

●

**Нат і пад вываратнем у пушчы**
**Можна адчуць за спіною прастор**
**Светлай зямлі і дарог незвычайных, —**
**Толькі патрэбна іх бачыць душой.**

**Нат і ў паглядзе зусім мімалётным**
**Можа быць сонечны табе прысуд,**
**Самае радаснае блаславенне, —**
**Толькі каб — моцна**
**кагось любіў...**

●

**Што мы помнім, што мы помнім, —**
**Помнім тое, што йшчэ будзе.**
**А што сёння, а што сёння —**
**Сёння ж, мусіць, і забудзем.**

**А чым спрэс хутчэй забудзем —**
**Тым жыццё хутчэй узновім!**
**Ўрэшце —**
**самі сабе суддзі...**
**Ўрэшце —**
**творцы прагі новай...**

**Што было — хай ціха, звыкла**
**Знікне, — што тут азірацца!..**
**А таму,**
**што жыць узнікла, —**
**Прагна з будучым пазнацца!..**

*Публікацыя Л. П. КІРЭЕНКІ*

# «ДАВЯДЗЕМ ПАРТЫІ І САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ НАШУ ШЧЫРУЮ АДДАНАСЦЬ...»

*(Пачатак на стар. 5)*

ка, і трэцяя наша памылка, што гэта ўсё мы рабілі за спіною Аргкамітэта».

У цэлым кіраўнікі нарады хутка павярнулі яе ход у бок традыцыйнага для таго часу вышуквання ў творах пісьменнікаў нацыяналістычных праяў, якія, як гаварылі прамоўцы, узмацніліся ў сувязі са святкаваннем 50-гадовага юбілею Я.Купалы /прамовы на святочным вечары, публікацыі ў друку, віншаванні/. У адзін рад з такімі «праявамі» паставілі і «Ліст 15-ці». Тон задаў Л.Бэндэ. «Актывізацыю нацыяналістычных тэндэнцый» ён убачыў у «імкненні перагледзець тую лінію партыі, якую партыя праводзіла ў адносінах да нацыяналістычных элементаў, у імкненні аганьбіць тую барацьбу, якую партыя правяла па развенчванню нацыянал-дэмакратызма». А.Александровіч гаварыў «аб настроях, якія ў нас пануюць. У нас пануюць нацыяналістычныя настроі сярод значнай групы людзей».

Кропкі над «і» расставіў Жабcроўскі: «Чудовищно нелепо, когда говорят о «новом нэпе» в художественной политике партии. Только наши враги могут так говорить и таким разговорам надо давать беспощадный отпор». І адносна пісьменніцкай заявы: «Я не хотел бы квалифицировать «Письмо 15-ти» писателей, как классово-враждебный нам выпад, но то, что определенные элементы хотели использовать это в своих классово-враждебных нам интересах — это вне всякого сомнения».

Пасля нарады рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» і член Аргкамітэта Х.М.Дунец накіраваў у ЦК Дакладную запіску, першы раздзел якой назваў «Вопросы, связанные с «Письмом 15-ти» в ЦК КП/б/Б». «Хотя писателям, подавшим заявление, — гаварылася ў ёй, — было указано на наличие в этом деле отрицательной политической подоплеки, хотя немедленно после совещания в ЦК /у т.Жебровского/ были проведены меры по улучшению бытового положения писателей, все же среди части белорусских писателей остается впечатление, что дух письма в основном правильный и что ЦК пошел навстречу писателям после письма... Такие настроения приобрели благоприятную почву, поскольку эти люди не видели никакого реагирования на это письмо со стороны руководства Оргкомитета.

Какой получается при этом политический эффект? Создается положение, благоприятствующее попыткам спекульнуть на гнилом либерализме и продолжать подрывать авторитет Оргкомитета и, таким образом, партруководство литературой».

Рэагаванне Аргкамітэта вылілася ў пастанову «Аб класава-варожых вылазках на фронце беларускай савецкай літаратуры», апублікаванай 10 лютага 1933 г. Адносна «Ліста 15-ці» было сказана: «Заява 15-ці», указаўшая на недахопы ў рабоце Аргкамітэта, мела рад грубых памылак, якія далі магчымасць нацыяналістычным элементам скарыстаць гэты дакумент у сваіх класава-варожых выступленнях». Так што «новага нэпа» ў літаратурнай палітыцы, на які пасля пастановы ЦК Усе КП/б/ аб «перабудове» літаратурных арганізацый разлічвалі многія пісьменнікі — і беспартыйныя, і партыйныя — не атрымалася.

«Ліст 15-ці», зразумела, не паказваў усёй складанасці і трагічнасці становішча беларускай літаратуры на пачатку 30-х гадоў, у якім яна апынулася падчас разгрому так званай нацдэмаўшчыны, страціўшы нямала выдатных майстроў слова. Але ён стаіць у адным шэрагу з іншымі аналагічнымі заявамі-пратэстамі: «Лістом 3-х» у бюро ЦК КП/б/Б у кастрычніку 1925 г., калі М.Зарэцкі, Ан.Ажгірэй /Вольны/, А.Александровіч патрабавалі ад першага сакратара ЦК тлумачэнняў у сувязі з яго трактоўкай месца Беларусі ў Саюзе, разуменнем нацыянальнай культуры, адносінамі да нацыянальнай інтэлігенцыі; другім «Лістом 3-х» /снежань 1928 г./, у якім пісьменнікі-студэнты А.Александровіч, А.Дудар /Т.Глыбоцкі/, М.Зарэцкі праз друк заявілі аб выхадзе з Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў знак пратэсту супраць скажэнняў у правядзенні палітыкі беларусізацыі, знявагі годнасці пісьменніка. У «Лісце 15-ці», нягледзячы на відавочную яго недапрацаванасць, недастатковую аргументаванасць некаторых палажэнняў, тым не менш выразна бачны пратэст супраць некампетэнтнасці ў кіраўніцтве такой вельмі тонкай справай, як літаратурная.

**Р. ПЛАТОНАЎ,**
**доктар гістарычных навук**

ЛіМ - часапіс

ПРЭМ'ЕРЫ

## ПА МАТЫВАХ ЛЕГЕНДЫ



У Беларускім тэатры юнага гл:дача прэм'ера. Тут пастаўлены спектакль Юрася Мажэйкі «Старадаўняя казка» па матывах беларускай легенды, якая паэтычна апавядае аб з'яўленні на Беларусі буслоў, якія прыносяць шчасце.

Казку паставіў рэжысёр Юрый Кулік, аформіў спектакль мастак Барыс Акушын, музыку напісаў кампазітар Уладзімір Кандрусевіч.

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*

ТЭАТР

## І З ПАДТРЫМКАЮ МІНІСТЭРСТВА

Адметная зацікаўленасць нашых рэжысёраў спадчынай — драматургіяй або літаратурай, так бы мовіць, не спазнаных, не ўвасобленых, не ўведаных тэатрам, — часам рыхтуе гледачам і спецыялістам прыемныя неспадзеўкі. «Няскончаная драма, або Тры дні з яго жыцця...» Францішка Аляхновіча, што з'явілася на сцэне тэатра-студыі «Абзац» 25 лістапада, дае падставы меркаваць пра зладжаны ды спрактыкаваны акцёрскі хаўрус, — Барыса Галубкова, Анастасію Гавядзінаву, Андрэя Дударава, Наталлі Клімчык, Алега Грысевіча і Уладзіміра Мішчанчука; пра спраўджанага прафесійніка ад рэжысуры Уладзіміра Савіцкага і зацікаўленую работу ў спектаклі рэжысёра-дыпломніка Томаса Каргбо; пра гранічную падпарадкаванасць іхнім запатрабаванням мастачкі Ларысы Рулёвай... Апошнім радком праграмкі спектакля пазначана Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь: застаецца зважыць на міністэрскую падтрымку і занатаваць яе відавочна станоўчыя вынікі.

Ж. Л.

## «ЦЫЛІНДР» У ГОМЕЛІ



Свой другі сезон пачалі акцёры Гомельскага незалежнага тэтра. Па традыцыі першы спектакль яны далі ў дзень нараджэння арганізатара тэатра Рыгора Фігліна. Была паказана п'еса Эдуарда дэ Філіпа «Цыліндр». Паставіў яе рэжысёр Якаў Натапаў.

У планах незалежнага тэатра — да канца сёлетняга года паказаць яшчэ адну прэм'еру з удзелам вядомых расійскіх акцёраў.

*На здымку: сцэна са спектакля «Цыліндр».*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

ЛІТКУР'ЕР

## «СА СМЕХУ ДОБРАЯ Й ПАЦЕХА»

Так называлася вечарына, якая 23 лістапада прайшла ў Доме літаратара. Нагодай для яе правядзення паслужыў нядаўні выхад кнігі вершаваных пародый «Розгі ў розніцу» Міхася Скоблы. Павіншаваць аўтара, пасмяяцца ды пасмяшыць іншых завіталі на вечарыну Г. Юрчанка, У. Арлоў, А. Бельскі, У. Марук, А. Бадак, Э. Акулін, У. Мазго, А. Емяльянаў, А. Хатэнка. І, трэба прызнацца, чаго-чаго, а смеху і дружных воплескаў там было дастаткова.

Ну, а тых, каму не хапіла розгаў, паэт-парадыст прасіў не крыўдавацца і не хваляваціа: пачакайце крышку, і вам выпіша.

Застаецца дадаць, што вечарына была наладжана не без дапамогі камерцыйнай фірмы «Чмель».

Н. К.

## «МУЖНАЯ І ЖУРЛІВАЯ МУЗА»

Такую назву мела вечарына памяці Яўгеніі Янішчыц у Доме літаратара. Аб незвычайнай сіле таленту Я. Янішчыц, яе вялікім укладзе ў беларускую літаратуру гаварылі вядучы вечара народны паэт Беларусі Р. Барадулін, У. Някляеў, Н. Загорская, В. Коўтун, Л. Галубовіч, народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Г. Далідовіч і іншыя.

Народная артыстка рэспублікі Л. Давідовіч, Г. Кухальская і А. Віняўскі прачыталі вершы паэтэсы. Гучалі песні і рамансы на словы Я. Янішчыц у выкананні Л. Маслоўскай і Г. Бутырчык.

Г. П.

## «КАЛАСАВІНЫ» НА ЛУНІНЕЧЧЫНЕ

прайшлі сёлета трэці раз. Пачаткам іх стаў адкрыты коласаўскі ўрок у СПТВ-146, у якім прынялі ўдзел пераможцы коласаўскага тыдня, выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры. Адбылося свята вуліцы, што носіць імя народнага песняра ў Лунінцы. У г. п. Мікашэвічы на будынку чыгуначнага вакзала адкрыта мемарыяльная дошка, якая нагадвае аб прыездзе сюды Я. Коласа, калі ён выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Мікашэвіцкай акрузе. Закончылася свята літаратурна-музычнай праграмай у Палацы культуры вытворчага аб'яднання «Граніт».

А. ХАРЛАМАЎ

## І БОЛЬ ПАКАЛЕННЯ...

Прэм'ера мастацка-дакументальнай кнігі Паўла Пруднікава «За калючым дротам», што прайшла ў Доме літаратара, адначасова стала гаворкай пра жыццёвы і творчы шлях і яе аўтара, пра лёсы іншых пакутнікаў, якія зведалі жахі сталінскага беззаконня. Пра мужнасць нескароных, пра зверствы катаў, пра неабходнасць ніколі не забываць перажытага і праўдзіва адлюстроўваць яго гаварылі вядучы вечара намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, А. Кобец-Філімонава, С. Законнікаў, У. Паўлаў, М. Мятліцкі, В. Шырко, Л. Левановіч, С. Міско, прэзідэнт Асацыяцыі сталінскіх ахвяр Г. Штыхаў, дырэктар архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Запартыка і іншыя.

З увагаю слухалі прысутныя аўтара кнігі, які прыгадаў асобныя моманты з уласнай біяграфіі, прачытаў новыя вершы. Песні на словы П. Пруднікава прагучалі ў выкананні Г. Бутырчык.

ДРУК

## ДАЎНІНА Ў «БЕЛАРУСКАЙ МІНУЎШЧЫНЕ»

Пабачыў свет здвоены, трэці-чацвёрты нумар часопіса «Беларуская мінуўшчына». У ім — артыкул галоўнага рэдактара А. Андруховіча «Айчына-маці ў кожнага адна», справаздача «З'езд беларусаў свету», развагі А. Сувалава «Вытокі этнагенезу беларусаў», В. Чаропкі «Ліцвіны — славянскі народ», слова А. Марціновіча пра К. Тураўскага «Залатавуст з Турава», «Гісторыя Беларусі: год за годам» У. Арлова і Г. Сагановіча, інтэрв'ю А. Андруховіча са старшынёй Камітэта па архівах і справаводстве пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Міхальчанкам «Чым больш гаспадароў у нашай гістарычнай спадчыны — тым менш парадку!», вершы Д. Бічэль-Загнетавай, лірычны рэпартаж М. Дзелянкоўскага «Гародня».

Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы С. Токця «Чужынцы тут спраўлялі баль», У. Адамушкі «Справа N 233771», Г. Купрэевай «Мінскае гета», А. Лакоткі «Людзі на балоце», У. Аніскові ча «Храм адраджаецца»...

## ТАК ТРЫМАЦЬ, «РОДНАЕ СЛОВА»!

Парадаваў чарговы, дзесяты нумар часопіса. Як ні цяжка цяпер, а ўсё ж «РС» выйшла з каляровымі ілюстрацыямі. Выкарыстаны слайды з фотатэк выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» /жывапісная Купаліяна/ і рэдакцыі часопіса «Маладосць» /творы А. Марачкіна/.

На ўзроўні і змест. С. Чыгрын прадстаўляе пісьменнікаў замежжа А. Змагара, Я. Пятроўскага, С. Хмару-Сіняка «Тры постаці», К. Хромчанка /«З верай у нязбыўнае»/ прасочвае жыццёвы і творчы шлях П. Пестрака. «Пуцявіны абнаўлення» — артыкул А. Бельскага пра маладую драматургію. «Сыном маладой Беларусі...» — развагі С. Снапкоўскай пра педагагічную спадчыну В. Ластоўскага.

У нумары — артыкул М. Прыгодзіча «Беларускія летапісы», рэпартаж Я. Яцкаўца з майстэрні А. Марачкіна «Памкненне да волі», невядомыя старонкі з жыцця М. Гарэцкага /«Вінаватым сябе не прызнаў...» У. Міхнюка/, рэцэнзія М. Скоблы на кнігу А. Хатэнкі «Зніч крыжовых дарог»...

## КАЛЯ ЧАТЫРОХ ТЫСЯЧ СЛОЎ

уключана ў Руска-беларускі слоўнік спартыўнай тэрміналогіі /складальнік Д. Паўлавец/. Каб падрыхтаваць яго, парупіліся ў Гомельскім абласным савеце Педагагічнага таварыства Беларусі і Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны. Там жа, у Гомелі, гэты дапаможнік і пабачыў свет.

## І ЯШЧЭ АДНА ВЕСТКА

з абласнога цэнтра на Сожы. Адно з мясцовых малых прадпрыемстваў «Сігма», як аказваецца, зусім неабыякавае да паэзіі. Прынамсі, нядаўна яно выпусціла зборнік вершаў М. Башлакова «Дні мае залатыя», адрасаваны старэйшаму школьнаму ўзросту.

## «НАША НІВА», N 17

Чарговы нумар віленскай беларускай газеты «Наша Ніва» прысвечаны літаратуры. Рэдакцыя разаслала сваю анкету і атрымала больш за 60 адказаў ад людзей розных пакаленняў і поглядаў. Рэспандэнты называлі 10 лепшых пасляваенных беларускіх кніжак... Якія ў нас пісьменнікі і творы найбольш папулярныя рэальна? Вынікі анкеты руйнуюць звыклыя стэрэатыпы.

Карэспандэнт «НН» узяў у Нью-Йорку інтэрв'ю ў вядомага беларускага культурнага і палітычнага дзеяча эмігранта Антона Адамовіча. У гутарцы, у якой А. Адамовіч успамінае пра Вацлава Ластоўскага, якога ведаў асабіста, ён сцвярджае, што СВБ — Саюз Вызвалення Беларусі — не быў выдумкай НКВД. Гэта была рэальная арганізацыя...

Акрамя гэтага, газета друкуе шмат аналітычных матэрыялаў, інфармацый, перакладаў замежнае літаратуры.

## «ПЕРШАЦВЕТ», N 11

Аматараў паэзіі чакае сустрэча з творамі дэбютантак часопіса Таццяны Талерчык і Арыі Гатальскай. Тут жа друкуюцца вершы ўжо даволі вядомых па публікацыях у іншых выданнях — Віктара Слінко, Зміцера Цехановіча, Алы Петрушкевіч, Ігара Карповіча...

У раздзеле «Проза» друкуюцца апавяданні Уладзіміра Клімовіча, Лідзіі Лукіянавай, Алеся Векі. Прадстаўлены філасофска-аналітычныя навелы Андрэя Гуцава і фантастычна-алегарычнае апавяданне Сержука Мінскевіча.

Шаноўнымі «гасцямі» нумара сталі пісьменнікі Мікола Маляўка і Георгій Марчук.

У «Повязі» крытык С. Чыгрын знаёміць з малавядомымі вершамі Алеся Дубровіча.

Крытычныя матэрыялы складаюць артыкул Н. Вусавай «Беларускі міф» /пра асноўныя матывы беларускай графікі пачатку XX ст./, а таксама рэцэнзіі на кнігі І. Рубіна, Л. Марушкі, І. Бабкова, напісаныя В. Шніпам, Т. Качан, А. Ветахам.

«Жароўня» прапануе жарты пачатку стагоддзя, падрыхтаваныя па старонках тагачаснага друку А. Пашкевічам, і пародыі Андруся Дылюка.

Н. К.

## ШАНУЕ СПАДЧЫНУ... «СПАДЧЫНА»

Пяты нумар часопіса «Спадчына», як і папярэднія, багаты на пазнавальныя, інфармацыйна-насычаныя матэрыялы. Сярод іх — артыкулы А. Пякарскага «Наваградскія гербы», Т. Габрусь, Ю. Чантурыя «Зруйнаваная Орша», П. Манькоўскага «Ці быў атруты Адам Міцкевіч?», чарговыя раздзелы з кнігі Г. Сагановіча «Невядомая вайна /1654—1667 г./».

Змешчаны драма П. Крэчэўскага «Здрада», артыкул М. Волаціча «Лінія Керзана на фоне падзеяў і тэрытарыяльных зменаў ва Усходняй Еўропе», расказ Э. Рудскага «Ганна Альдона, дачка Гедыміна, жонка польскага караля Казіміра Вялікага», працяг артыкула В. Пануцэвіча «Кс. Вінцэсь Гадлеўскі», кнігі Ю. Вольфа «Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага ад канца XIV ст.», слова Я. Янушкевіча пра В. Ластоўскага «Незалежнік», іншыя матэрыялы.

ВЕЧАРЫНЫ

## БЕЛАРУСКІЯ МЕНЕСТРЭЛІ

Сярэднявечны рыцарскі дух панаваў у гарадскім Доме культуры Магілёва, калі праходзіла чарговая вечарына «Беларускай гасцёўні». /Арганізатары — ГДК ды магілёўскія філіі БГАКЦ і БНФ/. Рыцарскія ды жаўнерскія песні, а таксама песні беларускіх менестрэляў і вагантаў выдатна гучалі ў выкананні этна-рок-гурта «Камэлот» з Менска. Хвацкія музыкі зачаравалі ўсіх прысутных, таму пры заканчэнні вечарыны ніхто не спяшаўся дахаты. Удзельнікі «Камэлота» распавядалі пра сваю творчасць, адказвалі на шматлікія пытанні магілёўцаў. Гэтым вечарам разам з менскімі музыкамі магілёўцы адчулі повязь сучаснасці й старажытнасці, пачулі подых «залатога веку Беларусі» — часоў Вялікага княства Літоўскага. Крыху засмуціла пасля шчырай размовы толькі тое, што таленавіты калектыў працуе практычна без падтрымкі, на энтузіязме. Да прыкладу, на запіс адной песні ў прыватнай студыі патрэбна 40 долараў, якія хлопцы вымушаныя зарабляць самі. А між тым, пры пэўнай матэрыяльнай падтрымцы, перш за ўсё дзяржавы, «Камэлот» мог бы выйсці на еўрапейскі ўзровень і прынесці славу Беларусі.

Юрась ПІВУНОЎ

*г. Магілёў*

## НА КРЫЛАХ ПЕСНІ



У Мінскім вучылішчы мастацтваў прайшла вечарына «Жураўлі на Палессе ляцяць», прысвечаная творчасці паэта Алеся Ставера. Паэзія і музыка перамяжоўваліся, ствараючы своеасаблівы літаратурна-музычны спектакль. Навучэнцы выканалі танцы «Польку» і «Юрачку» пад акампанемент адпаведных песень А. Ставера, запісаных на кружэлку народным хорам імя Г. Цітовіча. Песню варонежскага кампазітара І. Барсукова «Закружыла мяцеліца» праспявала навучэнка Л. Сядлецкая ў суправаджэнні інструментальнага ансамбля. У выкананні студэнцкага хору прагучала песня І. Лучанка, якая з'явілася назовай усяго спектакля. Папулярную «Беларусачку» /муз. Ю. Семянякі/ праспяваў народны артыст Беларусі В. Глушакоў пад акампанемент сына Аляксандра, навучэнца чацвёртага курса.

Стварыла гэты літаратурна-музычны спектакль намеснік дырэктара вучылішча па практычным навучанні Л. Коціна.

А. РУНКЕВІЧ,
метадыст Рэспубліканскага палаца «Юнацтва»

*Фота А. СПРЫНЧАНА*

ЛіМ - часапіс

Вандроўкі

# МЫ СПАТКАЛІ ЛЮДЗЕЙ, ПАДОБНЫХ ДА НАС...

***Усё пачалося з тэлефоннага званка. Прыемны жаночы голас паведаміў, што мне трэба наведаць польскае пасольства, каб атрымаць дасланае на маё імя... запрашэнне. Яшчэ большай нечаканасцю было даведацца, што запрашэнне даслана фондам з дзіўнай назвай «Ашрам анавім» з прапановаю ўзяць удзел у спатканні музыкаў, акцёраў і кінематаграфістаў Летувы і Беларусі, якое адбудзецца ў Варшаве і мае назву «Вялікае княства». Ну як адмовіцца ад такой прапановы! Я хутка аформіў дакументы для паездкі.***

Аўтобус прывёз удзельнікаў сустрэчы з Беларусі ў Варшаву 15 кастрычніка а другой гадзіне ночы. Мы мелі дастаткова часу, каб выспацца і пахадзіць па горадзе, бо пачатак сустрэчы быў прызначаны на шостую гадзіну вечара.

Уранні я атрымаў шыкоўна зробленую праграму імпрэзы, у якой, акрамя раскладу, быў змешчаны спіс яе арганізатараў і спонсараў. Фундатараў было шмат і сярод іх — Міністэрства культуры Польшчы, адна з буйнейшых у краіне газет «Жэчпосполіта», другі канал польскай тэлевізіі, польскі фонд Стэфана Баторыя і летувіскі Фонд адкрытай Летувы. Сярод арганізатараў і саўдзельнікаў знаёмых імёнаў было менш: рэжысёр кіно Кшыштаф Занусі, супрацоўніца Інстытута Усходніх даследаванняў Анна Энгелькінг, радца пасольства Польшчы ў Мінску Марэк Галкоўскі, журналістка беларускай рэдакцыі польскага радыё Эля Бэзюк... Што такое фонд «Ашрам анавім», які карыстаецца такой падтрымкай, заставалася невядомым. З яго старшынёй Янушам Багуцкім я сустрэўся толькі ўвечары і пачуў ад яго наступнае:

— Я — стары галернік. Гэтак, жартуючы, называюць людзей, якія, быццам нявольнікі з галерай, усё жыццё звязаны са справай арганізацыі мастацкіх выстаў. Гэтая справа ўзяла ўсё маё жыццё. І заўсёды, нават ва ўмовах рэальнага сацыялізму, мне ўдавалася ладзіць імпрэзы, якія адрозніваліся ад афіцыйных. У той час кожны тэатр ці выданне, якія падаваліся ўладам залішне індывідуальнымі, аўтарскімі, рэарганізоўваліся — гэта значыць, мяняўся склад творчай групы, але захоўвалася назва. Уціск на творчую інтэлігенцыю быў значным, але нават тады я доўгі час, каля 10 гадоў, вёў Варшаўскую галерэю сучаснага мастацтва, што ў будынку Вялікага тэатра. Галерэя існавала, захоўваючы сваю мастацкую індывідуальнасць.

У 80-я гады, у перыяд уздыму «Салідарнасці», а потым — вайсковага стану я разам з жонкай займаўся арганізацыяй напаўлегальных выстаў у касцёлах. У час вайсковага стану трэба было мець спецыяльны дазвол на арганізацыю кожнай імпрэзы, выставы ці сустрэчы, і пазбегнуць ідэалагічнага кантролю нам дапамагаў касцёл, які захаваў сваю незалежнасць ад дзяржавы. Тады залы святыняў сталі прасторай, у якой ладзіліся кантакты між усімі плынямі неафіцыйнага мастацтва: кіно, музыкі, тэатра. Наша дзейнасць мела два зместы. Першы — маральнае супраціўленне, адмаўленне ў падпарадкаванні манапольнай ідэалогіі і манапольнай культуры. Другое значэнне справы, якой мы займаліся, было, магчыма, яшчэ больш значным. Тэрор — не вечны: сёння ён ёсць, а заўтра яго знішчаюць палітычныя пераўтварэнні. Застаецца мастацтва. Застаюцца творцы.

Працягам колішніх нелегальных сустрэч інтэлектуалаў, прадстаўнікоў розных плыняў мастацтва стала заснаванне ў 1990 годзе фонду «Ашрам анавім». «Ашрам» — гэта індуісцкі кляштар. Тут маецца на ўвазе індаеўрапейская традыцыя існавання кляштараў як асяродкаў вышэйшай культуры ды іншых з'яў унутры традыцыйнай культуры без яе вынішчэння ці падмены. Гэта традыцыя ўзаемадзеяння розных культур праз узаемнае пазнанне. «Анавім» — слова са Святога Пісьма, якое абазначае людзей ціхіх, амаль убогіх. Гэта, у нашым разуменні, творцы, якія не імкнуцца ісці шляхам лёгкага поспеху, шляхам стварэння моднай літаратуры, папулярнай музыкі ці ўдзелу ў індустрыі забаў; людзі, для якіх творчасць увасабляе ўнутраную свабоду. І наш фонд створаны дзеля таго, каб дапамагчы гэтым «анавім» знайсці месца ў культурнай структуры сваёй супольнасці. Мы ствараем кляштар мастацтва — месца, дзе інтэлектуалы і творцы розных краін могуць сустрэцца, каб адчуць сваю еднасць у межах сусветнай культуры.

Сёння мастацтва вандруе па вялікіх галерэях, па модных эстрадах. Яго ствараьнікі спяшаюцца дасягнуць поспеху і, як ні парадаксальна, гэты поспех забівае духоўнае жыццё. Артысты нагадваюць майстроў вялікага спорту, якія імкнуцца паспець з аднаго сусветнага спаборніцтва на другое і робяцца залежнымі ад патрабаванняў публікі. Мы ж імкнёмся спрыяць тым, хто мастацкую вартасць твора ставіць вышэй за хуткі поспех, тым, хто працуе, не зважаючы на патрабаванні моды.

Фонд пачаў з выстаў, прысвечаных сувязям паміж мастацкай творчасцю і традыцыямі духоўнага жыцця народаў Польшчы. Адна з першых і буйнейшых нашых выстаў — «Эпітафія» — была напамінам аб вынішчэнні ў Польшчы яўрэяў падчас другой сусветнай вайны. Другая выстава — «Сем прастораў» — адлюстроўвала, сярод іншага, традыцыі праваслаўя, бо ўсход краю, польска-ўкраінска-беларускае сумежжа, — гэта цэлы свет асобай культуры.

Спатканне «Вялікае княства», што пачынаецца сёння — частка нашай праграмы сустрэч людзей мастацтва і інтэлектуалаў розных краін. Сама назва — гэта памяць аб той старой Літве, нашчадкамі якой з'яўляюцца народы Беларусі і Летувы. Менавіта народы, бо адна з галоўных задач нашага фонду — адкрыццё для Польшчы культуры і ментальнасці народаў-суседзяў. Кантакты паміж прадстаўнікамі творчай эліты суседніх народаў не азначаюць, што мы імкнёмся замкнуцца ці абмежавацца, ствараючы нейкую правінцыйную культуру. Наадварот, падобныя сустрэчы дапамогуць ім знайсці сваё месца ў літаратуры, музыцы ці мастацтве свету...

Імпрэза адкрылася ўвечары 15 кастрычніка. Месцам яе правядзення стала старая кацельня на вуліцы Лавіцкай. Будынак памераў самалётнага ангара з чорнымі ад копаці сценамі стараннямі мастакоў ператвораны ў канцэртную залу. Уздоўж сцен цягнуліся шмат'ярусныя трыбуны для гледачоў. Насупраць іх цэлы пралёт зверху да нізу быў абклееных павыцінанымі з залацістай фольгі абкладамі абразоў і німбамі, надаючы счарнелай ад дыму бетоннай сцяне дзіўнае падабенства да іканастасу праваслаўнай царквы. У адным канцы залы месцілася невысокая, нічым не адгароджаная ад гледачоў платформа для выканаўцаў, у другім — велічэзныя сталы, застаўленыя хлебам, сырам, яблыкамі — як пачастунак, падрыхтаваны ў сялянскай хаце для чаканых гасцей. І яшчэ адна частка афармлення залы прыцягвала да сябе ўвагу — прысвечаная памяці Міколы Чурлёна /Чурлёніса/ інсталяцыя Ежы Каліны «Крыніца»: вакол студні, поўнай вады, дванаццаць камлёў дрэў, дванаццаць знічаў каля іх і дванаццаць ствалоў з абсечанымі каранямі, якія, не дастаючы да зямлі, звісалі ці то з высокай нябачнай чорнай столі, ці то з самога неба.

Незвычайным быў склад гасцей імпрэзы. Будынак запоўнілі не толькі музыкі, мастакі ды акцёры з трох краін, якія па чарзе рабіліся то выканаўцамі, то ўдзельнікамі, то гледачамі. Шчыльнае кола ля нізкай пляцоўкі для выступленняў утварылі людзі, што прыйшлі проста з вуліцы, тыя, для каго мастацтва было не прафесіяй, а захапленнем.

Афіцыйнай часткі спатканне не мела. Адзінае — на пару хвілін спыніў спевы летувіскі фальклорны гурт «Шэдува» і за гэты час кіраўнік фонду, падняўшыся на пляцоўку, павітаў удзельнікаў сустрэчы ды сцісла патлумачыў яе мэту — знаёмства Польшчы з традыцыйнай і сучаснай культурай народаў старой Літвы.

Імпрэза пачалася. І нашчадкі Вялікага княства маглі толькі ганарыцца той культурай, якую яны прадстаўлялі: сярод дэкарацый да фільма Анджэя Папужыньскага «Сем містэрый Стасіса» адбывалася дзея самога Стасіса Эйдрыгявічуса, выконваў традыцыйныя мелодыі жамойцкі гурт «Кікуліс». Гучала музыка сучасных летувіскіх кампазітараў у выкананні ансамбляў «Гурт новай музыкі» і «Экс тэмпорэ». Затое ээялі пустэчай канструкцыі, збудаваныя спецыяльна для размяшчэння мінскага хору «Унія» — музыкі не прыехалі. Не было і пазначанай у праграме спявачкі старых украінскіх песень Алены Леаненкі. Беларусь у першы вечар была прадстаўлена фалькларыстамі, і першым выступіў гурт Уладзіміра Бярберава «Ліцьвіны». Прыцягнуць да сябе ўвагу пасля музыкаў Летувы, адметных надзвычай высокім выканаўчым

# ОЙ, ГУЛЯЛА ВЯСЕЛЕЙКА

## ДАРОЖНА-ВЯСЕЛЬНЫЯ НАТАТКІ

***Гэтыя нататкі ніяк не аднясеш да навуковага даследавання па міжэтнічнай праблематыцы, як і да якога-небудзь з літаратурных жанраў таксама. Гэта — звычайныя запісы з натуры. І каштоўнасць іх не ў мастацкасці і не ў навуковасці, а найперш у праўдзівасці, шчырасці. Магчымы хіба толькі некаторы суб'ектывізм.***

### 1. ЗБОРЫ

Калі мы /гэта значыць, я, жонка і яшчэ восем чалавек нашых сваякоў/ выбіраліся на Львоўшчыну жаніць хто пляменніка, хто ўнука, а хто стрыечнага брата, то доўга гаварылі пра тамтэйшыя звычаі і вясельныя традыцыі. І зусім не таму, што гэта чужая краіна, дзе ўсё не так, як у нас, а па той простай прычыне, што ў нас, бадай, у кожнай вёсцы гэтыя традыцыі хоць нечым ды адрозніваюцца. Тут каравай такой формы, там іншай, тут нявесту выкупляюць, а там і не ведаюць пра выкуп, тут перад ад'ездам да вянца або ў ЗАГС маці маладой абсыпае вясельны картэж жытам, а там нейкая іншая цырымонія прадугледжана...

Ну, а галоўным пытаннем было — колькі і як дарыць.

— Грошы не будзем, бо і памяці ніякай не застанецца, — казалі жанчыны.

— Гаспадарчае начынне трэба дарыць, — згаджаліся мужыкі.

Накуплялі рознага посуду — шклянога, эмаліраванага, крыштальнага, ды свяцільнік шыкоўны, ды коўдры з пакрываламі стракатымі, і з цэлаю гарою пакункаў — у дарогу. Ад Лунінца да Гарыні пхаліся без асаблівай раскошы — не было месцаў. Затое на апошнім беларускім прыпынку ўладкаваліся як след і астатнія 10—11 гадзін маглі ехаць з некаторым камфортам.

Між іншым, у адной з нашых сумак, акрамя падарункаў ды ежы, месцілася і нешта такое, што магло выклікаць тут дзе ў каго здзіўленне. Ну навошта, сказаў бы недалёкі абывацель, везці на вяселле, ды яшчэ за свет — у іншую дзяржаву, цэлую падшыўку «Літаратуры і мастацтва» ды стосікі беларускіх літаратурных часопісаў «Маладосць», «Першацвет», «Полымя».

Але ж таму былі свае прычыны. Чалавек, да якога мы ехалі,— беларус. Шчыры беларус. Ён даўно просіць у мяне, каб дасылаў яму ў Прыкарпацце нумары «ЛіМа». Толькі як дашлеш, калі кожная пасылачка за мяжу вылятае ў добрую капейчыну. Праўда, і тут я знаходзіў выйсце. Аўтобусам /маршрутным/ перапраўляў скрутак і грошы ў Любяшоў сябру Міколу Чарняку з тамтэйшай раёнкі «Нове життя», а той ужо нёс яго на пошту. Так атрымлівалася значна танней. Апошнія ж некалькі месяцаў падобныя перасылкі па шэрагу прычын былі спынены, і я, карыстаючыся выпадкам, вырашыў даставіць «пошту» такім вось чынам.

Упэўнены, для Валодзі /так завуць нашага сваяка — роднага брата маёй жонкі/ гэты сціплы гасцінец будзе даражэйшым за ўсе астатнія. О, ён будзе вельмі задаволены, хоць, шчыра прызнацца, просьбу яго́ную я выканаў не ў поўнай меры. Ён вельмі хацеў прыдбаць зборнік паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме», а таксама раман Масея Сяднёва «Патушаныя зоры». Я іх у нашай кнігарні не знайшоў. А для сябе браў у бібліятэцы.

### 2. МЯЖА

У Гарыні цягнік стаяў доўга — каля гадзіны. Тут нам напомнілі аб тым, што мы перасякаем не проста мяжу паміж братнімі рэспублікамі, але сапраўдную дзяржаўную граніцу. У вагоне з'явіліся хлопцы пад зялёнымі фуражкамі.

— Уважаемые пассажиры, подготовьте к проверке документы, — прапаноўвалі па-руску.

І я ўспомніў, як мы з жонкаю, збіраючыся ў дарогу, у апошні момант згадалі пра пашпарты.

— Бач, добра, што ўзялі, — шапнула чамусьці палахлівым голасам мая палавіна, — інакш паперліся б зараз дахаты.

А вось мая пляменніца — дзяўчына гадоў пятнаццаці — заўважна пачырванела і не ведала, куды дзець рукі: то падпірала імі падбародак, то заціскала між каленяў.

— Ну, а ты што закалацілася? — клапатліва пацікавіўся я.

— А я нічога не ўзяла.

— Ты яшчэ непаўналетняя. Табе не трэба...

— Не паверацъ, — умяшалася жонка. — Вунь якая маладзіца вымахала.

Цяпер твар дзяўчыны пайшоў белымі плямамі. А тут і праўяраючы вырас, нібы грыб. Мы хуценька падалі яму чырвоныя кніжачкі. Прабегшыся па іх вачыма, вайсковец уважліва зірнуў на бедную Вольгу.

— У мяне яшчэ няма пашпарта. Мне 15 гадоў.

— В таком случае свидетельство о рождении...

— Не ўзяла.

— Берите вещи и возвращайтесь домой.

— Куды ж мы яе адну адпусцім? Непаўналетнюю, — уступіўся я. — Вы ўжо даруйце ёй, упершыню едзе.

— Без документов не пропускаем. Не положено.

Вольга ўжо ледзь не плакала:

— Куды я сама пайду?

— Хорошо. Ваш адрес и фамилия.

Вольга назвала.

— Вот мы сейчас позвоним и проверим, сколько вам лет и есть ли у вас паспорт... Ну, ладно, на сей раз проезжайте, но в дальнейшем документы советую не забывать. Счастливой дороги.

У суседнім плацкарце сядзелі нашыя бацька і маці. Ім ужо за семдзесят. Мусіць, з-за ўзросту да іх ніхто не чапляўся, як і да дзяцей 8—10-гадовага ўзросту таксама ж з нашай кампаніі.

— А раптам мытнікі пакункі пачнуць трэсці, — не сунімалася жонка. — Што, калі не дазволяць усё везці? Не, лепш было б грошы дарыць.

І мы сядзелі і са страхам чакалі мытнікаў. Раптам яны падумаюць, што прадаваць вязём багацце такое.

Але, дзякаваць Богу, ніхто нас бо не турбаваў. Толькі малады праваднік пакпіў па-ўкраінску з Вольгі: маўляў, з Украіны яе не выпусцяць і давядзецца жыць «за граніцаю».

Усю дарогу за акном пляжыў дождж, і пад яго закалыхваючы пошум добра спалася, хоць і трывожыла думка, што ў Львове ён збэсціць нашыя пакункі. Але і тут ліха абмінула нас. Каля 11-ці вечара, перад самым прыбыццём цягніка, залева сцішылася. Нас сустрэлі толькі люстэркі-лужыны, што холадна паблісквалі ў агні ліхтароў. А хутка з'явіўся Валодзя, стомлены перадвясельнымі клопатамі, але ўзрадаваны, падбадзёраны прыездам сваякоў ды бацькоў. Ён і павёў нас па вячэрнім Львове.

### 3. ЛЬВОЎ ЗВОНКУ

Як ні сорамна прызнавацца, але ў свае 28 гадоў я ўпершыню наведаў Львоў — старажытны, славуты, прыгожы прыкарпацкі горад. З іншага ж боку, у гэтым — свае перавагі. Мае ўражанні не трапілі ў цень папярэдніх і былі, што называецца, першай свежасці. Ну, а галоўнае, што кінулася ў вочы /ды і пад ногі таксама/ — гэта брук. Быццам бы трапілі мы не толькі ў іншы горад, але і перамясціліся ў часе. Гадоў гэтак на сто ці нават болей назад. Мы ішлі па пляскатых, ідэальна падагнаных адзін да другога бліскучых ад вады камянях, і калі б у гэты час з-за павароту раптам выскачыў конны экіпаж, усё гэта выглядала б тут досыць натуральна. Здавалася, мы да бясконцасці будзем падымацца ўверх па вузенькай вулачцы, па якой насустрач нам імчалі нястрымныя ручаіны. Яны падмылі ўжо бетонныя плітачкі-соты тратуара, павыварочвалі іх, уздыбілі, як ільдзіны падчас крыгалому. Затое брук не кранулі. Ён незварушны, моцны, трывалы. Ён нагадаў мне нашую старажытную Вільню, у якой меў шчасце бываць колькі разоў. А ўзбоч, нібыта крэпасці, каменныя патрэсканыя і зарослыя мохам сцены ўзведзеных невядома калі дамоў.

— Гэта стары горад, — тлумачыць наш праваднік. — Заўтра ўбачыце і новы. Там такія ж гмахі-каробкі, як і ва ўсіх гарадах.

### 4. ЛЬВОЎ ЗНУТРЫ

У адзін са згаданых вышэй экзатычных, прапахлых даўніною дамоў-крэпасцяў і прывёў нас мясцовы беларус.

— Тут пераначуйце, а раніцою я адвязу вас да сябе ў Сакольнікі. Гэта тры кіламетры адсюль.

І мы ўзнімаемся па рыпучай драўлянай лесвіцы на другі паверх, дзе нас сустракае ў аднапакаёвай кватэры прыемны малады чалавек. Гэта Сяргей, таксама сваяк, хоць, праўда, бачуся я з ім упершыню.

Пасля знаёмства з жытлом раблю вывад, што яно, мякка кажучы, незайздроснае. Калі галоўны пакой яшчэ больш-менш прасторны, дык кухня — двум чалавекам не павярнуцца. Да ўсяго, у ёй за палатнянай шырмаю туліцца яшчэ



*Удзельнікі сустрэчы (злева направа): А.Мінкін, С Дубавец, У.Сэнюх, Я.Іванюк, У.Пац*

узроўнем, было, на мой погляд, немагчыма. Але — так сталася. Слухачы, большасць з якіх былі не проста аматарамі музыкі, а ўласна музыкамі, ацанілі непадобнасць стылю мінскага гурта і яго прафесіяналізм, павітаўшы іх шчырымі воплескамі.

А восьмай гадзіне слова зноў узяў Януш Багуцкі, запрасіўшы ўсіх прысутных да стала. Вячэра была падобнай на банкет гэтак жа мала, як самое спатканне музыкаў і акцёраў на ўрадавы канцэрт майстроў мастацтваў. Хлеб, сыр, яблыкі, польскія «перогі», падобныя да нашых калдуноў, для жадаючых — шклянка піва...

Падсілкаваўшыся, усе спяшаліся ў другі канец залы, дзе ўжо ладзілі інструменты музыкі з гуртоў «Выдрага» і «Шэдува». Загучала полька — танец, што яднае нашчадкаў не толькі Вялікага княства, але і іхніх суседзяў з-за Буга, і маладыя летувіскія танцоры пачалі запрашаць сабе пары сярод такіх жа маладых гледачоў.

Другая частка спаткання мела выгляд яшчэ менш афіцыйны, чым першая — людзі розных узростаў, розных краін і культурных традыцый танчылі ў адзіным рытме ці гутарылі, лёгка знаходзячы агульныя тэмы і агульную мову, мяшаючы ў яе мовы ўсіх суседніх народаў. У натоўпе мільгацелі строі ўсіх часоў, пачынаючы ад грубых шэрых кашуль з саматканага льнянога палатна і канчаючы строгімі ангельскімі гарнітурамі.

Першы вечар спаткання скончыўся далёка па паўночы.

Другая частка сустрэчы мелася, як і першая, адбыцца ўвечары наступнага дня. Вольнага часу хапала, і я вырашыў проста пахадзіць па горадзе ці, дакладней, па старой яго частцы. Там і адбылося яшчэ адно маё знаёмства з культурай нашчадкаў Вялікага княства: непадалёк ад каралеўскага палаца проста на вуліцы знайшлі сабе месца музыкі гурта «Менскі гармонік», якія дэманстравалі ўзоры сваёй творчасці прахожым ды турыстам, збіраючы ў саламяны брыль добраахвотныя ахвяраванні. Над Варшавай несліся мелодыі «Казачка» ды «Коробушки», і я пачаў разумець, чаму, нягледзячы на 70-гадовае існаванне БССР, палякі бачылі на ўсходзе край балалаек і самавараў...

Увечары таго ж дня я зноў адшукаў кіраўніка «Ашрам анавім» і спытаў яго, якімі прынцыпамі карысталіся арганізатары «Вялікага княства», запрашаючы да ўдзелу ў ім тыя ці іншыя калектывы. Адказ патлумачыў мне многае:

— Наш прынцып — наладжванне кантактаў паміж дзеячамі культуры не праз урадавыя каналы ці прафесійныя арганізацыі, кшталту Саюза мастакоў ці Саюза кампазітараў. Перадусім нас цікавяць людзі, блізкія нам духоўна, не проста прадстаўнікі пэўнага накірунку мастацтва, музыкі, літаратуры ці тэатра, а інтэлектуалы. Калі, напрыклад, гэта фалькларысты, дык тыя, што прадстаўляюць фальклор, не створаны ў горадзе з мэтай дэманстрацыі «росквіту народнай творчасці», не дзяржаўны ансамбль песні і танца — а тыя, што імкнуцца захаваць самабытную нацыянальную культуру. У Летуве мы ведалі падобных людзей, а ў дачыненні да Беларусі скарысталіся дапамогай супрацоўніцы беларускага аддзела Усходняга навуковага цэнтра Анны Энгелькінг, а таксама Паўла Казанецкага з нашага Міністэрства культуры. Згодна з іхнімі рэкамендацыямі мы запрасілі фальклорны гурт «Ліцьвіны» і хор царкоўнай музыкі «Унія». Значныя надзеі мы ўскладалі на пасольства Беларусі ў Польшчы, але там мы сустрэлі людзей хаця і вельмі прыемных, але такіх жа самых, што і раней. Так, адзін з супрацоўнікаў пасольства паабяцаў прыслаць нам такія гурты, якія трэба, бо, прабыўшы некалькі гадоў кіраўніком гаркама партыі, ён добра азнаёміўся з гэтай справай. Мы былі змушаныя адмовіцца ад гэтай прапановы, бо ведаем: дагэтуль у вас пануе афіцыйная савецкая культура, тады як нам патрэбна культура беларускага народа.

Каб адшукаць яе, трэба мець час. Прадстаўнікам фонду вельмі хацелася б пабываць у вас, каб пазнаёміцца з вашымі артыстамі тэатра, мастакамі, музыкамі... Нас цікавяць людзі шчырыя, таленавітыя, незалежныя ў сваёй творчасці, духоўна разняволеныя. Нас цікавіць новае мастацтва Беларусі, бо адна з галоўных мэт нашага фонду — адкрыццё Польшчы культуры, ментальнасці, духоўнасці нашых бліжэйшых суседзяў...

Назва «Менскі гармонік» падчас нашай гутаркі не згадвалася ні разу, і я падумаў, ці не быў прыезд ансамбля мастацкай самадзейнасці неспадзяванкай і для самога пана Багуцкага?

А тым часам падзеі ў старой кацельні набіралі сілу. «Гурт новай музыкі» на традыцыйных народных інструментах Жамойці выканаў «Магічнае кола санскрыту» — авангардны твор Бронюса Кутавічуса. Авангард беларускага рока быў прадстаўлены гуртом Касі Камоцкай «Новае неба». Дзеянні, якія пераносіліся з аднаго канца велічэзнай залы ў другі, працягнуў тэатр «Леле» фрагментам лялечнага спектакля «Эгле — каралева змеяў». Да ланцужка акцёраў, якія, узяўшыся за рукі, адзін за адным ішлі па зале, далучаліся ўсе, хто хацеў. Поціскі рук людзей у карагодзе злучылі амаль усіх прысутных, і тады «паход лялек» скончыўся.

Амаль поўную цемру, што панавала ў кацельні, змяніла яркае святло, далоні расціснуліся і маленькі цуд знік. Зноў загучалі музыка і спевы, на гэты раз у выкананні ансамбля летувіскага цэнтра габрэйскай культуры «Фолькс зінгерс». «Менскі гармонік» быў перадапошнім — на шчасце, бо такое скончэнне вечарыны ў лепшым выпадку азначала б няпоспех. Настрой свята, як і ўчора, здолелі захаваць музыкі і танцоры з Летувы, якіх ужо пазнавалі ў твары. «Лабас вакарас!» — віталіся палякі і беларусы з музыкамі «Кікуліса» і «Выдрагі».

Трэці, апошні дзень спаткання... Сімпозіум кіно, дзе былі прадстаўленыя фільмы сямі аўтараў, у тым ліку Уладзімежа Шпака аб культуры габрэяў, татар і караімаў. Беларускае кіно прадстаўляў адзіны дакументаліст Уладзімір Колас.

Вечаровая сустрэча мела назву «Ноч маладых шукальнікаў слядоў забытай музыкі». Гэта была сустрэча моладзі, што знаходзіць сваю культурную адметнасць праз вывучэнне і захаванне старой абрадавай музыкі, песняў і танцаў свайго народа. Удзельнікамі сустрэчы сталі музыкі розных накірункаў: і тыя, для каго фальклор з'яўляецца толькі падмуркам далейшай творчасці, і тыя, чыя мэта — захаванне старадаўняй спеўнай і музычнай традыцыі. Віленскі гурт «Кулдрынга» выконваў музыку дахрысціянскіх часоў. «Ліцьвіны» — песні, запісаныя ад людзей са знішчаных Чарнобылем вёсак Гомельшчыны. І музыка, якой бы рознай яна ні была, яднала людзей, блізкіх духам.

Сустрэча скончылася позняй ноччу. Наступным ранкам яе ўдзельнікі пакідалі гасцінную Варшаву.

Увечары 18 кастрычніка наш аўтобус пад'язджаў да Мінска. Музыкі «Новага неба» смакавалі польскае піва, спявачкі з «Гармоніка» выконвалі «Жила бы страна родная...», дзяўчаты з «Ліцьвіноў» разглядалі касеты, падараваныя ім жамойцкімі фалькларыстамі.

— Ці было ўсё так, як вы чакалі? — спытаў я кіраўніка «Ліцьвіноў» Уладзіміра Бярберава.

— Не, бо тое, што адбылося, было для нас не проста выступам перад публікай. Мы спаткалі там людзей, падобных да сябе, з якімі хацелася б сустракацца яшчэ, — галоўным было гэта.

Дома, пракручваючы зроблены на дыктафоне запіс, я знайшоў апошнія словы, сказаныя мне заснавальнікам «Ашрам анавім» — кляштара мастацтва:

— Я спадзяюся, што фонд і ягоная дзейнасць будуць спрыяць сустрэчам людзей розных народаў, розных культур, розных рэлігій. Бо гэта вялікая радасць — адкрываць сабе душу іншага чалавека, адкрываць свайму народу душу і культуру іншага народа.

**Уладзімір ПАНАДА** *(фота аўтара)*

і ванна. Не знайшоў я тут і акна. Фортачка толькі ў туалеце побач. І ў той жа час над плітой вісіць газавая калонка. У астатнім жа ўсё як і ў нас. Толькі на сценах замест шпалераў каляровая, з узорам, пабелка. Гэта ўжо традыцыйнае.

— Баюся, што ўсе разам у адным пакоі вы не адпачняце, — зазначае Сяргей. — Можа, я спытаю зараз у сябра, каб каго з вас адвёз на месца? Ён якраз гэтую ноч дзяжурыць на УАЗе.

Мы згодна кіўнулі галовамі. Праз колькі хвілін Сяргей вярнуўся з вуліцы і паведаміў:

— Вадзіцель запрасіў дзве тысячы купонаў і бутэльку гарэлкі. Самі ведаеце, як у нас з бензінам.

Раскінуўшы на ўсіх выдаткі, мы вырашылі, што не вельмі дорага, і далі дабро.

Адразу ўпакавалі багаж, і разам з ім шасцёра чалавек рушылі ў прыгарадную вёску Сакольнікі. Астатнія, у тым ліку і я, засталіся з Сяргеем. Але і ён хутка знік, кінуўшы з парога:

— Я да сяброў. Гудзець будзем.

Ведама, маладыя, нежанатыя.

З жыхароў кватэры з намі застаўся толькі калматы цюцік, які расцягнуўся ў цеснай прыхожай і пільнаваў наш сон.

На наступны дзень мы прачнуліся каля васьмі раніцы, паспелі «ўзяць» па кілішачку «Рускай», і свежанькія пасля добрага адпачынку заспяшаліся ў Палац шчасця — вялізную будыніну, дзе рэгіструюцца шлюбы. Маладыя спазняліся, і хвілін дваццаць давялося чакаць. Прыкладна столькі ж часу заняла і сама цырымонія. Я пра сябе адзначыў, што ў нас у ЗАГСах ці нават у сельскіх дамах культуры яна праводзіцца больш шыкоўна, з цікавымі гульнямі, танцамі. Спадабалася толькі, што тут прысутнічала жывая музыка — іграла скрыпка.

Адсюль легкавікі за некалькі хвілін даімчалі нас да царквы. Звонку выгляд яе быў досыць унушальны, грандыёзны, знутры — таксама, але тут я заўважыў, што будынак яшчэ захоўвае сляды былога занядбання. Месцамі тынкоўка на сценах, а разам з ёю і каляровыя малюнкі з выявамі святых, паабсыпалася, агаліўшы чырвоныя патрэсканыя цагліны. Вянчанне вялося выключна на ўкраінскай мове. І што асабліва ўразіла — святы айцец доўга-доўга гутарыў з маладымі на «жыцейскія» тэмы, павучаў, як будаваць сямейныя адносіны.

...Нарэшце мы ад'язджаем у Сакольнікі. Цікава, якія яны? Як выглядае прыкарпацкая вёска?

## 5. ВЯСЕЛЛЕ Ў САКОЛЬНІКАХ

**Першае ўражанне ад вёскі: масіўнасць, уладкаванасць і... аляпаватасць.**

**Масіўнасць — гэта ад велізарных каменных дамоў, якія, здаецца, сядзяць адзін на адным на схілах пагоркаў уздоўж вуліц.**

Аляпаватасць — ад таго, што пра эстэтычны выгляд свайго жытла тут мала хто клапоціцца. Рэдка якая хата атынкавана і пафарбавана ці акуратна пабелена рознымі колерамі пабелу — з абводкай, вабным малюнкам. Часцей цагліны ці блокі попельнага колеру нічым не прыкрыты і нават швы між імі не падроўнены ці не акрэслены. Няма той строгасці, вытанчанасці, якая прысутнічае ў нашых пабудовах з цэглы.

Пра ўладкаванасць жа гаворыць велічыня дамоў /у нас такія сустракаюцца хіба што на новых дачах начальнікаў усялякіх рангаў/, якія патанаюць у зялёным вецці алычы, грэцкіх арэхаў, вішань ды сліў, а таксама чароды гусей, качак, коз, авечак на лужку каля невялічкай рэчкі.

...Вяселлі тут пачынаюцца надвячоркам а чацвёртай гадзіне. Прыкладна ў такі самы час пачалі сцякацца госці і гэтым разам. Яны падыходзілі да парога і чакалі, покуль выйдзе гаспадар або гаспадыня і запросіць у хату. А ў гэты момант у іх гонар разрываліся медныя трубы музыкаў, бомкаў, цыкаў, дзынкаў барабан з прымацаванымі да яго металічнымі талеркамі, выводзіў мелодыю гармонік.

— Бачыш, — крычыць мне ў вуха, бо музыка аж шалее, жонка, — не прапусцяць ніводнага госця. Кожнаму нешта ды сыграюць.

Я згодна ківаю галавою. Мне даспадобы гэтая іхняя традыцыя.

У хвіліну чарговага зацішша, калі госці перасталі паяўляцца на падворку, адзін з музыкаў — чарнявы шустры мужчына сярэдніх гадоў — падыходзіць да нас і заводзіць гутарку.

— Выбачайце, што мы ўсё сваё, народнае іграем. Але ж хопіць ужо пад чужую дудку танчыць. Мы, украінцы, цяпер ого як адчуваем сваю нацыянальную годнасць. І гэта яднае нас і дае нам сілы. Цяпер не дазволім чужынцам усесціся на наш карак. Яны ж, маскалі гэтыя, усё жыццё пагарджалі намі: як украінцамі, так і беларусамі. Але мы знайшлі мужнасць сказаць «годзе». А калі скажаце вы? О-о, вы ўсё яшчэ пад пятой у Масквы, як муж у сварлівай жонкі...

Не дагаварыўшы, бягоймы вяртаецца да сваёй трубы, бо падшыванцы ўжо наперабой загарлалі: «Прыехалі! Маладыя прыехалі!»

Зноў гучыць музыка. А я думаю — хто ж па прафесіі гэты «нацыянальна свядомы ўкраінец»? Няўжо інтэлігент? З выгляду, дык падобны да трактарыста. Пасля ўжо даведаўся — працуе ён вадзіцелем у Львове, а жыве, як і яго сябры-музыкі, тут, у Сакольніках.

Мы чакалі, пакуль збяруцца запрошаныя ў госці местачкоўцы, каб пасля сесці за сталы і самім. Усім разам. А перад тым, як усаджвацца, нехта з нашых шапнуў: «У іх завядзёнка — дарыць адразу. Прыходзяць, даюць грошы, пляшку ці кветкі, і пасля ўжо застаецца толькі гуляць». — «То й мы давайце зараз падарым».

І на вачах ва ўсяго вяселля «беларуская дэлегацыя» вынесла свае пакункі. Балазе, паказаць было што. А напрыканцы чыста сімвалічна падарылі некалькі беларускіх паперак:

— Вазьміце «зайчыка», каб нарадзілі «мальчыка». Вазьміце «бабра», каб было ўсялякага дабра. А астатнія на дарогу, каб прыехалі туды, дзе нарадзіўся малады!

І пачалося застолле. На Львоўшчыне яго рыхтуюць толькі на адзін дзень. Затое доўжыцца гулянне доўга. Вечарам людзі разыходзяцца па дамах, кормяць шматлікую жыўнасць, а пасля зноў п'юць, спяваюць, скачуць аж да самага ранку, калі зноў трэба ісці карміць або выганяць на пашу худобу ды птушку.

Наспяваўся, колькі хацеў, і я. Гэта ж трэба: усе песні, каторыя можна назваць «дзяжурнымі» або, калі хочаце, абавязковымі на вяселлях нашага Палесся, гучалі і тут. Як са сваімі землякамі, я з задавальненнем гарлаў «Была мэнэ маты...», «Стэлыця барвінок...», «Ой, горалы хлопцы ныву...», «Тычэ річынька...», шмат іншых — самотных і вясёлых. Пасля наш стол вырашыў выдзеліцца, і мы заспявалі чыста беларускія песні. Пачалі спаборнічаць, хто гучней, хто пераспявае. Гэта развесяліла нават закаранелых меланхолікаў.

Мне ж радасці дадала яшчэ і такая акалічнасць: гаспадар падчас гульбішча падышоў да мяне і прапанаваў азірнуцца. Ззаду стаяў сервант, а на яго паліцах — падстаўкі для самапісак, вытачаныя /з чаго б вы думалі?/ з каменя.

— Выбірай, — прапанаваў ён /тут я дам некаторыя тлумачэнні, Справа ў тым, што гаспадар — Уладзімір Харкевіч — кандыдат геалагічных навук і працуе ў Львове ў даследчым інстытуце/.

— Вось гэтую, — паказаў я на светла-карычневы, з падобным да гадавых колцаў на спіле дрэва малюнкам, бліскучы прадмет з уваткнутай у яго ручкай. — Як называецца камень, з якога яна зроблена?

— Гэта мармуровы онікс. Я прывёз яго з Туркменіі.

— Дзякуй /між іншым, падоранай ручкай я пішу гэтыя нататкі. А калі скончу, пакіну яе ў кругленькай адтуліне, прасвідраванай у цвёрдым маналіце/.

Тады ж я спытаў:

— Вы атрымалі ўсе мае пасылкі?

— Так. І з асалодаю чытаў на роднай мове. Шмат чаго даведаўся пра культурнае адраджэнне свайго краю. Нават не адзін я чытаў, а і ўсе мае сябры з таварыства «Белая Русь», якое аб'ядноўвае свядомых беларусаў горада. Іх, праўда, не так і многа. На штомесячныя сустрэчы прыходзіць чалавек 20—25, не болей. Але галоўнае, ёсць дзе адвесці душу, пагаварыць пра самае святое — родную Беларусь. Цяпер во занясу гэтыя выданні, што ты прывёз. Парадую ўсіх. Мы ж тут згаладаліся па беларускай літаратуры, хоць у кожнага ў хатняй бібліятэцы дзесяткі і сотні кніг на роднай мове. Не хапае іменна навінак. А пазнаёміць з імі могуць якраз літаратурныя часопісы ды газеты.

Пакуль малады выносіў «запарожцам» /мужчынам, якія стаяць «за парогам» і патрабуюць гарэлку/ пляшку за пляшкай, задабраючы, каб не павыбівалі вокны ці не паламалі парканы, я расказаў свайму субяседніку, які быў і сваяком, і земляком, і аднадумцам, пра аўтараў «Тугі па Радзіме», пераказаў сваімі словамі змест рамана Масея Сяднёва «Патушаныя зоры», і гэтым, заўважыў, яшчэ болей адагрэў, адхукаў ягоную вельмі ўспрымальную да ўсяго, што тычыцца роднай зямелькі, душу.

...Калі а другой гадзіне ночы мы палезлі, не вытрымаўшы занадта імклівага тэмпу, на гарышча спаць, знізу даносілася заліхвацкая музыка і ўкраінскія песні. У плечы кальнула пагрозлівым радком прыпеўка: «...з Украіны геть».

«Нацыяналісты». Напэўна, падумаў бы так, калі б не ведаў гэтых людзей. Але я быў упэўнены, што яны ніколі не скажуць «геть» прадстаўніку іншай нацыянальнасці, які хоць крышачку паважае іх як грамадзян сваёй краіны. А расповяды пра тое, што львавяне, маўляў, паводзяць сябе нібы глухія, калі да іх звяртаюцца па-руску, мне здаюцца перабольшанымі. У трамваях, аўтобусах, на вуліцах ды ў магазінах я, бадай, часцей чуў рускую мову, чым украінскую.

Мы толькі дакрануліся да пасланай проста на сена коўдры, як адразу ж паснулі. А на вуліцы давідна звінелі трубы, галасіў гармонік, трашчаў барабан і цокалі талеркі...

## 6. ДАХАТЫ

Прыкладна апоўдні наступнага дня мы выпраўляліся ў зваротны шлях. У руках — сумкі з распакаванымі па іх мяшком мукі і мяшком цукру. Засталіся ад вяселля.

Валодзя пры развітанні напомніў:

— Не забывай жа — дасылай мне газеты, часопісы, кніжкі.

— Не забуду. Прывітанне сябрам з таварыства.

Шчыра кажучы, я вельмі здзіўляўся, што ўвесь гэты вясельны тлум не перашкаджаў яму думаць і пра Беларусь, і пра беларускія выданні.

І мы зноў у дарозе. Зноў баімся, каб хаця мытнікі не адабралі ў нас муку ды цукар. Мінаем мяжу... і вось мы зноў дома.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

*г. Іванава*

*Сярод здымкаў, змешчаных у кніжным выданні «Споведзі» Ларысы Геніюш /Мінск, «Мастацкая літаратура», 1993 год/, ёсць і такі: «Зноў сустрэліся былыя лагернікі Л., І. Геніюшы, М.Канаш». Прозвішча Канаша згадваецца і ў каментарыях да ўспамінаў паэткі. Ад руплівага жлобінскага журналіста і краязнаўца Міколы Шуканава я даведаўся,што Мікола Іпалітавіч Канаш і зараз жыве ў Жлобіне. І вось пішу ў Жлобін, задаю пытанні, каб даведацца пра акалічнасці знаёмства Канаша з Ларысай Антонаўнай, пра тое — лагернае — успрыманне яе асобы і яе паэзіі. Так спакваля нарадзілася інтэрв'ю з былым вязнем ГУЛАГа.*

*Але спярша — пра некаторыя старонкі з біяграфіі самога М.Канаша. Нарадзіўся ён у 1926 годзе на Браслаўшчыне. З 1943 па 1944 гады вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. Меў прыналежнасць да Саюза Беларускай моладзі. З 1944 года па 1948 год — у Савецкай Арміі. У войску і быў арыштаваны — за прыналежнасць да СБМ. Ваенны трыбунал асудзіў яго на 25 гадоў. У адным з апошніх лістоў мой жлобінскі карэспандэнт піша: «Мяне рэабілітавалі 18 мая 1992 г. Але таўро як нацыяналіста СБМ /Саюза Беларускай моладзі/, прышытае некалі мне на спіне бушлата пад нумарам Б. 182, засталося на ўсё жыццё. Такія былі законы, і сёння мала што чым адрозніваюцца. Закаранелыя партакраты калі ўжо хоць раз некага заплямяць, то ніякая хімчыстка ўжо не паможа...»*

*Пераглядаючы адказы Міколы Іпалітавіча на пастаўленыя мною пытанні, я адчуў, што ў прынцыпе сваімі развагамі, сваімі меркаваннямі, сваёй памяццю мой субяседнік як быццам выслізнуў за межы традыцыйнага інтэрв'ю. Таму і вырашыў зняць пытанні, прапанаваўшы чытачу проста роспавяд М.Канаша. Пакідаю ў тэксце і доўгае /у рэдакцыі Міколы Іпалітавіча/ цытаванне вершаў Ларысы Антонаўны.*

Лёсы

# «ЧУЖЫЯ ВОКНЫ Ў ВОКНЫ МНЕ ГЛЯДЗЯЦЬ...»

— Нейкі час сядзеў я ў Ленінградзе ў турме «Кресты». Адтуль жа па волі лёсу ў 1949 годзе пападаю ў пасёлак Інта Комі АССР на Першы ОЛП, у гэты ж час там жа, толькі на чацвёртым ОЛПе - жаночым, знаходзілася Ларыса Геніюш. Адлегласць — каля чатырох кіламетраў. І вось там, на 1-ОЛПе, сярод зняволеных беларусаў па руках хадзілі невялікія запіскі ад Ларысы Геніюш, пераважна з яе вершамі.

Аднойчы мне пашанцавала прачытаць адну з іх, гэта быў верш, які адразу запомніўся на ўсё жыццё. У гэтых неверагодных умовах ды яшчэ па-беларуску!.. Верш у друку, здаецца, не быў. Пачынаўся ён так:

**Краіна родная, не плач слязмі крывавымі,**
**Надзеі нашае ў няволі не губляй,**
**Мы сілай, мужнасцю**
**цябе яшчэ праславімо**
**Далёй воляю, пад новы ўраджай.**

Ён так усхваляваў мяне, што я некалькі дзён як бы жыў ім. І праз некаторы час адважыўся напісаць аб гэтым Ларысе, дзе прызнаваўся, што вершамі яе зачытваюся да слёз, што яны даюць мне сілы і веру ў маё незайздроснае заўтра. /А якім чынам працавала наша пошта — цэлая гісторыя/. У хуткім часе атрымаў адказ, а разам з ім і верш «Юнасць»:

**Сады зацвітаюць за дротам,**
**А вёсны даўно адцвілі.**
**Сплылі яны крыўдай і потам**
**За волю каханай зямлі.**
**Сады адцвітаюць над Нёмнам,**
**Ля берагаў нашай Дзвіны.**
**А юнасць на поўначы цёмнай —**
**Цяжкія рвучы кайданы.**
**Цвілі сады нашы ад веку,**
**Вякі яшчэ будуць цвісці.**
**А юнасць — вясна чалавека —**
**Раз толькі красуе ў жыцці.**
**Усё ж нам не жаль яе цвету,**
**Найлепшых чароўных гадоў**
**Для ніў тваіх, шчасця для свету,**
**Зняволены краю дзядоў.**

Вось так і адбылося наша першае знаёмства, якое пасля перарасло ў дружбу.

Вершы Ларыса пісала экспромтам. Яны рваліся праз драты. Некаторыя з іх вучыў на памяць. І ў цяжкія хвіліны жыцця ўспамінаў у думках. Яны мяне грэлі ў мароз і сцюжу, я ўпіваўся імі да ап'янення.

**Чайка, вырваўшыся з кратаў**
**Ў страшны буралом,**
**Да грудзёў прынікла братніх**
**Раненым крылом.**

Вершы Ларысы вучылі любіць свой народ, Радзіму. І не я адзін, а многія зняволеныя гартавалі сябе. Ларыса Антонаўна для многіх была настаўніцай, а для мяне проста маці.

**Паны ў сябе мы, а не слугі,**
**Ярмо адкінуць нам пара.**

Часта ўсіх нас называла «коцікамі», арламі ці проста — братамі. Вось радкі з яе вершаў «Я сустрэлася з сябрамі не на балі», «Цень» і «Шахцёр»...

**Я прыйшла да вас, браты ў цярпенні,**
**На плячо накінуўшы бушлат.**

●

**Знаю, я не забуду ніколі**
**Тваіх слёзаў з шахцёрскіх вачэй.**
**Я збяру іх як весткі ад сына,**
**Быццам братніх пачуццяў прыліў.**
**Успрыму іх як слёзы мужчыны**
**На пасцелі ўсхвалёваных ніў...**

●

**А калі будзе нельга сустрэцца,**
**Буду думаць, «сынулька», усё ж,**
**Што хоць ты сваё вернае сэрца**
**«Ёй», пакутнай, як дар прынясеш...**

У сваіх вершах Л.Геніюш абганяла час і таму заўсёды была маладой сярод нас.

Да чытацкіх водгукаў яна адносілася крытычна, калі гэта датычылася самой паэзіі, але ж былі людзі, якія разглядалі другія бакі паэтэсы, дзе ўжо закраналася асабістасць, што вылівалася ў казуістыку і аблуду. Прыклады такія ёсць, але пра іх я змаўчу.

Трагедыйнасці ў сваім жыцці Л.Геніюш не бачыла, былі ў яе магчымасці аказацца далёка за межамі і быць недасягальнай рэпрэсіўным уладам, што і зрабілі многія яе суайчыннікі. За сабой яна ніякай віны перад беларускім народам не адчувала і здраднікам сябе не прызнавала.

І ў лагеры не шукала яна лёгкага хлеба, а працавала за зонай «на общих», хутка з усімі зэкамі знаходзіла ўзаемнасць. Добрыя адносіны рабілі сваё. Літоўцы яе лічылі сваёю, украінцы — таксама. А мы, беларусы, больш за ўсіх — цалавалі яе ў сваіх лістах. І з вялікім гонарам чыталі яе вершы, якія западалі ў нашы сэрцы і душы. Ларыса Геніюш была нам усім патрэбна, як родная маці.

І пасля, на Радзіме, калі пахавала мужа і засталася адна, хворая, атрымоўваючы палову мужавай пенсіі ў 37 рублёў 75 капеек, умела жыць і прымаць гасцей, казала: «Усяму навучыла мяне лагерная «пайка» і ўсё ж я лічу сябе шчаслівай».

Пра разуменне вечнасці паэзіі, яе суадносіны з часам з Ларысай Геніюш мне не даводзілася гутарыць. Ды і не было на тое патрэбы. Але кожнаму свядомаму чалавеку зразумела: што геніяльнае, тое і вечнае.

На мой погляд, Ларыса Антонаўна сярод жанчын-паэтак займае вартаснае месца. І хаця па сваёй натуры скупая на словы, але яе бедалажнае жыццё надзяліла немалым талентам. Таму пастаянна яе душа і сэрца пераўтваралі ў вершы шчодрыя пачуцці.

Заўважце, з яе твораў нельга нешта выкідваць, падмяняць народжанае душой: падмена адразу навідавоку. Вось вам і прыклад. У кнізе «Белы сон» на старонцы 260 вы можаце прачытаць: «Мецъ у жыцці сваім іншую долю!» А на самай справе ў Ларысы Геніюш было: «У жыцці маім гэта — Айчыне даць волю!» Адчуваеце, разумееце розніцу?

Вас, сённяшніх маладых людзей, дапытлівых, цікавіць тое, што некалі забаранялася і стаяла пад грыфам «совершенно секретно, хранить вечно». Лагерны побыт — гэта кожнага дня брудная, посная пахлёбка, якую можна выпіць цераз край без лыжкі, на другое — пюрэ з мёрзлай бульбы, яно мела выгляд тэніснага мячыка, толькі гумовага. Праўда, у каго яшчэ былі маладыя зубы, давалі рады. Часам і аўсянай кашай кармілі. Яна напаміпала нешта накшталт кісялю, толькі з дамешкай асцюкоў. І калі выканаеш дзённую норму на 130 працэнтаў, атрымаеш кукурузную запяканку велічынёй са два карабкі сярнічак. І хлеба ад 800 да 1200 грам. Пастаянныя праверкі, шмоны, пражаркі клапоў і г.д. Пра ўсё такое можна асобны раздзел напісаць.

Канспірацыя была абавязковай. Пры розных шмонах маглі трапіць на запіскі — надзірацелямі старанна ўсёператрасалася. Калі вярталіся з працоўнай зоны ў «зону адпачынку», таксама кожны з нас праходзіў шмон: разуваліся, здымалі верхнюю вопратку. Прашчупвалі ўсё, хаця ж каб толькі нехта нечага недазволенага не занёс /нож, адвёртку, керамічныя вырабы і г.д./. Хавалі ўсё ў роце, між пальцаў. Адным словам, хто як мог.

Я працаваў на шахце нумар 2, забойшчыкам, з адбойным малатком. Праца гэтая лічылася найцяжэйшай. Выкарыстоўвалі на ёй пераважна маладых і хто меў тэрмін зняволення ў 25 гадоў. Дык вось, лісты ад Ларысы Антонаўны я хаваў пераважна ў самой шахце. Пасля некаторыя лісты нішчыў.

Як вядома, у 1955 годзе Ларысу Антонаўну ўзялі на этап з лагера пасёлка Абяз і павезлі ў Казахстан. З таго часу ўсе нашы сувязі перарваліся. Ішоў час, мяняліся падзеі як на палітычнай арэне, так і вакол нас. Але памяць і надзея сустрэчы на Радзіме, выказаная пры расстанні, не пакідала нас. І толькі ў 1970 годзе я атрымаў ліст са знаёмым мне почыркам ад Ларысы Антонаўны. Яна запрашала мяне ў госці ў Зэльву.

Нарэшце адшукала, падумаў я. Самалётам даляцеў да Гародні, адтуль аўтобусам да Зэльвы. Пастукаў у дзверы. Адчыніла незнаёмая мне жанчына. «Вам каго?» — спытала яна. «Мне Ларысу Антонаўну». «Я і ёсць. А хто будзеце вы?» «Я Мікола Канаш». «А чым вы гэта дакажаце?» «Пастараюся даказаць». «То заходзьце»...

Восенню 1973 года я пераехаў з Комі АССР на Беларусь. Канешне ж, стала шмат бліжэй да Зэльвы. І ўсё роўна ў лістах не паведамляў аб сваім візіце. Так трэба было рабіць у той час. З'яўляўся знянацку, іншы раз — ноччу... Аб гэтым дакладна напісала сама Ларыса Антонаўна:

**Чужыя вокны ў вокны мне глядзяць.**
**Праз іх за мною дзень і ноч вартуюць.**
**Упарта ворагі за мной слядзяць**
**І праз фіранкі нас фатаграфуюць...**

І яшчэ:

**А на рагу стаіць блатны,**
**І людзям страх начамі наганяе,**
**Вартуе па-сабачаму мае куты,**
**Каб не ступіла тут нага чужая.**

**Каб з паднябесся не зляцеў арол,**
**Вачыма не заглянуў ў маю клетку,**
**Не расказаў пра мой крывавы боль**
**І не прынёс ад мілых брацціяў весткі.**

Вось у такіх умовах даводзілася наведвацца ў Зэльву. Я тады быў яшчэ малады, і па спартыўнай выпраўцы і вопратцы многія мяне лічылі супрацоўнікам органаў дзяржбяспекі. Наведваўся, а праз дзень ці два знікаў у невядомым напрамку. Літаральна праз некалькі гадзін мог аказацца ў Вільні ці ў Менску, альбо ў Латвіі ці ў Паставах. А з сабою вёз новыя вершы, сфатаграфаваныя на пазітыўную плёнку, праяўленую там жа, у Ларысы Антонаўны. Плёнка займала вельмі мала месца і пры зразумелых абставінах магла быць знішчана ці выкінута ў дарозе. Прыязджаў у Зэльву без шапкі і акуляраў, а недзе ў Баранавічах надзяваў і тое, і другое. Магчыма, усё гэта было і залішне, але, прайшоўшы праз многія выпрабаванні, сутыкнуўшыся з мноствам прадажных стукачоў, вымушаны мы былі так рабіць.

Ларыса Геніюш у гэтых адносінах была вельмі прадбачлівая. І многіх наведвальнікаў проста з парога выпраўляла з ветрам...

**Такі вось роспавяд у Міколы Іпалітавіча Канаша. Наўрад ці што можна дадаць да гэтай шчырай, журботнай споведзі чалавека, да спіны якога дакрануліся жорны сталінскага млына.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара — 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі — 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-85, літаратурнага жыцця — 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, паэзіі і прозы — 33-22-04, музыкі — 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, навін — 33-24-62, мастацкага афармлення — 33-22-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000.
Нумар падпісаны 9.12.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12